Шчырая падзяка за інфармацыйную падтрымку
праваабарончаму цэнтру «Вясна» і асабіста Алесю Бяляцкаму

Выкарыстаны фотаздымкі Сяргея Балая, Андрэя Дубініна, Уладзіміра Грыдзіна,
www.svaboda.org, ByMedia.Net і сямейных фотаальбомаў.

Падзеі 19 снежня 2010 года настолькі значна ўскалыхнулі грамадства, што адгэтуль усе міфы пра так званую «беларускую памяркоўнасць» і «стабільнасць», якія мы чуем апошнія 17 год, не больш як спроба выдаць асабістыя мары за сапраўдную рэчаіснасць. Кніга менавіта пра гэта і пра тых, хто адважыўся пайсці супраць плыні.

У некаторым сэнсе перад вамі працяг тэмы «Будзіцеляў».



# Каб ведалі

Новая кніга Аляксандра Тамковіча працягвае яго нястомную і высакародную працу па стварэнні галерэі партрэтаў лідэраў і актывістаў дэмакратычнага руху. У ёй мы сустракаемся і з даўнімі добрымі знаёмцамі, і з тымі, хто прыйшоў у палітыку зусім нядаўна, хто быў, як тамусяму здаецца, нечакана і нават выпадкова ўзнесены на хвалю грамадскай увагі падзеямі снежаньскай Плошчы 2010 года.

Яны розныя — і паэт Уладзімір Някляеў, прафесар Анатоль Паўлаў, палітык Мікалай Статкевіч, якія паспелі адсвяткаваць сур'ёзныя юбілеі, і зусім юныя Фёдар Мірзаянаў і Мікіта Ліхавід, што толькі-толькі пачынаюць сваё дарослае жыццё, і сталыя ўжо Анатоль Лябедзька ды Павел Севярынец, загартаваныя ў жорсткіх ідэйных баях, і іхнія маці, жонкі, сёстры, каханыя, поўныя страху і гонару за блізкіх сваіх людзей. У іх розныя прафесіі, розныя зацікаўленасці, розныя сяброўскія суполкі. Але ўсіх іх аб'яднала вера ў справядлівасць, любоў да вольнай Бацькаўшчыны, гатоўнасць змагацца за праўду і будучыню.

Цікавая, на мой погляд, адметнасць прасочваецца ў паводзінах усіх, каму прысвяціў старонкі сваёй кнігі Аляксандр Тамковіч: і ў ізалятары КДБ, і ў судзе, і ў турэмных засценках яны не адракліся ад сваіх пераканнняў, не выпрошвалі сабе палёгкі за кошт паплечнікаў, не адхрышчваліся ад рызыкоўных парыванняў. І гэта не было вымушаным жэстам у трагічнай і крытычнай сітуацыі. Гэта было заканамерным вынікам сямейнага выхавання, студэнцкага брацтва, асэнсаванага маральнага выбару.

Я катэгарычна не згодны з тымі, хто называе іх ахвярамі Плошчы. Для мяне яны — героі Плошчы, кожны са сваім лёсам і характарам, са сваім запасам мужнасці і высакародства, са сваёй меркаю шчырасці і адданасці. У суровыя і сцюжныя, гістарычныя для Радзімы дні яны сталі адной сям'ёй. І я вельмі хачу, каб такой вось згуртаванай сям'ёй аднадумцаў сталі нарэшце ўсе беларусы. Тады, я веру, мы пераможам і адсвяткуем чаканы трыумф дабра, праўды, чалавечай годнасці і светлага розуму.

Вось чаму я настойліва раю ўважліва прачытаць гэтую кнігу, адкрыць для сябе імёны і духоўны свет выдатных суайчыннікаў, якія — што цалкам магчыма — жывуць зусім побач. Іх трэба ведаць, каб было кім ганарыцца, успамінаючы наш хуткацечны і складаны, смутны і бязлітасны час...

Генадзь Бураўкін



# ДВА ФЁДАРЫ



***Даведка:*** Фёдар Мірзаянаў нарадзіўся 9 снежня 1990 года ў Баранавічах. Скончыў гімназію, у 2008 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Пасля падзеяў 19 снежня адбыў адміністратыўны арышт тэрмінам 15 сутак. 25 студзеня 2011 года зноў арыштаваны. Прад'яўлена абвінавачванне ў здзяйсненні злачынства па арт. 293, ч. 1 і 2 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь («Масавыя беспарадкі»). 14 траўня 2011 года асуджаны на 3 гады зняволення. Вядомая праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала яго палітвязнем.

Адразу ж хачу апярэдзіць тых, хто ўбачыў у маёй назве нейкі плагіят з першага фільма Марлена Хуцыева, і падкрэсліць, што такі выбар цалкам абгрунтаваны. Фёдара Мірзаянава прынцыпова назвалі ў гонар дзеда. Толькі той пасля вайны змагаўся на Заходняй Беларусі за савецкую ўладу, а ўнук цяпер змагаецца супраць улады існуючай.

## Прага свабоды

Фёдара-малодшага за адны і тыя ж падзеі арыштоўвалі двойчы. Першы раз — адразу ў вечар 19 снежня 2010 года. За гэта яму далі «традыцыйныя» 15 сутак арышту і накіравалі ў Жодзінскі СІЗА. Другі раз «узялі» 25 студзеня 2011 года. І зрабілі гэта вельмі па-езуіцку. Калі не сказаць больш жорстка — подла. Дачакаліся, пакуль застаўся апошні экзамен, і «закрылі». На жаль, сёння падобнае лічыцца «вышэйшым пілатажам».

І нікога не хвалявала, што «ўдзелу ў масавых беспарадках» не пацвердзіла нават міліцэйскае відэа. Тры гады турмы далі толькі за тое, што юнак смяяўся на прыступках Дома ўрада і выцягнуў асколак з кімсьці пабітага шкла, які мог параніць іншых. Англійскі пісьменнік Кэрал Льюз называў такія краіны Залюстэркаўем...

Прадзеда Фёдара-малодшага па лініі маці звалі Іванам Георгіевічам. У гэта цяжка паверыць, але звычайны сялянскі чалавек пра гісторыю сваёй краіны ведаў не менш, чым пра ўласную гаспадарку. Ён не меў спецыяльнай адукацыі (чатыры класы пачатковай школы), але пра Кастуся Каліноўскага і Тадэуша Касцюшку ўпершыню ўнучка Людміла пачула менавіта ад яго, бо на ўроках школьнай гісторыі іх прозвішчы тады не ўзгадвалі. І свайго сына Іван Георгіевіч хацеў назваць у гонар знакамітага барацьбіта за незалежнасць беларускай краіны, але жонка палічыла гэта больш не беларускім імем, а польскім. У выніку сямейнага кампрамісу, які стаў следствам лагічнага ланцуга Тадэуш-Тодар-Фёдар, Людміла і стала Фёдараўнай.

Фёдар Іванавіч Аніська без усялякіх перабольшванняў быў унікальным чалавекам. Пагадзіцеся, у няпоўныя сямнаццаць год узначаліць буйны сельскі савет — і гонар, і рызыка. Асабліва пасля вайны і асабліва ў Заходняй Беларусі. У такіх умовах без асабістай мужнасці не выжыць. Магчыма, менавіта гэтая якасць і перадалася яго ўнуку.



Фёдар Рымавіч Мірзаянаў нарадзіўся 9 снежня 1990 года. Тыя, хто верыць у наканаванасць чалавечага лёсу, лічаць, што шмат залежыць ад умоў нашага прыходу ў гэты свет. Калі так, то тут можна толькі пазайздросціць, бо нараджэнне адбылося ў перыяд вялікага жыццёвага поспеху яго маці. Паўгады таму яна была ўдзельнікам Усесаюзнага з'езду творчых выкладчыкаў педагагічных вучылішч. Для трыццаці год гэта больш чым салідна.

Бацька юнака Рым Мірзаянаў, па спецыяльнасці інжынер-сістэматэхнік, месяц працаваў у Расіі, а другі месяц знаходзіўся ў Беларусі. І амаль цалкам прысвячаў яго выхаванню сына. Маці Людміла Мірзаянава, якая зараз з'яўляецца кандыдатам псіхалагічных навук, у гэты час вельмі шмат увагі надавала сваёй навуковай дзейнасці, таму Фёдар, (дзякуй Богу — яе словы), вельмі хутка стаў СВАБОДНЫМ чалавекам. А галоўнае — прывык адказваць за свае дзеянні.



У школе Фёдар быў вельмі сур'ёзным вучнем. Задаваў шмат пытанняў, якія часам не вельмі падабаліся настаўнікам, таму што прымушалі крытычна думаць і іншых вучняў. Пасля «выпускнога» так і сказалі Людміле Фёдараўне: «Цудоўны ў вас вырас сын, але нам з ім было асабліва цяжка, бо вельмі любіць пытацца»...

На школьную вучобу ішло не шмат часу, большасць займалі кнігі, розныя камп'ютарныя праграмы, падрыхтоўка да алімпіяд. А яшчэ, як і яго бацькі, хлопец не быў абыякавы да таго, што адбываецца ў краіне.

Адзін са школьных сяброў не так даўно ўзгадваў, як падчас выбараў-2001 таемна ад бацькоў, ноччу, яны клеілі па Нясвіжу ўлёткі з агітацыяй за апазіцыйнага кандыдата. Хлапчукам было тады адначасова і страшна, і цікава. 11 год!!!

Па даручэнню настаўнікаў Фёдар праводзіў у класе палітінфармацыі і ставіўся да гэтага вельмі сур'ёзна. Заўсёды чытаў шмат газет і крытычна, удумліва аналізаваў іх змест.

У 2003 годзе бацькі сустракалі сына з Італіі. У дванаццацігадовым узросце ён стаў удзельнікам міжнароднага фестывалю дзіцячага кіно, які штогод праходзіць у ліпені ў італьянскім горадзе Джыфані. Дакладней, хлопец быў сябрам журы. Там ён упершыню меў стасункі з замежнымі кінематаграфічнымі зоркамі, сустрэча з якімі адбылася ў так званым памаранчавым садзе. Першымі словамі пасля вяртання на радзіму тады былі — «Мы павінны жыць як у Еўропе!!!»

Адзін год Фёдар удзельнічаў адразу ў трох гарадскіх алімпіядах: па гісторыі, праграмаванню, геаграфіі. Усё гэта адбылося на працягу аднаго тыдня. На першых дзвюх заняў першае месца, а на алімпіядзе па геаграфіі — трэцяе.

Так інтэнсіўна на іх працаваў, што, калі прыйшла «раслабуха», арганізм не вытрымаў і хлапчук захварэў. Цэлы дзень ён не ўставаў з ложка.

Асобна трэба сказаць пра бабулю Фёдара па лініі маці Ніну Васільеўну Аніська. Хлопец з дзяцінства любіць працаваць на яе агародзе, слухаць успаміны «пра немцаў» і пра тое, як людзі жылі «пры Польшчы». Вяртаючыся ад яе, нязменна казаў, што трэба есці простую беларускую ежу, і тады заўсёды будзеш здаровым.

Натуральна, што пасля сканчэння школы Фёдар сваю будучую ВНУ абіраў сам — Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Дакладней,



факультэт мэнэджмэнту, спецыяльнасць «эканамічная кібернетыка». Дарэчы, менавіта такой была спецыялізацыя і ў вядомага беларускага эканаміста Леаніда Злотнікава.

Паступіў на так званае бюджэтнае аддзяленне, якое дазваляе не плаціць грошы за навучанне. Студэнты расказваюць, што там вучацца альбо вельмі разумныя, альбо «блатныя».

Паспяхова перайшоў на трэці курс, але зімовая сесія пакуль стала апошняй ў ягонай студэнцкай біяграфіі. Паспеў здаць усе залікі і тры экзамены. Чацвёрты (апошні) быў прызначаны менавіта на 25 студзеня. Упэўнены, следчыя гэта ведалі добра (магчыма, «праслухвалі»?), таму ў дзверы кватэры Фёдара Мірзаянава пагрукалі ўжо ў сем гадзін раніцы.

За некалькі дзён да гэтага па тэлефоне яго запрасілі «для размовы» ў ваенную контрразведку. Калі б пайшоў, то трапіў бы ў «амерыканку» (КДБ), якая лічыцца больш элітнай «установай», а папрасіў пісьмовую павестку і трапіў на «валадарку» (МУС).

Пасля «знаёмства» (праз дзверы) са следчымі Фёдар адразу патэлефанаваў свайму дзядзьку Сяргею Аніська, якога мае калегі добра ведаюць не толькі як былога афіцэра КДБ, але і па рабоце ў Беларускім Хельсінскім камітэце. Дзядзька параіў сказаць, што дзверы будуць адчыненымі толькі пасля яго прыезду. Грукаць перасталі, а праз паўгадзіны двое апранутых у «цывільнае» міліцыянтаў ужо паказвалі свае службовыя пасведчанні.

Адпаведны шматгадовы вопыт падказваў Сяргею Аніська, што яго пляменніка арыштуюць, але на самой справе гэтага магло б і не адбыцца. Паўдня Фёдара Мірзаянава «цягалі» з кабінета ў кабінет, прапаноўвалі напісаць нешта накшталт даносу на канкрэтных палітыкаў (што, на жаль, і зрабіў адзін вядомы палітык...) і тады абяцалі адпусціць «на ўсе чатыры бакі».

Фёдар Мірзаянаў адмовіўся і адразу трапіў за краты.



І яшчэ. Я **прынцыпова** прытрымліваюся экуміністычных поглядаў (не толькі наконт хрысціянства) і **прынцыпова** лічу, што БОГ у людзей адзін. Толькі называем мы яго па-рознаму. Сям'я Мірзаянавых — яскравае таму пацверджанне. Бацька мусульманін, маці праваслаўная хрысціянка, але галоўнае не ў канфесіях. Галоўнае, што яны пасялілі Бога ў душы сына.

## Размова першая

Мая размова з яго маці Людмілай Фёдараўнай цягнулася дзве з паловай гадзіны. За іх я зразумеў: гэтую жанчыну немагчыма зламаць «праз калена», да чаго ўлады прызвычаіліся за 17 год свайго панавання. Як і яе сына. Такія людзі не могуць жыць, схіліўшы галаву, і падпарадкоўваюцца асабістаму сумленню, па вызначэнню.

Не гледзячы на тое што яна пэўны час працавала ў дзяржаўнай установе, доўга пратрымацца пры гэтай уладзе ў Людмілы Мірзаянавай не атрымалася б усё роўна. Не ўпісваецца гэтая жанчына, на мой погляд, у існуючае зараз асяроддзе. Надта інтэлігентная і надта разумная. Сёння такія непатрэбныя.

Людміла нарадзілася 6 жніўня 1957 года ў Баку. На беларускай вёсцы ў тыя часы жылі вельмі галадна, і яе маці Ніна Васільеўна прыехала туды на камсамольскую будоўлю (пад азербайджанскай сталіцай узводзілі гідраэлектрастанцыю). А бацька Фёдар Іванавіч ( таксама беларус) у тых краях служыў у войску. У выніку знаёмства ўзнікла каханне, а потым і нарадзілася дзяўчынка Люда, якая пражыла ў Азербайджане першыя 10 год свайго жыцця.

Можа быць, там у яе характары і з'явілася тое, што і адрознівае этнічных беларусаў ад карэнных. Магчыма, камусьці такі вывад падаецца спрэчным, але я лічу, што тыя, хто нарадзіўся за межамі Беларусі, да дзеянняў любой улады ставяцца больш крытычна, чым «тутэйшыя». Яны пратэстуюць на галоўных пляцоўках , а нашы людзі — больш на кухнях.

Сказаць, што дзяцінства Людмілы Мірзаянавай прайшло толькі на Каўказе, было б няправільна, бо, калі ў яе маці скончыўся «дэкрэтны», яе адвезлі ў вёску Кавалі Слонімскага раёна Гарадзенскай вобласці і час ад часу дзіцё жыло ў дзеда з бабай. А ў дзесяцігадовым узросце

дзяўчынка пераехала ў Беларусь жыць пастаянна. Дакладней, у Нясвіж, дзе пайшла ў пяты клас сярэдняй школы №2.

Яе бацька і дзед шчыра захапляліся гісторыяй, таму цалкам лагічна, што гэтую галіну абрала і дачка, але па парадзе маці (раптам не пройдзеш конкурс) вырашыла «падстрахавацца» інстытутам замежных моў. Як кажуць у такіх выпадках, быццам бы глядзелі ў ваду.

Пасля іназу былі год працы ў сялянскай школе і Эфіопія, куды Людміла паехала са сваім першым мужам Мікалаем, бацькам яе старэйшага сына Антона. А потым зноў было вяртанне ў Беларусь і выкладанне ў педагагічным каледжы ў Баранавічах. Дарэчы, выкладаць належала педагогіку і псіхалогію. Не гледзячы на дыплом іназу...

Мабыць, на такое рашэнне паўплывала кароткачасовая, але вельмі паспяховая праца ў гарадскім Доме школьнікаў, дзе Людміла рыхтавала святы (без адукацыі інстытута культуры!!! — **заўвага аўтара**) для ўсяго горада. Спецыяльнай адукацыі не было, але быў досвед асабістай грамадскай дзейнасці, якая вельмі часта факусіравалася на нейкіх канцэртах.

Так лёс «перавёў» дзяўчыну ў зусім іншую галіну чалавечага жыцця.

Хаця педагагічную адукацыю яна ўжо мела, на новай пасадзе гэтага было яўна недастаткова. І Людміла пайшла вучыцца зноў. На базе Дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка яна атрымала дыплом «практычнага псіхолага».



Было гэта ў 1990 годзе. Літаральна напярэдадні нараджэння Фёдара. І праз два гады пасля развітання з першым мужам.

Рым Мірзаянаў родам са сталіцы Башкартастана Уфы. Яго бацькі Мубарак і Данія прававерныя мусульмане. Бабуля Фёдара Данія, калі выйшла на пенсію, скончыла мусульманскую духоўную школу. Чытае і піша на арабскай мове.



Менавіта ў Башкартастане Фёдар неаднаразова падарожнічаў з сябрамі бацькі ва Уральскія горы і сплаўляўся па горнай рэчцы Інзер. Яго равеснікі-расейцы спрачаліся з ім наконт ролі Расеі і Беларусі ў сучасным свеце.

Працяглыя дыскусіі заўсёды канчаліся спевамі каля кастра. Высоцкі, Акуджава, іншыя барды зближалі больш, чым пустыя шматгадовыя размовы пра інтэграцыю.

Ад бацькі Фёдар узяў стрыманасць і цвёрдасць духу, а ад маці — свабодалюбства. Падчас Савецкага Саюзу Рым Мубаракавіч скончыў авіяцыйны інстытут (1983 год), пасля якога адбываў свой вайсковы абавязак у Баранавічах. Там і адбылося знаёмства з Людмілай.

Усе акалічнасці тагачаснай «санта-барбары» пераказваць няма сэнсу. Адзначу толькі, што Сысці ад чалавека, з якім прыжыў дзесяць год — учынак з вялікай літары. І няма нічога дзіўнага ў тым, што праз шмат год Учынкі пачне рабіць і сын Людмілы.

Ніхто не будзе спрачацца з тым, што настаўнік у нейкім сэнсе актор, бо яму патрэбна ўмець добра кіраваць тварам, голасам, жэстам і г.д. Усё гэта трэба рабіць эстэтычна, то бок прыгожа. Даруйце «прапісную ісціну», аднак рыхтаваць сапраўднага выкладчыка азначае не толькі механічную рэтрансляцыю ведаў ў пэўнай галіне, але і навуку перадаваць іх іншым. Можа быць, менавіта па гэтай прычыне прапанаваны Людмілай Мірзаянавай дыдактычны (навучальны) тэатр у айчыннай педагогіцы напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя стаў вельмі значнай з'явай. Настолькі, што, калі звычайны педагагічны каледж атрымаў статус вышэйшага (стаў інстытутам — **заўвага аўтара**), яе прызначылі прарэктарам на навуцы. Але спачатку была абарона кандыдацкай дысертацыі (1997 год).

«Кіравала навукай» Людміла Мірзаянава доўгія сем год. І не проста «ляжала на пасадзе», што сёння стала амаль прыкметай часу, а ПРАЦАВАЛА. Маюцца на ўвазе шматлікія Міжнародныя навуковыя канферэнцыі па праблемам прафесійнай адаптацыі, Міжнародныя канферэнцыі моладзі.

У Баранавічы пачалі прыязджаць выдатныя навукоўцы ў галіне псіхалогіі і педагогікі не толькі з Беларусі, але і з Балгарыі, Украіны, Расеі. Дарэчы, многія пасля арышту Фёдара Мірзаянава будуць пісаць лісты ў яго падтрымку.

Звычайна іх мерапрыемствы працягваліся некалькі дзён і складаліся не толькі з адных дакладаў, але (пераважна) і з практычных заняткаў, бо для Людмілы Мірзаянавай навуковец — гэта не толькі той, хто ў лабараторыі «дзеля навукі» вывучае нейкую праблему. Яго тэмы павінны «ісці ад жыцця» і цалкам адпавядаць патрэбам чалавека.

Сёння пра гэта таксама многа гавораць, але далей пустых лозунгаў справа не ідзе. Людміла Мірзаянава ўсё зразумела і адразу стала «палітычна ненадзейнай».

У 2005 годзе ў Нацыянальным інстытуце адукацыі яна скончыла дактарантуру па педагагічнай псіхалогіі, але абараніцца на тэрыторыі Беларусі не змагла. Пры адпаведным галасаванні не хапіла аднаго голасу...

У 2004 годзе на базе Баранавіцкага вышэйшага педагагічнага каледжа з далучэннем шэрага прыватных навучальных устаноў (цалкам не падрыхтаваных да такога жыцця) быў створаны ўніверсітэт. Механічна ўсіх аб'ядналі, памянялі шыльду, атрымалі прэзідэнцкае «дабро» і пачалі «тусавацца». Нікога нават не засмуціў відавочны дэфіцыт дастойных выкладчыкаў.

Рэктарам прызначылі чалавека з Горак, звязанага з сельскай гаспадаркай, а ўсіх «мясцовых» «адштурхнулі» ў бок. У тым ліку і Людмілу Мірзаянаву, якой (як з барскага пляча) прапанавалі ўзначаліць адну з кафедраў. Аднак не на тую нарваліся: ісці на незаконнае «паніжэнне» яна адмовілася і да жніўня мінулага года працавала амаль «простым» выкладчыкам, толькі на прафесарскай пасадзе.

Разуменне «новымі» незаконнасці сваіх дзеянняў прыводзіла да таго, што ў адрозненне ад іншых крэслаў з верасня па снежань 2004 года месца прарэктара па навуцы было вакантным. Як кажуць, і хочацца і колецца. Нонсэнс: універсітэт працуе, а «за навуку» ніхто не адказвае.

Людмілу Мірзаянаву нават хацелі на гэтую пасаду вярнуць, і некаторыя паспяшаліся яе з гэтым павіншаваць. Але — не атрымалася. І зноў па палітычных прычынах. Аднойчы вечарам у яе дзверы пагрукалі і патлумачылі, што праводзяць нейкае сацыялагічнае апытанне. Адразу пацікавіліся адносінамі да ўлады. Адказваць на яўна правакацыйнае пытанне яна адмовілася, аднак сярод іншага сказала, што, на яе погляд, свабоды ў краіне недастаткова. Гэтага хапіла для таго, каб «сацыялагічнае апытанне» імгненна скончылася...



## Размова другая

З Беларусі Людміла з'ехала ў жніўні 2010 года ў Южна-Сахалінск, дзе зараз працуе яе муж. Пачала працаваць і яна (у Сахалінскім дзяржаўным універсітэце), а вярнулася ў Беларусь толькі падчас суда над сынам.

Рыму Мірзаянаву праца перашкаджала таксама прыехаць у Беларусь , таму «ролю» бацькі часова ўзяў на сябе Сяргей Аніська.

Не гледзячы на тое, што мы сябруем ужо шмат гадоў, на свой сорам я не ведаў, што Фёдар Мірзаянаў з'яўляецца пляменнікам менавіта Сяргея Аніські. А яшчэ пра вельмі цікавы жыццёвы шлях майго сябра.

Праўда, пачаў яго Сяргей Аніська з аповеду пра свайго бацьку. І гэта невыпадкова, бо той быў сапраўды неардынарнай Асобай. На жаль, усяго ў 58-м год яго забраў інсульт. Самае цікавае, што за два дні да смерці бацька доўга размаўляў са сваім сынам. Распавядаў пра сваё жыццё, дэталі вайсковай службы, знаёмства з маці, нараджэнне дзяцей, унукаў і г.д. Чаму гэта адбылося менавіта тады, вядома толькі на нябёсах. Магчыма, чалавек спяшаўся «выгаварыцца»... Як бы там ні было, Сяргей Аніська (як і многія з нас) шкадуе, што такіх грунтоўных гутарак было вельмі мала...

Фёдара Іванавіча Аніську прызвалі ў армію менавіта ў той час, калі пачалося сумна вядомае «хрушчоўскае» скарачэнне і тэрміны яшчэ не былі дэталёва адрэгуляванымі. Прызывалі на пяць гадоў, а праслужыў толькі тры, але за гэты час яго буйны сельсавет падзялілі на некалькі «нармальных». Пасады там занялі іншыя людзі, і ён вырашыў застацца ў арміі на звыштэрміновую службу. Спачатку служыў у артылерыі, потым ў чыгуначных войсках, а затым ва ўрадавай сувязі КДБ.



Апынуўся там па сутнасці выпадкова, але гэтая выпадковасць (а можа зігзаг лёсу?) і дазволіла вярнуцца з азербайджанскага Баку ў родную Беларусь. Аднойчы

ўся іх сям'я ехала сюды ў адпачынак. Суседам па купэ аказаўся афіцэр з Нясвіжа. Ён прапанаваў перайсці да іх і абяцаў дапамогу з пераводам.

Упэўнены, падобных прыкладаў можа багата ўзгадаць кожны з нас і пацвердзіць тое, што часцей за ўсё яны абмяжоўваюцца звычайным «купэйным знаёмствам». Гэты выпадак можна назваць прыемным выключэннем, бо Аніські хутка сапраўды аказаліся ў Нясвіжы.

Там яны пражылі да 1974 года, пакуль Фёдара Іванавіча не накіравалі ў Манголію. У горадзе Дзуун-Хараа Сяргей скончыў школу і атрымаў унікальны атэстат на мангольскай мове, які больш падобны на нейкую жэсаўскую даведку, чым на дакумент, пацвярджаючы сярэднюю адукацыю чалавека. Цяпер Сяргей з вялікай цяжкасцю можа «вылічыць» канкрэтна, за што атрыманы канкрэтныя адзнакі, але гэта і неістотна.

Тады ў хлапчука не было ніякіх ваганняў наконт выбару жыццёвага шляху — толькі афіцэр. Ды і не магло быць інакш, бо ўсё сваё невялікае на той час жыццё ён правёў выключна ў ваенным асяроддзі.

А вось з выбарам вайсковай прафесіі сыну дапамог бацька. Жыццёвы досвед лёгка разбіў юнацкі рамантызм, і Ленінградскае вучылішча падводнага плавання імя Ленінскага камсамола засталося «за дужкамі». Як і Саратаўскае верталётнае. Замест усяго гэтага быў прапанаваны аўтамабільны накірунак, што было таксама да спадобы Сяргею, бо кіраваць ён навучыўся яшчэ ў школе. А галоўнае — гэта не перашкаджала потым пайсці крокам бацькі.

Адпаведных ваенных вучылішч у Савецкім Саюзе тады працавала толькі чатыры, таму выбар быў невялікі. Усурыйск адразу быў адрынуты па той прычыне, што знаходзіўся на другім канцы СССР. Чэлябінск «адпаў» з-за чыста кліматычных умоў. Холад пасля Манголіі Сяргей прынцыпова не любіў. Аўтамабільнае вучылішча ў Разані лічылася суперэлітным, і туды траплялі пераважна «па блату», таму застаўся Самарканд.

На апошніх курсах да іх тройчы прыязджалі «пакупнікі» з асобага аддзела КДБ Туркестанскай ваеннай акругі. Спачатку жадаючых было за сотню, а пасля таго як высветлілася, што служыць выпадае ў Афганістане, такое жаданне выказалі толькі шэсць чалавек. Сяргей Аніська быў сярод іх, але афіцыйна накіравалі яго адразу ў роднае вучылішча камандзірам курсанцкага ўзвода. І толькі потым — у Ташкент, а адтуль — у Кабул.

Спачатку Сяргей быў памочнікам начальніка штаба батальёна 58-й аўтамабільнай брыгады, а потым узначаліў роту. Для маладога лейтэнанта гэта магчыма толькі на вайне. А вайна там была сапраўдная, бо аўтамабільныя калоны атакавалі часцей за ўсё. І таму 49 рэйсаў (52 тыс. км!) Сяргея Аніські гавораць самі за сябе. І галоўнае — ён ніколі не быў тым афіцэрам, які хаваецца за спінамі падначаленых.



Дарэчы, з КДБ яго знайшлі і там, аднак было гэта перад самай заменай у беларускі Слонім. Ужо адтуль Сяргей паступіў у Навасібірск на вышэйшыя курсы ваеннай контрразведкі. Скончыў іх ў ліпені 1985-га, і яго (па легендзе студэнта Навасібірскага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту) накіравалі на месяц на Маскоўскі фестываль моладзі і студэнтаў.

Сэнс той работы зразумелы, таму засяроджу вашу ўвагу выключна на тым, што пасля «сталічнай камандзіроўкі» Аніська на год трапіў у асобы аддзел КДБ па Брэсцкаму гарнізону. Потым былі Камянецкі раён і Мінск, дзе Сяргею давялося працаваць у інфармацыйна-аналітычным аддзеле (ІАА), і пасада намесніка начальніка ваеннай контрразведкі ў Мар'інай Горцы.

Калі Беларусь стала незалежнай, Сяргея Аніську прызначылі кіраўніком ІАА. Так было да 1995 года. Менавіта ў гэты час стала цалкам зразумела, які шлях абралі новыя ўлады і тое, што яны будуць трактаваць законнасць, мякка кажучы, вельмі фрывольна.

Прашу прабачэння за банальнасць, але ў жыцці кожнага з нас бываюць моманты, калі канкрэтны Крок вызначае далейшы лёс чалавека. Падрабязна распавядаў пра біяграфію Сяргея Аніські я цалкам невыпадкова, бо хацеў паказаць, што здольнасць ісці супраць плыні схавана ў іх родзе на генетычным узроўні. І гэта не проста пафасныя словы.



Як і пляменнік у снежні 2010 года, у 1995-м Сяргей Аніська абраў шлях, які нельга назваць канфармісцкім. Служыць падпалкоўнік С.Аніська мог бы яшчэ шмат год (пасада дазваляла), але зрабіў інакш. Ён сышоў. Сышоў, каб не быць побач з тымі, хто плюе на любую мараль.

## Размова, якая абавязкова будзе

Для Фёдара Мірзаянава Сяргей Аніська не проста дзядзька. Ён — хросны бацька. Таму Фёдар адчувае адказнасць за яго перад БОГАМ. І ганарыцца, бо змагацца за праўду значна цяжэй, чым рабіць выгляд, што ўсё вакол «стабільна».

Напярэдадні нашай сустрэчы ў Фёдара Мірзаянава з'явіўся другі адвакат. Бацька юнака — грамадзянін Расіі, таму новы адвакат адразу пачаў высвятляць адносіны юнака да змены грамадзянства. Пэўны сэнс у такіх «метамарфозах» ёсць, бо стаўленне нашых уладаў да грамадзян Расіі больш лагоднае, чым да «мясцовых». З'яўляецца шанец на нейкую «лаяльнасць», аднак выкарыстоўваць падобную магчымасць Фёдар Мірзаянаў катэгарычна і прынцыпова адмовіўся.

Учынак, наконт якога варта ў знак павагі зняць капялюш!

Кватэра, дзе жыве Фёдар Мірзаянаў, месціцца амаль насупраць вайсковай часткі, якую раней называлі «брыгадай сувязі на Маякоўскага». Новая ўлада кардынальна змяніла не толькі шыльду, але і сутнасць вайскоўцаў. Цяпер там падраздзяленне ўнутраных войскаў. Тыя самыя «касманаўты», якія даўно пераcталі баяцца крыві суайчыннікаў.

Расказвалі, што амаль кожны дзень яны трэніруюцца ваяваць з «натоўпам». Шчыты, гумовыя дручкі, шаломы. «Зорныя войны» па-беларуску.

Магчыма, гэтыя хлопцы і «працавалі» 19 снежня 2010 года. Магчыма, нехта з іх і «зачысціў» тады студэнта, які жыве амаль насупраць іх казармаў.

Падчас гутаркі з Людмілай Мірзаянавай, якая апошнім часам шчыльна займаецца праблемамі маладзёвай наркаманіі, вакол нас настойліва хадзіў кот Пушысцік. Усім сваім выглядам дэманстраваў, што ў адсутнасці гаспадара самы галоўны там ён. Ды і сама адсутнасць — часовая справа.

Я думаю таксама так, таму спадзяюся ў недалёкім будучым паразмаўляць з чалавекам, якога пакуль не ведаю асабіста, але вельмі паважаю завочна.

*25.06.11*

***P.S.* Вызвалены 13.09.11**

# НАРЫС У НАРЫСЕ



**Даведка:** Павал Севярынец нарадзіўся 30 снежня 1976 года ў Оршы. Скончыў віцебскую школу № 25 і геафак БДУ. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча і прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі». У 1999-2003 гг. — намеснік старшыні Партыі БНФ. З 1999 да 2004 — старшыня «Маладога Фронту». З'яўляецца сустаршынём аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У часе прэзідэнцкіх выбараў-2010 быў кіраўніком штабу кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага. 20 снежня 2010 года арыштаваны і змешчаны ў СІЗА КДБ.16 траўня асуджаны на 3 гады «хіміі».

Падчас нашай першай сустрэчы Таццяна Яўгенаўна Севярынец пажартавала, што Паша нарадзіўся амаль не ў цягніку. Сапраўды, схваткі былі такімі нечаканымі, што яе ледзь паспелі давезці да Оршы, дзе будучы рэцэдзіўна-вядомы палітык першымі ў сваім жыцці ўбачыў сцены мясцовай чыгуначнай бальніцы.

## Першыя шляхі

Вяселле Таццяны і Кастуся Севярынцаў праходзіла 18 красавіка 1975 года ў «Журавінцы». Але не ў той, што зараз з'яўляецца адным з самых дарагіх «злачных месцаў» беларускай сталіцы, а ў той, якая раней была даступнай і звычайным студэнтам. З падараваных грошаў кожнаму госцю яны давалі пэўную суму «на таксі», бо, калі пачалі разыходзіцца, пачаўся дождж. А самі пехам пайшлі ў студэнцкі інтэрнат філфаку БДУ.

Як кажа Таццяна Севярынец, у яе тыповы настаўніцкі дзень народзінаў — 1 верасня 1954 года. Адбылося гэта ў Лунінцы Брэсцкай вобласці. Яе бацька працаваў на электрастанцыі і асвятляў чыгунку. А маці раней была загадчыцай раённай бібліятэкі.

Пасля школы Таццяна Яўгенаўна год працавала ў Краснавольскай сярэдняй школе піянерважатай, а потым паступіла на філалагічны факультэт БДУ, дзе і пазнаёмілася з будучым мужам. На момант, калі паспяхова скончыла ўніверсітэт, мела ўжо трох дзяцей.

На трэцім курсе нарадзілася Ганна. На пятым — Паша, і Таццяне на год прыйшлося браць «акадэмку». А калі абараніла дыплом, то праз два месяцы нарадзілася Даша.



У розных школах Таццяна Севярынец прапрацавала амаль 36 год. Да вясны 2007 года. Думаю, яшчэ раз пераказваць гэтую гісторыю няма сэнсу па той прычыне, што яе і так усе добра ведаюць. Нагадаю толькі, што фармальнаю падставаю для звальнення тады сталі «прагулы», якія чыноўнікі ад адукацыі самі ж і арганізавалі. Прычым зрабілі гэта так немаральна, што можна нават задумацца: ці бывае ў такіх людзей сумленне ўвогуле?..

Пра падрабязнасці біяграфіі Кастуся Севярынца пісаць асабіста не буду. Ён мой калега, таму ў гэтым выпадку нешта пісаць самому, было б, мякка кажучы, не этычна.

*«Нарадзіўся я ў вёсачцы Унорыца, што на Гомельшчыне, у 80 км ад будучай Чарнобыльскай АЭС. Вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, потым — у Глыбаўскай сярэдняй, а 10 класаў скончыў ужо ў СШ №3 г. Таўраге, тады — Літоўскай ССР. Далей — філфак БДУ (рускае аддзяленне), дзе маімі настаўнікамі былі цудоўныя педагогі, светлай памяці Уладзімір Аляксандравіч Карпаў, Язэп Ігнатавіч Семяжон, Міхась Рыгоравіч Ларчанка ды іншыя. Падчас вучобы, хаця была ў нас і ваенная кафедра, якую потым я таксама асіліў, — два гады тэрміновай службы ў арміі пад Ніжнім Ноўгарадам (калісь горад Горкі). У 1972 годзе ўзнагароджаны медалём «За адвагу на пажары», бо разам з іншымі вайскоўцамі ўдзельнічаў у ліквідацыі стыхійнага бедству ва Уладзімірскай і Горкаўскай абласцях Расіі.*

*Скончыўшы БДУ, па накіраванні трапіў на Аршаншчыну. Працаваў дырэктарам васьмігодкі ў Пагосце, у райгазеце «Ленінскі прызыў», рэдагаваў шматтыражку на заводзе «Чырвоны Кастрычнік» у Барані пад Оршай.*

*Калі мяне ўзялі на працу ў 1985 годзе ў БЕЛТА-ТАСС уласным карэспандэнтам па Віцебскай вобласці, перабраўся з сям'ёй у сталіцу Прыдзвіння. У працоўнай кніжцы запісы аб супрацоўніцтве штатным і паўштатным, і чвэрцьштатным на Беларускім радыё, і ў газетах «7 Дней», «Советская Белоруссия» (да Якубовіча), «Торговая газета», «Настаўніцкая газета», у абласной «Народнае слова», у часопісе «Служба выратавання 01» і інш.»*

Як вы разумееце, па маёй просьбе гэтую «даведку» напісаў сам Кастусь Севярынец. Дадам толькі, што з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага



стагоддзя ён стала працуе ў «Дэтэктыўнай газеце». За гэты час выйшлі ў свет пяць зборнікаў крымінальных нарысаў. Кастусь Севярынец таксама выдаў на рускай мове зборнік лірыкі «Пока дышу» і зборнік дзіцячых вершаў «Там, где радуга живёт». Разам з доктарам філалогіі, прафесарам Іванам Чаротам перакладаў з сербахарвацкай мовы для беларускіх выданняў, анталогій і альманахаў вершы паэтаў былой Югаславіі. Таксама пераклаў на беларускую мову тэкст песні «Fairytail» (Казка), з якой Алесь Рыбак перамог на «Еўрабачанні —2009» .

Пра адносіны Севярынцаў да ўсяго беларускага трэба сказаць асобна. Асабліва пра тое, што да самага звальнення Таццяна Севярынец выкладала выключна рускую мову і ўжывала пераважна яе. Навучыцца пісаць па-беларуску ёй дапамог сын Павал і «жыццё прымусіла», бо ў 2008 годзе, яна «перакваліфікававалася» з настаўніка ў журналіста, пачала пісаць артыкулы для сайта Аляксандра Мілінкевіча.

Пасля сумна вядомай «хіміі» ў вёсцы Малое Сітна Полацкага раёна Віцебскай вобласці (там ён напісаў вядомыя «Лісты з лесу», за якія атрымаў прэмію імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра), у 2008 годзе Павал Севярынец напісаў і выдаў кнігу «Люблю Беларусь: 200 феноменаў нацыянальнай ідэі». Думаю, назва тут кажа сама за сябе і таму цалкам зразумела, чаму 19 снежня 2010 года ён апынуўся на галоўных плошчах беларускай сталіцы.

Дарэчы, напісанне кніг для Севярынцаў без перабольшванняў стала сямейнай справай. Канстанціна Паўлавіча добра ведаюць як аўтара розных дзіцячых казак..

*«З дзіцячымі кніжкамі выйшла па-дзіцячаму ж. Кажучы словамі Маякоўскага, «разлічыліся славаю»: выдаўцам — грошы, мне — папулярнасць. Гэта доўгая гісторыя. Аднак жа, як удалось збольшага прасачыць па інтэрнэце, мае «Азбукі», «Лічылачкі» і іншыя вершаванкі выходзілі і ў Маскве, і ў Екацерынбургу, і ў Смаленску, і ў Растове-на-Доне, і ў Благавешчанску, і дзе толькі не выходзілі! Прычым, акрамя камерцыйных структур, да іх выдання спрычыніліся і такія салідныя выдавецтвы, як «Просвещение», «Русь» і іншыя. Тыражы выданняў — ад 5 да 20 тысяч экзэмпляраў.*

*Гуляюць па інтэрнэце і ілюстраваныя аўдыёзапісы зробленых мной казак-пераказак на сюжэты вядомых рускіх казак «Колобок», «Репка», «Курочка Ряба», «Кот в сапогах» і інш. Нядаўна дайшлі чуткі, што кнігі Кастуся Севярынца ёсць у спісе рэкамендаванай літаратуры для студэнтаў аднаго з маскоўскіх педагагічных інстытутаў. Прыемна...*

*Па інтэрнэт-крамах бачу, што кніжкі за маім аўтарствам прадаюцца і ў Беларусі, і ў Расіі, і нават у ... Ізраілі. На жаль, без усялякай матэрыяльнай выгоды для мяне. Ну няма ў мяне камерцыйнай жылкі, хоць плач ці смейся. Смяюся...*

*Гадоў з дзесяць таму гарачым жаданнем выдаць ажно з паўтара дзясятка дзіцячых кніжак з маім аўтарствам загарэлася і адно з нашых салідных дзяржаўных выдавецтваў. Аднак сталічны кучаравы літкансультант, адзін з функцыянераў Саюза пісьменнікаў, мой былы калега па працы на радыё, параіў не звязвацца з аўтарам, у якога «неблаганадзейнае» прозвішча. Так і ляснуўся гэты праект, а ўжо мусілі і дагавор падпісаць... Затое без пазначэння аўтарства сям-там усплываюць мае рыфмаваначкі. Як кажуць, пайшоў у народ. І на тым дзякуй!..*

*Аднак на адсутнасць увагі да маіх сціплых высілкаў у справе дзіцячых рыфмаванак паскардзіцца не магу. Усё, што напісана, надрукавана. І нават у большасці сваёй перавыдадзена. Часцяком ужо без пазначэння аўтарства.*

*Зусім нядаўна цудоўны паэт і кампазітар з Брылёў, што пад Магілёвам, Мікола Яцкоў напісаў шмат мілых мелодый на мае вершы. Так што, мяне чытаюць і нават спяваюць. Што яшчэ трэба для пішучага чалавека? У гэтым сэнсе пашанцавала, можа, і больш за іншых, каго несправядліва абыходзяць увагай і хто больш за мяне заслугоўвае гэтай самай увагі і павагі.»*

Не піша кніжак пакуль толькі Таццяна Яўгенаўна. Але я лічу, што гэта цалкам часовая справа, бо ёй, сапраўды, ёсць пра што расказаць.

## Шлях да кратаў

І не толькі пра тое, што падчас мінулай выбарчай кампаніі яна была каардынатарам па Віцебскай вобласці па збору подпісаў у падтрымку Віталя Рымашэўскага. Значна важней тое, што ў грамадскай свядомас-

ці адбыўся кардынальны злом былых арыенціраў. Нешта падобнае мы ўжо бачылі. У 1994 годзе. Сёння таксама «абы хто, толькі б не Лукашэнка»...

Не буду падрабязна распавядаць пра ўсе акалічнасці той кампаніі, адзначу толькі, што (іх інфармацыя) 107 тысяч подпісаў за Віталя Рымашэўскага яны сабралі. Не 120 запланаваных тысяч, але тое, што рэгістрацыя мела падставы, безумоўна.

А пачну за тры дні да 19 снежня 2010 года. Менавіта 16 снежня кіраўнік выбарчага штаба В.Рымашэўскага Павал Севярынец праводзіў сустрэчу з выбарцамі ў Лунінцы. Пасля яе ён яшчэ паспеў убачыць жывой сваю бабулю Галіну Міхайлаўну (па лініі маці), якая без прытомнасці ляжала ў мясцовай лякарні. На наступны дзень яе не стала. Да свайго 81-га дня народзінаў жанчына не дажыла ўсяго 40 дзён.

Хавалі Галіну Міхайлаўну 18-га снежня, а вечарам 19-га яе дачка Таццяна ўжо была ў Мінску. Нават некалькі хвілін бачыла свайго сына Павала, а потым з вокнаў офіса, дзе была «на тэлефонах», сачыла за пачаткам руху на Кастрычніцкую плошчу калонны Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

Туды ж а палове на 11-ую вечара пачалі прыходзіць першыя пацярпелыя ад брутальнай «зачысткі». «Лібелеразец» скончыўся зламанымі рукамі і нагамі. Павал Севярынец на той час быў яшчэ на волі і запэўніў маці, што хутка прыедзе. Але... У самым пачатку новага дня ён патэлефанаваў і паведаміў, што знаходзіцца ў Ленінскім РУУС.

Аднак, калі праз некалькі гадзін Таццяна Яўгенаўна прыехала туды з першай перадачай, міліцыянты сказалі: «Нікога да нас не прывозілі...». Тое ж самае было і ў іншых РУУС і ў сумна вядомым ізалятары на Акрэсціна.

Можна толькі здагадвацца, што тады перажывала Таццяна Яўгенаўна, але адказ на пытанне «Дзе мой сын?» атрымала толькі вечарам 20 снежня. Следчы Санько паведаміў, што Павал знаходзіцца ў ізалятары КДБ.

Гісторыя няўдалай паездкі Таццяны Яўгенаўны ў Варшаву на міжнародную канферэнцыю дастаткова вядомая, і я б не звярнуў на гэта вашу ўвагу, калі б не панавала памылковая версія. Паездка не адбылася (**хачу падкрэсліць**) зусім не таму, што Таццяне Яўгенаўне паабяцалі сустрэчу з сынам. **Ніхто нічога ёй не абяцаў, а банальна не далі выехаць з нашай краіны.**





А было ўсё на самой справе так. Як толькі Таццяна Яўгенаўна за гадзіну да адбыцця цягніка выйшла з дзвярэй інтэрната старэйшай дачкі Ганны, да яе падышлі тры моцных маладых чалавека «ў цывільным» і прапанавалі праехаць з імі да следчага КДБ Санько. Жанчына адмовілася на той падставе, што для гэтага быў цэлы дзень, а зараз ўжо вечар. Не пераканала нават афіцыйная папера, якую паказвалі «ціхары». Скончылася ўсё тэлефанаваннем дачцэ, штуршкамі і ўцёкамі сярод снежных сумётаў. Зразумела, сілы не былі роўнымі і тры здаровых «амбалы» перамаглі мініяцюрную пенсіянерку.

Праз паўгадзіны Таццяна Севярынец апынулася ва «ўнутраным дворыку» КДБ . У кабінет следчага яна трапіла толькі за паўгадзіны да поўначы, катэгарычна адмовілася даваць нейкія паказанні на сына і агучыла ўсё, што думае з гэтай нагоды. Сустрэча з сынам нават не планавалася, а інфармацыйная памылка з'явілася толькі з-за банальнай блытаніны.

Санько давёў жанчыну да турнікету, дзе павінен быў аддаць пашпарт, але замест гэтага пачаў нешта «пераліваць з пустога ў парожняе». Магчыма, менавіта гэта і паўплывала на тое, што Таццяна Севярынец літаральна выбегла з крывавага па часам Лаўрэнція Цанавы будынка і толькі праз некалькі сот метраў заўважыла: забыла пашпарт. Прыйшлося вярнуцца і патэлефанаваць зноў Санько. Пашпарт «страцілі» і знайшлі яго толькі раніцай.

Таццяна Севярынец расказвала, што, калі вялі па калідорах будынка КДБ, яна звярнула ўвагу на вялікую колькасць шыкоўных дываноў, дарагую драўляную мэблю і зрабіла такое рэзюмэ: шыкуюць на людской крыві... З гэтым цяжка не пагадзіцца, таму што з часоў «начных варанкоў» не змянілася не толькі назва гэтай установы, але і яе сутнасць...

Бацька Павала Кастусь Севярынец да арышту сына быў маральна падрыхтаваны. Больш за тое:

*«— Арышт Паўла не стаўся для мяне нейкай неспадзёўкай. І здагадваўся я пра яго раней, чым пачалі лязгаць міліцэйскія кайданкі, бо так ужо сталася, што яго забіраюць, так бы мовіць, рытуальна, падсвядома трымаючы за нейкі свой талісман.*

*А хутчэй, рэагуюць нервова і неадэкватна. Як чорт на ладан. Перафразуючы вядомы афарызм: без Севярынца — турма няпоўная... Калі пачуў па тэлевізары, што пачаўся «хапун», адразу зразумеў, што Паўла забяруць таксама. За ім жа «таптуны», як прывязаныя, швэндаюцца.»*

## Думкі за кратамі

Як вядома, пры канцы снежня 2010 года Павалу Севярынцу было прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). 4 красавіка замест гэтага прад'яўлена іншае абвінавачванне (арт. 342 КК — арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Калі «перакладаць» гэта з мовы юрыстаў на звычайную, то можна сказаць, што ён «саскочыў» з «цяжкога» артыкула на больш «мяккі». Магчыма, менавіта па гэтай прычыне (грашова-гандлёвыя матывы ўладаў праглядаюцца тут нават «няўзброеным вокам») Павалу Севярынцу і прысудзілі толькі тры гады «хіміі». Для сучаснай беларускай Феміды такая літасць не ўласціва па духу і прыродзе паходжання.

Пакуль яго не адправілі ў «места не столь отдаленные», я прапанаваў напісаць для гэтага нарыса разважанні наконт зняволення. Атрымаўся своеасаблівы «Нарыс у нарысе».

*«Турма — самае тое месца, каб думаць. Там ты сам-насам з сістэмай, сам-насам з самім сабой і, нарэшце, сам-насам з Богам.*

*Камера нагадвае манаскую келлю квадратаў восем: ад трох да пяці чалавек на нарах; сцены, двайныя краты на вокнах, «кармушка» (праз якую даюць ежу), вочка і жалезныя дзверы, што адчыняюцца і зачыняюцца з «зубоўным скрыгатам». Камень і жалеза — наймацнейшы спосаб высветліць, кім ты ёсць насамрэч.*

*Самае месца, каб хадзіць узад-уперад (тры крокі туды, тры крокі назад) і перабіраць у галаве, як жыў, як жыць далей і якое жыццё будзе там, пасля смерці.*

*У турме добра адразу падрыхтаваць душу да найбольшага тэрміну, які «свеціць». Гэта займае 2-3 дні, але супакойвае, здымае непатрэбную сумятню (на якой граюць следчыя), суцішвае страх і прывучае жыць так, што «кожнаму дню досыць свайго клопату». У такім стане нечаканасці, як правіла, ператвараюцца ў прыемныя.*

*Нават час у турме спрыяе абдумванню, кшталтаванаму, метадычнаму і мэтанакіраванаму. Ранні пад'ём, каша, праверка, двухгадзінная прагулка, абед, вывад у прыбіральню, пошта, бульба або буракі з селядцом на вячэру — і адбой. Калі не даеш паказанняў і на допыты не «дзёргаюць», дзень разбіваецца на ёмкія часткі па 1-2 гадзіны.*

*У нашай турме бессэнсоўна знываць над думкай «за што?» Было б за што — забілі б. Пытанне, вартае турмы, — «нашто?». Нашто, навошта Госпад даў гэтае выпрабаванне, памясціў у гэтае каменнае сэрца сталіцы, адкуль чуваць званы з плошчы Волі — муры, дзе памiралі нацдэмы 1920-х, расстралянае пакаленне беларускіх пісьменнікаў 1930-х; тыя, хто выступаў супраць сістэмы ў эпоху «застою», і маладафронтаўцы 2000-х?*

*Сам я ў турме (на Валадарцы, 13 гадоў таму) пакаяўся і прыняў Ісуса Хрыста. І з тых часоў кожную «адсідку» Госпад ператварае ў аднаўленне веры, ачышчэнне.*

*У чатырох сцянах, з якіх не ведаеш, калі выйдзеш, Бог найперш нагадвае пра грахі ўсяго папярэдняга жыцця, вучыць цярпенню і вылечвае тваё ўласнае сэрца.*

*Таму і думаеш.*

*Думаеш пра сябе: наколькі ж шмат усё-такі думаў на волі пра сябе. Гэта насамрэч кепска.*

*Думаеш пра людзей. Бацькоў, цудоўных маіх татачку і матулю, якія змагаюцца там за цябе так, як толькі можа змагацца Сям'я. Пе-*

*ралічваеш усіх людзей, каго любіш, за каго хвалюешся, каго пакрыўдзіў, судзіў за вочы, каму не дапамог... Такіх сотні. Разумееш, што чалавеку справіцца з гэтым немагчыма. Але Госпаду ўсё магчыма — і просіш Яго даравацъ і паправіць.*

*Думаеш пра нас, беларусаў. Чаму ўсё-такі Госпад трываў нас такіх тысячу гадоў, і дзеля чаго Ён церпіць тое, чым мы ёсць зараз.*

*Нарэшце, думаеш пра Бога. Пра Ісуса, Якога схапілі і, паводле палітычнага абвінавачвання (маўляў, робіш Сябе царом юдэйскім!), невінаватага засудзілі на смерць. Пра Таго Самага Ісуса Хрыста, Які ўзяў на Сябе грахі нашы і 2000 гадоў таму памёр на крыжы і ўваскрос, падараваўшы нам як знак перамогі бел-чырвона-белую палатніну са Сваёй крывёю. Таго, Які казаў: «Шчаслівыя тыя, каго пераследуюць за праўду, бо іхняе Валадарства Нябеснае».*

*Абдумваеш Слова Божае, якое чытаем тут разам, два-тры разы на дзень: раздзел Евангелля, Старога Запавету ці псалом. Тут, у турме, попыт на Бога звышнатуральны, і нарэшце ёсць час абдумаць тое, што Ён кажа табе.*

*Думаеш: толькі Госпад здольны разбіваць каменныя сцены і каменныя сэрцы. І пераконваешся: перамагаюць не тыя, хто кшталтуе і адточвае ў камяні і жалезе нянавісць, а тыя, хто дае Богу напаўняць тваё сэрца любоўю.*

*Бо Сам Бог ёсць любоў!*

*І калі палюбіш Яго ўсім сэрцам, усім розумам, усёй душою тваёю, — зразумееш, як можна палюбіць і бліжняга, як самога сябе, і нават ворага.*

*Для таго, каб не быць пераможаным злом, ёсць толькі адзіны спосаб, апісаны ў Пасланні апостала да Рымлянаў: «Перамагай зло дабром!» (Рым. 12:21).*

## Будучыня без кратаў

Першы раз пасля 19 снежня 2010 года Таццяна Севярынец убачыла свайго сына 11 траўня 2011 года, хаця спробаў было столькі, што з розных «адпісак» дома ўзнік цэлы стос. Агульныя словы — «не мае сэнсу» альбо «немэтазгодна».

Тое ж самае можна сказаць і пра яе мужа.



*«Не бачыў сына з таго крывавага снежаньскага вечара ажно да пачатку так званага судовага працэсу. Дзесьці з паўгода, хаця час так цягнуўся, што падалося болей. Аднак штодня мы былі побач, бо пісаў яму лісты, а ў інтэрнэце ды перыядычным дэмакратычным друку — вершы, артыкулы, каментары ў блогах, заклікаў да салідарнасці не толькі з Паўлам, але і з іншымі палітвязнямі сваіх сяброў з «Аднакласнікаў», спрычыняўся да гаспадарчых клопатаў пра перадачы ў СІЗА.*

*Гэта давала адчуванне ўзаемапрысутнасці, духоўнай еднасці. І быў вельмі ўсцешаны, калі пачуў першыя словы сына ў судзе аб тым, што Беларусь павінна збаўляцца праз любоў і пакаянне. Гэткія ж думкі і мяне апаноўвалі ўвесь час сынавага ўкратавання. Вось жа ні з ніадкуль здарыліся радкі «Радзіма! Ну, няўжо гібець вякамі нам? Мы ж — кожны! — дзеці родныя твае. Хай грэх цяжкі дарue Авель Каіну, А той ніколі брата не заб»е...» Так што, не сустракаючыся твар у твар з сынам, мы ўвесь час былі з ім поплеч духоўна».*

Упэўнены, не трэба быць вялікім спецыялістам у гэтай галіне, каб заўважыць, што напісана добра. Як і ўсе вершы Кастуся Севярынца. Цікава, што піша ён то па-руску, то па-беларуску. І робіць гэта — у залежнасці ад душэўнага стану. Такое вось дзвюхмоўе у адным канкрэтна ўзятым чалавеку. Яно і дазваляе перакладаць на рускую мову сынавы творы. Чарговай стала кніга «Люблю Беларусь», якую, на яго погляд, павінен прачытаць кожны беларус. Незалежна ад узросту і сацыяльнага становішча. Яе Кастусь Севярынец перакладаў увесь час знаходжання сына за кратамі і скончыў зусім нядаўна.

І нарыс гэты скончыць мне хочацца таксама словамі Кастуся:

*« —Павел зараз займаецца тым, чым і заўсёды: робіць высілкі, каб беларусы ўпадабалі саміх сябе, а разам з гэтым і любую Беларусь. Піша раман і публіцыстыку. Сустракаецца з сябрамі і рыхтуецца да чарговай «хіміі». А яшчэ адукуе бацькоў, штовечар праводзячы сямейныя біблійныя чытанні: за раз асільваем па раздзельчыку Евангелля, параўноўваем розныя пераклады, дзелімся асабістымі меркаваннямі па прачытанаму, бывае, спрачаемся. Маё такое адчуванне: нават у самім факце трымання ў руках Бібліі ёсць нейкая аура заспакаення*

*і філасофскага роздуму пра жыццё і духоўныя чыннікі нашага быцця на грэшнай зямлі. А выхоўваўся ж я ў атэізме! Спачатку скептычна ставіўся да гэтай ідэі, а цяпер, «рассмакаваўшы», уцягнуўся, і ўжо заранёў сумую, што сына хутка некуды адправяць злыя дзядзькі з камітэта па выкананні пакаранняў. На жаль, іх дзеткі не чытаюць бацькам Святое Пісьмо па вечарах. А шкада! Бо абавязкова нешта б уцямілі, неразумныя...»*

*02.07.11*

# ШТО СНІЦЦА Ў КДБ



**Даведка:** Уладзімір Кобец нарадзіўся 7 лістапада 1971 года ў Слоніме. У 1989 годзе скончыў БДУ па спецыяльнасці «географ-эколаг». У 2000 годзе з адзнакай скончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Адзін з заснавальнікаў і каардынатараў руху «Зубр». Кіраўнік ініцыятыўнай групы кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Андрэя Саннікава. Арыштаваны 21 снежня 2010 года. Прад'яўлена абвінавачванне па 1 і 2 частках артыкула «Масавыя беспарадкі». У ноч на 27 студзеня 2011 года адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

Ад многіх даводзілася чуць, што добрых сноў у «амерыканцы» амаль не бывае. Маўляў, аура такая, бо раней там НКУС страляў «ворагаў народа». Уладзіміру Кобецу заўсёды снілася нешта змрочнае і трывожнае. Адзіны светлы сон (сям'я) прысніўся толькі перад самым вызваленнем...

## Нечаканы ракурс

Ва ўсякім выпадку менавіта для мяне такім ён і стаў, бо сярод сучаснікаў такога ўзросту падобных прэцэдэнтаў не ведаю. І тым больш іх амаль няма сярод прыхільнікаў існуючай улады, бо «паказуха» там значна бліжэй, чым нешта шчырае. Ужо шмат гадоў Уладзімір Кобец збірае сведкі пра свайго дзеда Васіля.

Васіля Іўлеевіча (у пасведчанні аб узнагародзе ён стаў Іванавічам) прызвалі ў савецкае войска (як і многіх «заходнікаў») ужо пасля вызвалення Беларусі, у жніўні 1944 года. З вайны ён не вярнуўся і значыўся як «згінуўшы без весткі». Звесткі пра яго сын і ўнук спачатку збіралі разам, але ў 1988 годзе бацька Уладзіміра Кобеца памёр і той далей працягваў пошук самастойна.

А праз некалькі год прыйшла «ордэнская кніжка», якая сведчыла аб тым, што «загадам 175 сд №0132 ад 05.10.1944 г. стралок 2 стр. роты

277 стралковага палка 175 стралковай дывізіі 1-га Беларускага фронту (палявая пошта 53440) Кобец В.І. узнагароджаны ордэнам «Славы 3 ступені».

Падпісаў гэтую паперу М.С. Гарбачоў амаль праз паўстагодзя пасля баёў за Варшаву. Гэта я да таго, што папулярны лозунг часоў СССР пра тое, што «нішто і ніхто не забыты» раней меў не толькі ідэйна-пафасны сэнс. На жаль, зараз даволі часта прыходзіцца сутыкацца з адваротным: за прыгожымі словамі пра «вечную памяць» стаяць магілкі, дзе з-за бур'яну і прайсці немагчыма.

З дапамогай розных архіваў Уладзімір Кобец «працягнуў» жыццё свайго дзеда больш чым на месяц. Па дадзеных Жабінкаўскага раённага ваенкамату апошні ліст быў напісаны 22 жніўня 1944 года (больш ніякай інфармацыі радня не мела), а паранілі яго (так у «ордэнскай кніжцы») 14 кастрычніка 1944-га. І займаецца Уладзімір гэтым не дзеля нейкіх «бонусаў», як гэта часцей за ўсё бывае ў БРСМ, а згодна з асабістым сумленнем. Уладзімір цвёрда вырашыў давесці да канца тое, што не паспеў зрабіць яго бацька.

З дапамогай інтэрнэту атрымаў дадзеныя ўсіх ваенных магілкаў Заходняй Еўропы і знайшоў тры, дзе на камянях выбітыя літары яго прозвішча. У адным выпадку нават ініцыялы сышліся, але час пахавання не супадаў з мяркуемым.

Адказ на свой першы запрос ён чакаў больш за год, і я толькі шчыра магу пазайздросціць такой вытрымцы, бо ведаю шмат выпадкаў, калі падобныя першыя «перашкоды» станавіліся апошнімі.

Яго бацька Аляксей Васільевіч Кобец нарадзіўся на хутары Сілішча, што пад Жабінкай. Магчыма, некаторыя ведаюць гэта месца. Там стаіць манумент спаленай фашыстамі вёсцы Драмлёва, дзе загінула шмат родных Аляксея Васільевіча. Ды і сам ён не загінуў тады толькі дзякуючы лёсу і Божай волі. Напярэдадні дня, калі ў Драмлёва прыехалі карнікі, Лёша з дарослымі павінен быў прыйсці туды да сваякоў збіраць яблыкі, але гэта супадала з нейкім рэлігійным святам, і яны вырашылі пайсці праз дзень. Гэта і выратавала. Па дарозе ўбачылі дым, а насустрач бег паранены хлопчык. Ён і расказаў пра карнікаў. Астатнім пашанцавала менш. Усіх, хто з суседніх вёсак з вёдрамі прыбег «на пажар», расстралялі альбо спалілі жыўцом. Адбылося ўсё 11 верасня 1942 года.





Цікавая прычына гэтай трагедыі. Немцы падазравалі, што жыхары вёскі дапамагаюць партызанам, і вырашылі зрабіць адпаведную правакацыю: пераапранулі сваіх памагатых. Лжэпартызан пакармілі, а потым туды прыехалі карнікі. Спалілі амаль усіх. Нават сем'ю таго паліцая, які «здаў» інфармацыю пра партызан. Ім было, як кажуць, «па барабану».

Дарэчы, назва вёскі Драмлёва ёсць ў сумным мартыралогу Хатыні.

Маці Уладзіміра Кобеца Вера Фёдараўна пазнаёмілася з Аляксеем Васільевічам у Слоніме, куды ён прыехаў з Усходняй Германіі, дзе дапамагаў будаваць «новую дзяржаву». Родам яна з Клецкага (зараз) раёна, з самай мяжы з Брэсцкай вобласцю.

І яшчэ. Падчас шматчасовай размовы ў кватэры Кобецаў сярод мноства іншых дакументаў мне паказалі «першы «шэнгенскі» пашпарт». Гэты сумны жарт адносіцца да аўсвайса, які прабабцы Уладзіміра Кобеца Феадоры Феадораўне выдалі ў «трэцім рэйху». Дзякуючы яму, захаваўся і яе фотаздымак.

## Нечаканы выбар

Для нашага часу сапраўды нечаканы. Можа быць, блага ведаю гэтае жыццё, але мне здаецца, што сучасныя ўлады менш за ўсё клапоцяцца праблемамі экалогіі. Ва ўсякім выпадку не ставяць пытанне на першыя месцы. Гэта я да таго, што выбар Уладзімірам Кобецам сваёй прафесіі ў любым выпадку прывёў бы яго да канфлікту з дамінуючымі сёння падыходамі.

Так што палітыка — другасны фактар. Рызыкну дапусціць, што, калі б у нашай краіне ўважліва прыслухоўваліся да эколагаў, многія з іх не

сталі б займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю ўвогуле. Але, даруйце «прапісную ісціну», гісторыя не ведае ўмоўнага ладу.

На самой справе Уладзімір Кобец нарадзіўся 6 лістапада, за 20 хвілін да прыхода новага дня, але акушэры-гінеколагі тады былі ідэалагічна-ўстойлівымі, таму прапанавалі напісаць у метрыцы 7 лістапада. А імя падказалі таго, хто і зрабіў гэты дзень календара «чырвоным». Так што хутчэй за ўсё мая першая версія пра памерлага дзядзьку Уладзіміра, як кажуць, не вытрымлівае элементарнай крытыкі.

Летам 1988 года ў жыцці Уладзіміра Кобеца адбыўся першы самастойны паход. Толькі не па зямлі, а па вадзе, таму больш правільна назваць яго першым сплывам.

З сённяшняга пункту гледжання паход падаецца рызыковай авантурай, якую моцна палілі валер'янкай. Мяркуйце самі, на зробленым сваімі рукамі плоце (гумовыя балоны знізу, а наверсе драўляная рама, з рулявым вяслом, па цэнтру якой высілася мачта са сцягам) непаўналетнія юнакі, калі ўлічыць ўсе «выкрунтасы» іх маршруту, праплылі па





Шчары да Нёмана (ад Слоніма да Цэнтральных Мастоў) больш за сто кіламетраў.

На гэтым незвычайная вандроўка скончылася. Хлопцы не разлічылі, што там цячэнне стане вельмі павольным і плыць далей будзе немагчыма. А ў планах было дасягнуць Балтыйскага мора...

Бацькі ведалі пра гэтую задуму, але глядзелі на яе крыху скептычна. Думалі, нічога не атрымаецца. У «экспедыцыі», на якую мясцовыя рыбакі глядзелі «адкрыўшы раты», бо такога «цуда» там яшчэ не бачылі, нават быў свой судовы часопіс, дзе Уладзімір Кобец праходзіў як капітан.

Так пачыналася турыстычнае жыццё. Менавіта яно праз шмат гадоў пазнаёміць Уладзіміра ў Саянах з будучай жонкай Ульянай.

Але аб усім па парадку.

У 1989 годзе Уладзімір Кобец паступіў на геаграфічны факультэт БДУ. Дакладней, на яго экалагічнае аддзяленне, дзе конкурс быў нават большым, чым у «чыстых географаў». У тыя гады (перабудова) гэта стала дастаткова модным.

І адразу з галавой акунуўся ў палітычную дзейнасць. Дастаткова сказаць, што менавіта на іх факультэце першым у краіне «ліквідавалі» камсамол. То бок, афіцыйна «паставілі крыж» на яго структурах. І зрабілі гэта публічна, на чарговым сходзе. У памяшканні былога камітэта ВЛКСМ з'явіліся бел-чырвона-белы сцяг, герб «Пагоня» і шыльда «Клуб незалежных моладзевых арганізацый».

Паралельна працягвалася захапленне турызмам. Розных паходаў было нямала, але той стаў сапраўды лёсавызначальным. Усе падрабязнасці вандроўкі на Саяны распавядаць няма сэнсу і часу. Адзначу толькі, што яна была вельмі насычанай рознымі падзеямі і цікавай па зместу, а галоўнае пазнаёміла студэнтку трэцяга курса Іркуцкага ўніверсітэта Ульяну Несцярэнка з беларускім хлопцам Уладзімірам Кобецам.

Госці з далёкай Беларусі спыніліся пажыць у актавай зале іх інтэрната. Суседка па памяшканні, дзе жыла Ульяна, расказала, што пазнаёмілася з цікавымі «альпіністамі з вялікім сабакам» і паклікала схадзіць да іх ізноў. Там і прагучала прапанова «пайсці ў паход разам». Самае цікавае, што прынятая яна была без якіх-небудзь ваганняў.



Так «маршрут чацвёртай катэгорыі складанасці» стаў пачаткам агульнага жыццёвага маршруту.

## Нечаканы акцэнт

Няцяжка здагадацца, што ім стала палітыка. Віры яе літаральна захапілі Уладзіміра Кобеца. Напрыклад, на другім курсе ўніверсітэта ён трапіў у студэнцкі стачкам, які ўтварыўся пасля адмовы здаваць экзамен па гісторыі КПСС. Самае цікавае, студэнты (такі быў час) дабіліся станоўчых вынікаў. Прадмет зрабілі «палітычнай гісторыяй», а экзамен замянілі звычайным залікам.

Пасля атрымання дыплома (1994 год) Уладзіміра размеркавалі ў Мінскі абласны камітэт па экалогіі. Сёння такое цяжка ўявіць, аднак «дзяржаўная служба» не перашкодзіла яму стаць сябрам Управы БНФ і ўзначаліць адну з раённых структур фронту.

Пасля расколу 1999 года многія ў БНФ ўспрынялі гэта даволі балюча. У тым ліку і Уладзімір Кобец. Таму ён цалкам адышоў ад усіх «партыйных» спраў, сканцэнтраваўся выключна на прафесійнай галіне. Паступіў у Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і быў пераведзены на работу ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Пасля сканчэння ў 2000 годзе вучобы трапіў (за кошт свайго адпачынку) у ЗША па дзяржаўнай праграме трохтыднёвых абменаў. Там пазнаёміўся са Зміцерам Бандарэнка і Мікалаем Халезіным, якія трыгады таму былі сярод тых, хто ствараў «Хартыю-97». І менавіта там ўбачыў, што палітыка можа быць сэнсам жыцця чалавека. Больш за тое, яна бывае (не ў нас) не толькі карыснай для грамадства, але і бяспечнай для асобы.



І яшчэ. З Амерыкі былі прывезеныя (акрамя звычайных сувеніраў) шэсць тамоў падручнікаў па валанцёрскай рабоце. Зразумела, напісаны яны былі на англійскай мове, але потым перакладзены на беларускую і выдадзены асобна. Пазней (2001 год) гэта сярод іншага і ляжа ў аснову стварэння «Зубра».

Як да ўсяго неардынарнага стаўленне да новай структуры было і застаецца неадзначаным. Адны ўсхваляюць ідэю, другія яе крытыкуюць. Бясспрэчна толькі тое, што гэта была вельмі неардынарная з'ява ў нашым грамадска-палітычным жыцці. Усяго за некалькі месяцаў існавання «Зубр» стаў сярод моладзевых структур брэндам нумар адзін.

Калі ў верасні 2010 года кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў прапанаваў Уладзіміру ўзначаліць свой выбарчы штаб, у нейкім сэнсе гэта было крыху нечакана. Перш за ўсё таму, што вакол было шмат людзей з больш прапіяранымі прозвішчамі. Тлумачылася ўсё даволі проста. Саннікаву быў патрэбны не «вясельны генерал», а «пахар». Такога ён і бачыў у Кобецу. І не памыліўся.

Подпісы яны сабралі хутка і без праблем. Пытанне было толькі ў памерах перабольшвання, бо рызыка росту так званага «браку» таксама ўзрастае. Акрамя гэтага, яны добра разумелі, што самае цяжкае пачнецца падчас назірання за ходой галасавання. Па-добраму радавала толькі адчуванне таго, што людзі сапраўды прагнуць пераменаў і вельмі «згаладаліся» па рэальнай альтэрнатыве. Усе сустрэчы кандыдата ў прэзідэнта Андрэя Саннікава праходзілі ў перапоўненых залах. Бывалі выпадкі, калі жадаючыя па гэтай прычыне не змаглі туды трапіць фізічна.

Як вядома, пасля крывавых «выбараў» 2010 года выбарчыя штабы амаль усіх кандыдатаў у прэзідэнты аказаліся ў «амерыканцы». Паказушная «лібералізацыя» скончылася сюррэалістычным «хапуном».

Уладзіміра Кобеца арыштавалі пазней за астатніх — 21 жніўня. Тлумачылася гэта тым, што ён банальна не начаваў дома. «Злавілі» на выхадзе з «Акадэмкнігі», дзе той сустракаўся з жонкай. Па яе тэлефоне і «вылічылі».

## Чаканыя непрыемнасці

Праз тры дні пасля арышту, якраз напярэдадні каталіцкіх (і не толькі) Каляд, Уладзіміра Кобеца ледзь не адпусцілі на волю. І нават сказалі пра такі намер яго адвакату. Сапраўды, без адпаведнага дазволу пракурора затрымаць чалавека на большы тэрмін следчыя не маюць права.

Не ведаю ўсіх нюансаў псіхалогіі садыстаў, але, на мой погляд, нармальны чалавек так ніколі рабіць не будзе. За гады журналісцкай практыкі мне шмат разоў (асабліва апошнім часам) давялося размаўляць з тымі, хто пабываў за кратамі. Амаль усе распавядалі пра падобныя «коткі —мышкі». Мабыць, як у «дазорах» пісьменніка-фантаста Сяргея Лук'яненкі, «цёмныя», то бок следчыя, увесь час «подпитываются» энергіяй сваіх ахвяр. Такое ўражанне, што магчымасць рабіць розныя «бякі» прыносіць ім асаблівую асалоду.

Уладзіміру Кобецу нават дазволілі патэлефанаваць жонцы і папярэдзіць, каб нічога з адзення не несла, бо ён выходзіць на волю. А потым пачалі «мурыжыць», што засмуціла адваката: звычайна так не адбываецца. Пад самы вечар адвезлі да пракурора, які замест «свабоды» дадаў яшчэ «сем сутак». І няма ніякіх ваганняў наконт таго, што пра падобны фінал усе яны ведалі з самага пачатку спектаклю, які быў замаскіраваны пад «падпіску аб нявыездзе»...

Да і ўвогуле. Тое, што адбываецца за сценамі будынка КДБ, больш нагадвае нейкае Залюстэркаўе, чым «стабільную і квітнеючую» Беларусь. Напрыклад, Уладзімір Кобец быў вельмі ўражаны, калі першы раз пачуў, як ахоўнікі папярэджваюць сваіх калег аб тым, што каго-небудзь вядуць у пастарунак, звычайным свістам, і тым трэба зачыніць «кармушкі». Як бы мовіць, такая ў іх «птушыная мова».

Вельмі шмат там нязвыклых «мясцовых» назваў і адбываюцца «дзіўныя» рэчы. Напрыклад, начное святло яны называюць «месяцам», а правы і абавязкі арыштаваных — «каранам», таму што мае вокладку зялёнага колеру. Практычна ва ўсіх «палітычных» «шконкі» (на іх спалі) былі пераноснымі, збітымі з дошак. З камеры ў камеру арыштаваныя «вандравалі» з імі. Называлася гэта — «заехаць на сёрфінгу».

Са з'яўленнем «палітычных» у звычайных ахоўнікаў-кантралёраў за плячамі з'явіліся «дублёры» — грамілы ў масках. Менавіта яны ажыццяўлялі большасць катаванняў і аказвалі на арыштаваных (білі па сценах гумовымі дручкамі і крычалі страшным голасам) псіхалагічны ціск.



Магчыма, усё гэта мела б патрэбны эфект, каб ахвяры не прыдумлялі для сябе нейкую «аддушыну». Уладзімір Кобец маляваў. Старонка ў турэмным дзённіку выглядала так: сонца, чатыры сэрцы (Ульяна, Яна, Часлаў, Маці) пад малюнкам подпіс «Усе цябе любяць і чакаюць. Усе змагаюцца і моляцца за цябе», а далей стоўбцам «Ты — жывы!» «Ты — не вінаваты!» «Ты — не адзін!», і потым «Не ныць!», «Не прасіць!», «Не галасіць!».

Ад следчага ізалятара КДБ да дома, дзе жыве Уладзімір Кобец, не менш паўгадзіны на «маршрутцы» і яшчэ болей грамадскім транспартам. Аднак тое, што ў яго не будзе ні такой магчымасці, ні тэлефона, ні пашпарта, ні грошай, нікога з «рыцараў плашча і кінжала», не засмуціла.



Адпусцілі позняй ноччу. Дабрацца дамоў дапамаглі знаёмыя, якія жывуць побач.

## Чаканая інтуіцыя

Ульяна Кобец родам з Улан-Удэ. Пасля сумеснай вандроўкі ў Саяны Уладзімір прапанаваў ёй з Іркуцкага ўніверсітэта перавесціся ў БДУ. Так і зрабіла. Да палітычных «ухілаў» мужа Ульяна з самага пачатку ставілася насцярожана, а удзел у апошніх прэзідэнцкіх выбарах і ўвогуле не

прыйшоўся да спадобы цалкам, бо яна добра разумела, чым усё гэта можа скончыцца...

Да таго ж жанчына (як і многія) не вельмі высокай думкі наконт так званай беларускай «памяркоўнасці» і лічыць, што не варта змагацца за тых, каму абсалютна «да лямпачкі» ўсялякія маральныя прынцыпы і каштоўнасці. Такія людзі прывыклі да таго, што ўсё нехта зробіць за іх.

Упэўнены, некаторым такі вывад пакажацца спрэчным, але рацыю на існаванне ён мае бясспрэчную. Усім, хто думае інакш, раю яшчэ раз уважліва перачытаць п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя».

Арышт мужа адбыўся літаральна на вачах у Ульяны. Адразу была нават прапанова «адбіць», але Ларыса Караленка (давераная асоба Андрэя Саннікава і памочніца кіраўніка яго выбарчага штаба) адгаварыла: будзе яшчэ горш. Потым сазванілася з жонкай Зміцера Бандарэнка Вольгай, якая расказала, што на наступны дзень у КДБ прымаюць перадачы, і журналісты расійскага тэлеканалу НТБ будуць усё гэта здымаць.

Калі праз тры дні пасля арышту мужа паабяцалі «адпусціць», Ульяна не паверыла гэтаму адразу, бо чула, як неаднаразова людзей пасля таго, як адпускалі, адразу ж арыштоўвалі зноў. На жаль, яна аказалася правай.



Старэйшую дачку Ульяны завуць Янай. Ёй 15 год. У дванаццацігадовага сына імя Часлаў. «Пашанцавала» ў тым сэнсе, што ўсе снежаньскія падзеі адбываліся перад зімовымі канікуламі, і прозвішча дзяцей ніхто гучна не «мусіраваў». Не было ніякіх «наездаў» і пасля канікул, хаця Яна Кобец да іх рыхтавалася





маральна. Больш за тое, бацькі аднакласнікаў тэлефанавалі і прапаноўвалі дапамогу. Не было аніводнай негатыўнай рэакцыі.

Так што акрамя пастаяннай ілжы беларускіх уладаў і думак пра мужа за кратамі нічога Ульяну Кобец моцна не турбавала. А ілжы гэтай хапала амаль кожны дзень. Міжнародныя ўстановы пераконвалі ў тым, што ў арыштаваных усё ёсць, з адвакатамі яны сустракаюцца пастаянна, усе здаровыя і задаволеныя, а лісты ад родных атрымліваюць рэгулярна. На самой справе ўсё было з дакладнасцю наадварот і гэта прыйшлося тлумачыць ва ўсіх замежных амбасадах.

Першай вестачкай ад мужа стала навагодняе віншаванне, а сам ён атрымаў першы ліст ад жонкі 24 студзеня, хаця абодва пісалі амаль штодзённа.

Адзінае, што даходзіла рэгулярна, — перадачы. Разумеючы, што ў «кэдэбэшных» умовах усмешка для мужа будзе не менш каштоўнай, чым кавалак каўбасы, Ульяна Кобец імкнулася перадаць за краты нешта прышпільное. Напрыклад, звычайныя дзіцячыя размалёўкі.

...У ноч перад вызваленнем Ульяна Кобец таксама прысніла мужа, з якім ішла побач па нейкай вялікай, але абмежаванай прасторы. Праз некалькі гадзін яна зразумела, што гэта і была «падпіска аб нявыездзе»...

*14.07.11*

# МАНАЛОГ СА СЛЯЗАМІ НА ВАЧАХ



**Даведка:** Мікалай Статкевіч нарадзіўся 12 жніўня 1956 года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна. Скончыў сярэднюю школу, затым — Мінскае вышэйшае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча. У 1991 годзе стварыў і ўзначаліў Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. З 1995 года старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Кандыдат тэхнічных навук, падпалкоўнік запасу. У 2009 годзе кангрэсам «Еўрапейскай кааліцыі» вылучаны кандыдатам у прэзідэнты. 19 снежня 2010 года браў удзел у акцыях пратэсту, за што і быў арыштаваны. 26 траўня асуджаны да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Шчыра кажучы, назву гэтага артыкула я прыдумаў на самым пачатку нашай размовы, а напрыканцы хацеў памяняць, бо слёз, па сутнасці, не было. Вочы Марыны Адамовіч заблішчалі толькі адзін раз. Калі яна ўзгадвала галадоўку Мікалая Статкевіча і тое, што ён тады амаль не памёр.

І ўсё ж такі назва засталася. Для таго, каб кожны з нас больш яскрава разумеў, што давялося перажыць гэтай мужнай жанчыне.

## Погляд у мінулае

*«Падрабязнасці расказваць не буду, бо мы заўсёды імкнуліся зберагчы сваё асабістае жыццё для сябе. Скажу толькі, што пазнаёмілася з Міколам Статкевічам 18 гадоў таму. Дакладней, 27 траўня 1993 года. Гэта былі часы перамен і спадзявання на лепшае. У пэўным сэнсе нават эйфарычнага стаўлення да жыцця, бо кожны дзень прыносіў нешта новае — досвед, веды, радасць.*

*Цэлы год мой сябра Мікола Міхноўскі «праядаў плешку», расказваючы пра тое, які цудоўны хлопец Мікола Статкевіч, што нядаўна стварыў Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (БЗВ). Асабіста мы знаёмымі не былі, хоць часта абодва наведвалі кабінет Дома літаратараў, дзе Міхноўскі працаваў разам з паэтам, які, на жаль, ужо памер, Алесем Емельянавым.*

*27 траўня — дзень нараджэння Міколы Міхноўскага. Традыцыйна штогод заходзіла яго павіншаваць і аднойчы сустрэла там яшчэ двух Міколаў — Статкевіча і Бірукова (на жаль, яго таксама ўжо няма). Два сябры, заснавальнікі БЗВ, падпалкоўнікі, выкладчыкі.*

*Так што знаёмству нашаму вельмі шмат гадоў, ну а разам пачалі жыць толькі чатыры гады таму, пасля вызвалення Міколы з «хіміі», падчас якой быў разбураны яго шлюб.*





*Дата майго нараджэння — 28 ліпеня. Вёска Бараўцы Вілейскага раёна. Мая маці Ніна Фёдараўна працавала там дырэктаркай школы. Цікава, што першапачаткова яна выкладала рускую мову, а потым пад уплывам «дзіцяткі» перайшла на беларускую і апошнія 20 год сваёй прафесійнай дзейнасці займалася менавіта гэтым — выкладала беларускую мову і літаратуру і прызнавалася, што атрымлівала ад гэтага сапраўдную асалоду.*

*Аднойчы, калі я ноччу змагла «разгрузіць» на мытні «фуру» з лекамі, што да гэтага ніяк не ўдавалася зрабіць, мытнік спытаў, кім працую, і даў свой каментар — «специалист по разрешению неразрешимых ситуаций». Сапраўды, у жыцці я шмат што ўмею.*

*Адукацыяў у мяне таксама шмат, але самая галоўная і любімая — медыцынская. Я скончыла Медыцынскі інстытут, калі ён яшчэ не быў універсітэтам, і стала эпідэміёлагам.*

*Акрамя гэтага, у першай палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі здавалася, што ў нашай краіны прывабныя перспектывы, я пайшла вучыцца на юрфак БДУ. Хацелася быць прыватным адвакатам.*

*Як вядома, другая вышэйшая адукацыя у нас заўсёды «платная», таму, каб зарабіць на яе грошы, я скончыла яшчэ і курсы бухгалтараў-эканамістаў. Апроч гэтага ўмею рабіць «мелкую пластыку», скураныя ўпрыгожванні, малявала акварэлі і г.д. У цяжкія часы бывала, што гэтым зарабляла нашмат больш, чым працай выкладчыка...*

*Зарабляла і перакладамі (калісьці такое было распаўсюджана) з рускай мовы на беларускую.*

*У 1995 годзе разам з Кастусём Цвіркам і Генадзем Вінярскім дачынілася да стварэння «Беларускага кнігазбора».*

*Беларусчына — гэта з 59-й школы. Мы тады ўжо жылі ў Мінску. Спачатку нам з настаўнікамі не шанцавала, а потым беларускую мову пачала выкладаць Анфіса Іванаўна Пыльчанка. Менавіта яна ў межах пазакласнага чытання прапанавала мне прачытаць летам «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча. У маёй душы з гэтага моманту адбыўся сапраўдны пераварот: пачала вельмі моцна цікавіцца ўсім БЕЛАРУСКІМ.*

*Дарэчы, гэта быў у нашай хаце не першы твор Уладзіміра Караткевіча. Калісьці сябра майго бацькі лячыў знакамітага пісьменніка. Той падарыў «Зямлю пад белымі крыламі».*

*Калі не памыляюся, наведваць Нацыянальную, а тады яшчэ Ленінскую, бібліятэку, каб больш грунтоўна вывучаць пэўныя рэчы, тады маглі толькі студэнты, пачынаючы з трэцяга курса, таму я не магла дачакацца моманту самастойнага вывучэння закрытай для грамадскасці айчыннай гісторыі. Таму падчас з'ялення прац Ермаловіча, мне не зусім было зразумела, чаму іх сустрэлі з такім захапленнем, таму што ўсё гэта я ўжо ведала і яно падавалася мне абсалютна відавочным.*

*Пра бацьку хацелася б расказаць асобна. На жаль, Міхаіл Філіпавіч сышоў ад нас тры гады таму. Можна сказаць, яго лёс пачаўся цудоўна адразу ж. Бацька з'явіўся на свет 26 ліпеня 1933 года ў памежнай Вілейцы. Так бы мовіць, «за польскім часам».*

*Праваслаўная сям'я. Ніхто не верыў, што дзіця выжыве. Яго цётка выйшла з радзільні на вуліцу і папрасіла першага сустрэчнага пахрысціць дзіця, каб можна было яго нармальна пахаваць. Гэтым чалавекам аказаўся прадстаўнік тагачаснай польскай адміністрацыі. Каталік пагадзіўся падпарадкавацца ў гэты момант праваслаўнаму абраду. Бацька быў ахрышчаны, але падняўся такі скандал, што прымусіў гэтага чалавека з'ехаць з Вілейкі ў Польшчу.*

*Ён быў упэўнены, што немаўлятка памерла, і толькі ў 60-я гады мінулага стагоддзя, калі прыехаў сюды з турыстычнай групай, даведаўся ад цёткі, якая папрасіла пахрысціць немаўля, што дзіця выжыла. Потым яны нават сустракаліся.*

## Чаканне выпрабаванняў

*Напэўна, каб ён не «пайшоў у прэзідэнты», я б крыху здзівілася, таму што Мікола ніколі не хаваў сваіх мэтаў. Але зусім не тых, якія старанна агучваюць яго палітычныя «сябры». Яму стварылі імідж «вулічнага байца». Насамрэч, усё не так. Магчыма, гэта будзе суб'ектыўна, але ніхто мне пакуль у самастойных поглядах не адмаўляў.*

*Дык вось. Так, ён вельмі мужны чалавек, таму і ўзначальваў раз за разам «вулічныя» акцыі: нехта ж павінен... Але ж, у маім уяўленні, нікога роўнага яму ў беларускай палітыцы сёння няма. Па аналітычных здольнасцях, па здольнасці разумець, што адбываецца ў нашай*





*краіне, па здольнасці прагназаваць развіццё сітуацыі і рабіць тое, што неабходна рабіць.*

*...На жаль, і вядомасць, і імідж чалавека вельмі часта залежаць не ад яго сапраўдных вартасцей, а ад выкарыстання пэўных тэхналогій. Не будзем гадаць — добра гэта ці дрэнна, але тое, што з «нічога» можна зрабіць асобу, падзею, чалавека, відавочна...*

*На мой погляд, Мікола — Асоба з самага пачатку. Можа гэта здаецца высокімі словамі, але ён, сапраўды, больш за ўсё на свеце любіць Беларусь. Такі выбар зрабіў яшчэ на мяжы 80-90-х гадоў мінулага стагоддзя, і усё, што было зроблена потым, ідзе ў фарватары менавіта гэтага выбару.*

*Падсумоўваючы, скажу так.*

*Па-першае, Мікола ніколі не адмаўляў таго, што ён гатовы пайсці на гэтыя выбары і гатовы ўзяць на сябе адказнасць за лёс краіны.*

*Па-другое, ён, як ніхто і, мабыць, ледзь не адзіны, дакладна ведаў, што трэба рабіць на гэтых выбарах. Ён не ішоў на электаральную кампанію, бо добра ведаў, што з 2001 года ніхто не лічыць галасы, і ілюзіяў, спадзяванняў на нейкі другі тур у яго не было ніколі.*

*Не перастаю здзіўляцца кранальнай наіўнасці людзей, якія яшчэ вераць ці ў «добрага цара», ці ў нейкія дзівосы. У гэтай улады зусім іншая* сутнасць.

*У краіне, дзе няма выбараў, грошы ў «электаральныя» кампаніі можна ўкладваць ці дзеля нейкага піяру, ці з наіўнасці.*

*Мікола гэта ведаў добра. І я таксама.*

*У пэўнай ступені ён прыносіў сябе ў ахвяру, бо разумеў, з чым і з кім прыйдзецца змагацца, у якіх умовах. Шчыра кажучы, спадзеву на нейкія імгненныя змены не было з самага пачатку. Такую ўладу так проста не аддаюць. Ды і народ яшчэ не быў гатовы да нейкіх кардынальных дзеянняў.*

*Бацька Міколы Віктар Паўлавіч увесь час прычытаў: «Навошта табе гэта». А я яму гаварыла, што Міколу нельга спыняць, яму можна толькі дапамагчы.*

*Безумоўна, Мікола чалавек з амбіцыямі, але іх сутнасць не ў асабістай уладзе. Больш за тое, Мікола быў гатовы зняць сваю кандыдатуру на карысць іншага чалавека, каб удалося дамовіцца на «адзінага». Але толькі з пэўнымі ўмовамі, якія тычыліся ўсёй краіны. На жаль, гэтага не адбылося.*

*Афіцыйна я ў гэтай выбарчай кампаніі Міколы не ўдзельнічала: хацеў мець надзейны тыл. Як высветлілася пазней, цалкам меў рацыю: на допыце ў КДБ мяне пужалі, абяцалі «пасадзіць». У іх не было падстаў.*

*Чамусьці ўсе думалі, што ў дзень выбараў улада не пойдзе на нешта жорстка-брутальнае. Я так не думала. Гледзячы на гістэрыю кіраўніка дзяржавы, я была абсалютна ўпэўнена: будуць біць. Лукашэнка трымаўся з апошніх сіл.*

*Вечарам 19 снежня мы былі ўчатырох. Сярод прысутных панавала поўная эйфарыя. Гэта быў першы выпадак за доўгія гады, калі людзі, убачыўшы, што іх вельмі шмат, адчулі сябе такімі разняволенымі, шчаслівымі, годнымі. Яшчэ на Кастрычніцкай плошчы мы дамовіліся, што нізашто не выпусцім у выпадку небяспекі рукі адзін аднаго і ні пры якіх абставінах не пабяжым. Гэта і дазволіла не паддацца паніцы, асабліва, калі «праз нас» пабег народ. Безумоўна, была спакуса зрабіць тое ж самае, але стрымала папярэдняя дамова. Мы толькі счапілі моцна рукі.*



## Пачатак выпрабаванняў

*Ён прыйшоў туды, куды і абяцаў прыйсці сваім выбарцам. На Кастрычніцкую плошчу. Добра вядома, што адбылося дагэтуль. Дадам толькі, што падчас «бандыцкага» нападу на «калону Някляева» Мікола быў адзіным, хто адрэагаваў на гэта адпаведна свайму вайсковаму мінуламу. Ён здолеў прыціснуцца спіной да машыны ДАІ і пачаў адбівацца. Адзін хлопец спрабаваў прыкрыць яго сваім целам, але Мікола падумаў, што галава гэтага хлопчыка нічым не горшая за яго галаву, і стаў прыкрываць таго рукамі. Менавіта па гэтай прычыне яны ў яго былі так моцна збітымі.*



*«Дастаць» нападнікі не змаглі, і тады адзін з іх папоўз да яго па снезе. Адзінае выйсце — даць яму нагой па галаве. Мікола разумеў гэта, але замешкаўся, так не зрабіў: усё ж ударыць чалавека у твар, ды яшчэ нагой — мы ж не на вайне і гэта не вораг... Прынамсі, так мы лічылі да 19-га. Пашкадаваў. І страціў прытомнасць: збілі з ног, нанеслі некалькі ўдараў па галаве. Прыйшоў у сябе, калі на ім ўжо «сядзела» некалькі чалавек у масках і бязлітасна біла.*

*Пазней ён найшоў кіраўніка свайго выбарчага штаба Сяргея Марцалева і яны разам сталі прабірацца на Кастрычніцкую плошчу. Ён абяцаў гэта людзям, а абяцанні свае прыстойны чалавек павінен заўсёды выконваць. І не важна, у якім ён стане.*

*Атрыманыя падчас нападу траўмы, як пазней высветлілася, аказаліся значна больш сур'ёзнымі, чым гэта падавалася на першы погляд. Ногі былі так збіты, перабіта калена, што ён фізічна не змог падняцца на прыступкі помніка Леніну. Пра ўсё гэта я даведалася толькі праз пяць месяцаў.*

*На плошчы ўвесь час імкнулася трымаць Міколу ў полі зроку і «згубіла» яго толькі каля Дома ўрада. На судзе высветлілася, што яго з Саннікавым нейкі афіцэр міліцыі запрасіў на «перамовы» з урадам. Гэта быў даволі подлы і цынічны падман, бо замест перамоў пачаўся «хапун».*

*Я пастаянна тэлефанавала Міколу, аднак змагла пагаварыць толькі, калі ён выйшаў да Глаўпаштамту. Ён параіў ехаць да маці ў «Лошыцу», а сам з дапамогай ахоўнікаў накіраваўся ў Міхайлаўскі сквер.*

*Дарэчы, калі мы выходзілі з плошчы Незалежнасці, то я заўважыла, што ў вонкавым ачапленні стаяць звычайныя вайскоўцы, а не спецназ альбо ўнутраныя войскі, навучаныя «ваяваць» з бяззбройнымі людзьмі. Калі мы ішлі паўз іх і глядзелі ў вочы, то там-сям нас з гэтага «кола» выпускалі, яны нават хавалі вочы. Гэта азначае, што ў выпадку «нешта не так», улады былі гатовыя прымяніць супраць людзей армію.*



*З Міхайлаўскага сквера Мікола патэлефанаваў Алесю Іванавічу Арэстовічу, бо адчуваў сябе вельмі дрэнна. Той прыехаў. Яны выклікалі таксоўку, але літаральна праз некалькі метраў былі заблакаваныя машынамі. Без асобых сантыментаў разбілі шкло, выкінулі гаспадара з яго таксоўкі, селі самі за руль і павезлі ў невядомым напрамку.*

*Пэўны час яго тэлефон яшчэ адказваў. Я вельмі доўга была каля плошчы, таму што нашы «праваахоўныя органы» не цырымоніліся з дэманстрантамі. Адны выходзілі з разбітымі галовамі, другім зламалі рэбры. Трэба было людзям дапамагаць.*



*Мікола сказаў, што, мяркуючы па Чыгуначнай вуліцы, яго (хутчэй за ўсё) вязуць на Акрэсціна. Так яно і было, але потым нешта «перагулялі». У нас сёння так шмат розных спецыяльных службаў, што няма нічога дзіўнага ў тым, што час ад часу паміж імі адсутнічае элементарная каардынацыя.*

*«Бралі» Міколу, верагодна, міліцыянты. Яны і павезлі па знаёмым маршруце — на Акрэсціна. І толькі потым высветлілася, што «даставіць Статкевіча» трэба было ў «амерыканку».*

*Аднак я ўсяго гэтага не ведала. І, пачуўшы пра Акрэсціна, крыху супакоілася. Маўляў, абышліся «малой крывей» — 15 сутак. На наступны дзень паехала туды яго шукаць. Але безвынікова. Тое ж самае было на «валадарцы» і ў «амерыканцы».*

*Тады мне параілі перадаць перадачу. У «амерыканцы» яе прынялі, і я зразумела, што Мікола менавіта там. Нават у межах аднаго ведамства поўная разбалансаванасць. У адным акне ілгуць: «Статкевіча няма», а ў другім — прымаюць для яго перадачу...*

## Праз выпрабаванні — да перамог

*Калі Мікола аб'явіў галадоўку, я баялася, што ён можа загінуць, але добра разумела, што так ён і павінен быў паступіць.*

*Першую «цыдулку» (некалькі слоў) я атрымала ад яго 18 студзеня 2011 года, то бок, праз месяц пасля арышту. Напісана яна была вельмі тонкім почыркам, які Міколу не быў уласцівым. Датаваная яна была 13 студзеня і атрымлівала толькі інфармацыю пра тое, што ён мусіў спыніць галадоўку. Параілася з адвакатам і іншымі людзьмі, якім давяраю, і мы разам прыйшлі да высновы, што КДБ вельмі важна, каб навіна пра спыненне галадоўкі паявілася напярэдадні абмеркавання «беларускага» пытання Еўрапарламентам. Стала страшна: а раптам гэта дэзынфармацыя, Мікола не спыняў галадоўкі, яго жыццё у небяспецы, а мы «згуляем» па правілах КДБ? Вырашылі яе не агучваць.*

*Як высветлілася потым, супрацоўнікі спецслужб вывезлі яго з СІЗА, прыкавалі да ложка, паказалі аналізы, якія, сапраўды, былі вельмі*



*дрэнныя, і сказалі — заўтра ты страціш прытомнасць і мы зробім з табой, што захочам.*

*Не, Міколу яны не зламалі. Проста ён дайшоў да мяжы самакантролю, а для яго страшна— перастаць кантраляваць сябе «ў стане ворага».*

*Не дачакаўшыся ад мяне патрэбнай ім інфармацыі, улады абвясцілі аб спыненні галадоўкі самі, абнародаваўшы адпаведны ліст пракуратуры.*

*Такога не пажадаеш нават ворагу, але я ведала, што Мікола гатовы прынесці сябе ў ахвяру. Адзінае, на што было спадзяванне, — смерць кандыдата ў прэзідэнты нявыгадна ўладзе, і яны зробяць усё, каб яе не дапусціць. І дзякаваць Богу!*



*Як гэта яны зрабілі, для мяне і сёння загадка, таму што ў тым стане, у якім Мікола знаходзіўся, рэдка дасягаецца поспех. На шчасце, у іх атрымалася.*

*Спіс прадуктаў, якія яны праз ліст прасілі тады прынесці, уводзіў мяне амаль у гістэрыку, бо на 1000 адсоткаў супярэчыў майму медыцынскаму досведу. Уявіце, для вываду чалавека з галадоўкі яны прасілі прынесці смятану ці сметанковае масла, кефір, тварог і т.п. Магчыма, гэта з невядомай мне медыцыны катастрофаў...*

*На ўсе мае просьбы і патрабаванні даць нам спатканне і не чыніць перашкод ў ліставанні з КДБ, пракуратуры, следчых органаў ішлі выключна адмоўныя адпіскі. У першы раз я яго ўбачыла толькі, калі пачаўся судовы працэс — 11 траўня 2011 года. Спатканне нам далі, калі прагучаў прыгавор. З трох гадзін яны подла «скралі» 20 хвілін.*

*Цяпер Мікалай знаходзіцца ў Шклоўскай калоніі і тыя ж рэчы адбываюцца нанова. Зноў пачаліся праблемы з ліставаннем, і я бачу тут адну руку. Яны зноў злуюцца і не ведаюць, што рабіць, а ў такіх выпадках, як вядома, нічога разумнейшага не знаходзяць, чым рабіць подласці. Вакол нас зноў пачалося нейкае непрыемнае варушэнне.*



*Пайшоў другі месяц, а я атрымала ад Міколы толькі тры лісты. Сказала аб гэтым публічна і, калі я 27 чэрвеня туды паехала з перадачай, зайшла да начальніка. Ён мне прапанаваў напісаць ліст проста там. Маўляў, цэнзар сядзіць у суседнім кабінеце, таму Мікола яго атрымае праз 15 хвілін. Я так і зрабіла.*

*У Шклове раз на тыдзень ім дазваляюць тэлефанаваць. Праз два дні ён мне патэлефанаваў, падзякаваў за перадачу, а на пытанне пра ліст адказаў, што нічога не было. Тады я «села на каня» і выказала ў слухаўку ўсё, што думаю пра афіцэрскі гонар. Неўзабаве, Мікола атрымаў-такі мой ліст, але ...з мінскім паштовым штэмпелем. Той самы, які быў напісаны па «прапанове» начальніка калоніі... Мабыць, як з жартам выказаўся Мікола, яны ўсё яшчэ шукаюць таемныя чарніла і мае лісты ідуць выключна праз беларускую сталіцу...»*

***P.S.***

**Магчыма, некаторыя тэзісы гэтай размовы камусьці пададуцца спрэчнымі, але я не «пакінуў іх за дужкамі» па вельмі простай прычыне: у такім выглядзе больш зразумелымі становяцца матывы паводзінаў Міколы Статкевіча. Чалавека, які быў гатовы ахвяраваць сабой дзеля таго, каб мы перамаглі.**

*14.07.11*

# СЭРЦА МАЦІ



**Даведка:** Мікіта Ліхавід нарадзіўся 27 мая 1990 года ў Мінску. Пасля сканчэння сярэдняй школы № 177 паступіў на юрыдычны факультэт недзяржаўнага Мінскага інстытута кіравання.
У няпоўны 21 год паспеў стаць актывістам руху «За свабоду». Затрыманы 19 снежня на Плошчы Незалежнаці, асуджаны на 15-сутачны арышт, але 23 снежня пастанова аб арышце адменена, і ён пераведзены ў статус абвінавачанага па справе аб масавых беспарадках. 29 сакавіка асуджаны Партызанскім судом Мінска да 3,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Прызнаны «Міжнароднай амністыяй» вязнем сумлення.

Не ведаю, колькі іх будзе на момант паяўлення гэтай кнігі, але на сёння ён пяць (!!!) разоў паспеў пабываць у штрафным ізалятары (шыза) і правёў там пяцьдзесят пяць сутак. Цалкам не згодны з тымі, хто гаворыць пра ўпартасць Міколы Ліхавіда. На мой погляд, гэта іншае — Пазіцыя.

## Звычайная біяграфія

Мабыць, як і іншыя, я не раз задумваўся над тым, адкуль у гэтага маладога хлопца столькі прынцыповасці і моцы? Падчас размовы з Аленай Ліхавід зразумеў — ад маці. Пра сюррэалізм калоніі, дзе сядзеў Андрэй Клімаў (Мазыр, ВК-20), мне расказвала яго жонка Таццяна Леановіч, і я думаў, што нічога падобнага (для тых, хто адбывае пакаранне) у пеніцытарнай сістэме Беларусі больш няма. Аказалася ёсць. Навапалацкая папраўчая калонія №10.

Няма сумненняў, што яе начальнік Аляксандр Сівоха думае не так. Як і тое, што там не служаць выключна пачвары. Месціцца калонія паміж вядомымі гігантамі айчынай прамысловасці — «Нафтанам» і «Палімірам». І слова «гіганты» тут ўзятае не з афіцыйнай ідэалагічнай палемікі.

Яго агучыла Алена Ліхавід, каб больш яскрава апісаць свае ўражанні ад тых мясцін.

Прашу прабачэння за такую гульню слоў, але «зона» сапраўды знаходзіцца ў прамзоне. З двух бакоў — велічэзныя трубы і ёмістасці, колькасці якіх, здаецца, няма межаў. Такое нават цяжка ўявіць. Знаёмыя з «Паліміра» расказвалі Алене, што ад прахадной, дзе яны звычайна пакідаюць сваё аўта, да рабочага месца 20 хвілін пехам. Невыпадкова Мікіта калісьці сказаў, што яго калонія знаходзіцца «ў цэнтры самагоннага апарата».

А паветра там хімічна-кіслае. Праз пару гадзін пачынаеш адчуваць у горле нейкі непрыемны прысмак, а яшчэ праз пару гадзін — прызвычайваешся. Расказваюць, што шмат дзяцей, якія нараджаюцца і жывуць у Наваполацку, маюць ад самага нараджэння пэўныя алергічныя рэакцыі. Таму бацькі імкнуцца «вывезці» іх з гэтага горада адразу ж.

Словам, для эколагаў там вельмі шмат «аб'ектаў». І дзякуй Богу, што зараз крызіс (якога афіцыйна няма). Ён амаль спыніў вытворчасць, а значыць, і хімічныя выкіды.

Дарэчы, калі Алена Ліхавід паспрабавала перадаць у калонію фільтр для вады, ёй адказалі: мы ж таксама яе п'ем. Прыйшлося патлумачыць, што яны ваду кіпяцяць, а асуджаныя не. Фільтр усё роўна не прынялі: не дазволена. Яго можна толькі падарыць канкрэтнаму атраду, але для гэтага трэба сабраць шмат паперак-дазволаў. Гэтым жанчына зараз і займаецца.

Яна хацела перадаць туды і вентылятар, але папярэдзілі, што шансаў амаль нуль: па прэзідэнцкаму ўказу эканомяць святло.

Нарадзілася Алена Ліхавід 21 жніўня 1969 года. Яе бацька Уладзімір Аляксандравіч усё жыццё працаваў на «Гарызонце». Зараз інвалід другой групы, амаль страціў зрок, і таму лісты ад унука яму чытала жонка Антаніна Рыгораўна. Дарэчы, яна увесь час (і зараз) працуе на «Мілавіцы» і вельмі добра шые. Магчыма, гэта якасць перадалася і дачцэ, якая стала інжынерам-канструктарам дзіцячых лялек.

Шмат гадоў таму Алена Ліхавід скончыла звычайную (без «ухілаў») 107 школу і паступіла ў Віцебскі тэхналагічны інстытут (зараз універсітэт) лёгкай прамысловасці, але была вымушана яго пакінуць адразу ж. Тут і праявілася тая самая «ўпартасць», пра якую казалася на пачатку нарыса. Праз шмат гадоў Алена паступіла туды паўторна. Толькі на гэты раз завочна.



Было ў яе жыцці і яшчэ адно выпрабаванне. З бацькам Мікіты яны разышліся, калі хлопчыку было толькі тры гады, аднак Алена прынцыпова рабіла ўсё магчымае, каб дзіцё гэтага не адчула. Нават працавала ў звышурочны час.



Паявіўся Мікіта Ліхавід на свет 27 траўня 1990 года. Было вельмі спакотна. Калі немаўля першы раз прынеслі да маці, ён спаў і тая ўвесь час імкнулася падняць вечкі, каб пагледзець, якога колеру ў сына вочы.



Ён быў такім спакойным, што маці нават пачала нервавацца, чаму дзіця не плача. Будзіла — паесць — зноў спіць. Аднак гэта быў толькі вонкавы спакой. Гледзячы на дзіцячыя фота сына, Алена Ліхавід прыйшла да высновы, што ў яго ўжо тады быў «недзіцячы позірк». Сэрца маці адчула ў іх нейкую праекцыю на сённяшнія падзеі. Быццам бы ўжо тады яе сын казаў вачамі тое, што праз шмат год прывядзе яго да штрафнога ізалятара Наваполацкай калоніі нумар дзесяць.



З самага дзяцінства хлопец пачаў нешта прыдумляць. Імкнуўся не толькі зразумець, «як, што працуе», але і прыстасаваць гэта да хатніх патрэб. Напрыклад, аднойчы разабраў пыласос, выняў з яго матор і скотчам прыкруціў да швабры. Хацеў зрабіць так, каб яна ў кватэры ўсё чысціла сама.



З гадамі прыбавілася і яшчэ адно захапленне — энцыклапедыі. Ён чытаў іх як звычайныя кніжкі і «даставаў» настаўнікаў, калі тыя ў чым-небудзь памыляліся. Яны нават прасілі Алену правяраць, што сын кладзе ў свой партфель, бо той у школу нёс энцыклапедыі замест звычайных падручнікаў.

Мабыць, таму і апынуўся за кратамі, што хацеў усё зразумець сам. Не палічыце банальнасцю, але я ўпэўнены ў тым, што каб Мікіта Ліхавід не задаваў пэўных пытанняў, то зараз быў бы не ў турме, а ў якім-небудзь бэрэсэме...

## Незвычайны працяг

Мікіта Ліхавід скончыў 177 школу, дзе вучыўся ў класе з паглыбленым вывучэннем ангельскай мовы. Дарэчы, на «валадарку» сярод іншага перадалі і кнігі на ангельскай мове. Каб той яе не забываў. І працягваць вучобу далей вырашыў менавіта на завочным аддзяленні, бо не хацеў каб маці яшчэ пяць год плаціла за яго навучанне. Выпадак не зусім тыповы для нашага часу. Большасць моладзі прывыкла «сядзець на карку» бацькоў да самага дыплома аб вышэйшай адукацыі.

Ні ў адну дзяржаўную вышэйшую навучальную ўстанову на «бюджэт» ён не праходзіў, а плаціць дзяржаве за ідэалогію, з якой не пагаджаўся прынцыпова, было нелагічна, таму Мікіта Ліхавід абраў юрыдычны факультэт недзяржаўнага Мінскага інстытута кіравання. Чаму? Адказ вельмі просты: юрысту «лапшу» на вушы не павесіш.

Працаваць ён уладкаваўся на фірму маці звычайным грузчыкам, але пратрымаўся там нядоўга. І прычынай таму сталі не цяжкасці, бо яны як раз і не пужалі юнака. Прычына іншая. Яго аднакласніца і каханка паступіла ў ЕГУ. Пастаянна ездзіць у Вільню на выходныя было складана, і тады Мікіта перабраўся ў літоўскую сталіцу канчаткова. Працаўладкаваўся і жыў там разам са сваёй сяброўкай да самага сусветнага крызісу. Разам з ім пачаліся складанасці, пра якія не хацелася б расказваць падрабязна, скажу толькі тое, што ў рэшце рэшт адбылося тое, што Маякоўскі меў на ўвазе, калі пісаў «любовная лодка разбилась о быт». Як кажуць у падобных выпадках, «засталіся сябрамі».



Палітыкай Мікіта Ліхавід пачаў займацца ў пятнаццацігадовым узросце. Менавіта тады яны з маці першы раз пайшлі на чарговы «Чарнобыльскі шлях». Юнака гэта моцна і пазітыўна ўразіла. Тым больш, што ён на той час пачаў шчыльна займацца вывучэннем гісторыі нашай краіны. Таму цалкам лагічна: ужо праз хуткі час Мікіта стаў сябрам руху «За свабоду». Маці вельмі добра памятае момант, калі яе сын першы раз павітаўся з Аляксандрам Мілінкевічам. Быў такі горды, што маці дзеля жарту прапанавала «не мыць руку».

На прэзідэнцкіх выбарах 2010 года ён не ўваходзіў ні ў адну з камандаў, хаця і сімпатызаваў Андрэю Саннікаву. Прагаласаваў пасля абеду, і пасля яны з сябрам у іх доме пілі гарбату, размаўлялі. Некалькі разоў цікавіўся ў маці наконт паходу на Плошчу. Праз пару гадзін абяцаў вярнуцца, бо было даволі зімна. Не атрымалася...

Па суседству з Аленай жыве міліцыянт. Па дарозе дамоў ён зайшоў да іх і спытаў: «Дзе Мікіта?». Пачуўшы адказ пра Плошчу, папрасіў яму патэлефанаваць, бо ў іх тэрмінова вызвалілі ад людзей усе камеры. Было гэта за некалькі гадзін да «хапуна»...

Сэрца маці адразу адчула нешта нядобрае. З сувяззю пачаліся незразумелыя праблемы, але Алене пашанцавала пачуць сына. Той адказаў, што «пакуль усё ціха» і няма нават намёкаў на нешта экстраардынарнае. Ён не ведаў і не мог ведаць, што на той момант да Плошчы Незалежнасці ўжо пачалі пад'язджаць машыны са спецназам у аўтазаках.

Па гэты дзень у «мабільніку» Алены Ліхавід захоўваюцца тры SMS ад сына. Першае паведамленне прыйшло ў 23.39. Пісалася пра тое, што сын знаходзіцца ў міліцыі, хвалявацца не трэба, ён цалкам здаровы.



Другая SMS расказала, што ён ўжо на Акрэсціна.

Можна толькі здагадацца, якія эмоцыі ў той час перажывала маці (прэцэдэнтаў у законапаслухмянага хлопца не было), але панавала разгубленасць. Знаёмыя параілі дачакацца новага працоўнага дня, бо нешта шукаць ноччу не мела сэнсу.

Ніхто нічога не сказаў і на наступны дзень. Нават у так званым Доме правасуддзя. Там Алена Ліхавід ўпершыню ўбачыла сумна вядомага палкоўніка Яўсеева і была шакавана яго хамствам і колькасцю нянавісці ў вачах. Такога звярынага полымя яна ў сваім жыцці яшчэ не бачыла.

З самага рання на Алену выйшлі актывісты руху «За свабоду», прапанавалі сваю дапамогу і далі праваабаронцам нумар яе тэлефона.

Гэта значна спрасціла пошук сына: быць адначасова ў розных судах немагчыма фізічна, таму жанчына вельмі ўдзячна ім усім і асабліва праваабарончаму цэнтру «Вясна».

У тры гадзіны дня ёй па тэлефоне сказалі, што ў Кастрычніцкім, Ленінскім і Маскоўскім судах Мікіты Ліхавіда няма, а сама яна «дзяжурыла» у Першамайскім судзе (па месцы жыхарства). Дарэчы, гэта быў першы суд, дзе жанчыну (і астатніх маці затрыманых) пусцілі ў будынак «пагрэцца». Ва ўсіх астатніх іх прымушалі дрыжаць ад холаду на вуліцы.

Калі было ўжо 18 гадзін, ёй паведамілі, што яшчэ адну «партыю» прывезлі ў Савецкі суд. Алена паехала туды. Там сказалі, што за ўвесь дзень у іх ніякіх судоў не было і нікога не прывозілі. Не засмуціў нават аўтазак, які стаяў за будынкам. Патлумачылі гэта тым, што ён стаіць там цэлы дзень.

Алена паехала дамоў, а праз гадзіну ёй патэлефанаваў Мікіта. Сказаў, што ў яго ў тэлефоне сеў акумулятар, таму ён ўзяў апарат сябра, знаходзіцца ў аўтазаку, судзілі яго ў Савецкім судзе. А праз некалькі гадзін прыйшло трэцяе SMS: «Я ў Жодзіна».

Каментаваць гэты момант не хочацца, бо без «моцных» слоў тут не абысціся. Адно хачу сказаць: Бог бачыць усё і вельмі часта тыя, хто цынічна адмовіў маці ў праўдзе пры яе дзіцяці, самі трапляюць у падобныя сітуацыі. І вельмі хутка ўспамінаюць пра «чалавечае аблічча»...

## Сардэчнае сяброўства

Тады Мікіту «далі» традыцыйныя 15 сутак і ўсе спадзяваліся хутка ўбачыць яго дома. Маці нават збіралася святкаваць Новы год не першага студзеня, а трэцяга. Больш за тое, праз адваката сын Алены перадаў просьбу абавязкова паставіць дома елку. На жаль, убачыць яе яму так і не давядзецца.

27 снежня дамоў да Ліхавідаў прыйшлі з вобыскам. Пачалі яго без Алены (дома былі яе маці і бацька), а праз паўгадзіны яна даведалася, што Мікіту цяпер вінавацяць у іншым — удзеле і арганізацыі масавых беспарадкаў. У пастанове было напісана, што Мікіта ўсё гэта ажыццявіў, згаварыўшыся адразу з усімі экс-кандыдатамі ў прэзідэнты. Жанчына пачала тлумачыць, што ён іх нават не ведае, але гэта нікога не цікавіла. Следчыя забралі інфармацыйныя носьбіты (ноутбук, сістэмны блок) і пакінулі паперу, якая нагадвала пра іх страшную вестку.

Праз паўгадзіны ў яе былі прадстаўнікі руху «За свабоду», а на наступны дзень з дапамогай праваабарончага цэнтру «Вясна» жанчына ўжо падпісвала адпаведную дамову з адвакатам. Як пазней высветлілася, абвінавачванне прагучала яшчэ 23 снежня. Чатыры дні маці думала зусім пра іншае, і ніхто ёй не сказаў, што на самой справе чакае яе сына.

Зноў не хочацца ўжываць «моцныя» словы, але мабыць, зусім без гэтага не абысціся.

На жаль, сёння ў нашай краіне пабудавана сістэма «стабільнай» агіднасці. З глыбіні чалавечых душ на паверхню выцягнутыя самыя змрочныя чалавечыя інстынкты, і падаюцца яны за «норму жыцця». Мякка кажучы, гэта не так. І тыя, хто сёння «пры ўладзе», добра ведаюць сапраўдную рэчаіснасць.

Магчыма, некаторыя не пагодзяцца з такой высновай, але мне шчыра шкада тых, хто «не ведае, што робіць»... Прыйдзе час, і ім будзе сорамна за асабістыя дзеянні, а многім сённяшнім катам прыйдзецца памяняцца месцамі з іх ахвярамі... Свае ўчынкі яны апраўдваюць неабходнасцю «карміць дзяцей», але гэта не можа быць нейкай індульгенцыяй, бо такія, як Мікіта Ліхавід, таксама нечыя дзеці, і іх бацькі пакутуюць не менш...



31 снежня 2010 года Алене Ліхавід патэлефанавалі з КДБ і прапанавалі паразмаўляць. Сустрэліся на «нейтральнай тэрыторыі» і спыталіся пра адносіны да таго, што адбываецца ў краіне. Даволі хутка зразумелі, што «давіць» на яе бессэнсоўна і цынічна пажадалі «шчаслівага Новага года».

Каментаваць што-небудзь тут нельга, скажу толькі, што аўтар зараз таксама агучыў тыя ж словы, што і чытачы...

А вось бацька Мікіты Ліхавіда аказаўся больш падатлівым. Імя гэтага чалавека не хачу называць ні я, ні Алена Ліхавід. Менавіта ён агучыў прапанову КДБ абылгаць апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты ў замен на свабоду, чым яшчэ раз пацвердзіў, што вельмі блага ведае свайго сына. А той з гэтага моманту не хоча ведаць і свайго бацьку.

А вось прозвішча іншага чалавека я ўсё ж назаву. Гэта былы класны кіраўнік Мікіты Ліхавіда Алена Уладзіміраўна Казачок. У школе яна ставілася да Мікіты вельмі добра. Як і ён да яе. Нечакана настаўніца адмовілася ісці ў суд сведчыць з боку абароны, таму што «ў яе работа ў дзяржаўным ліцэі, а справа тут — палітычная». Аднакласнікі былі моцна шакаваныя гэтым, а Мікіту расказаць пра яе адказ Алена мае намер толькі пасля яго вызвалення. Не хоча хваляваць.

Банальна, але страх — асноўны падмурак гэтай улады. Аднак пакрысе адыходзіць і ён. Толькі час ад часу вельмі балюча назіраць за тым, як адных «травяць газам», а іншыя ставяцца беражліва да асабістай скуры і здольныя пратэставаць толькі на сваіх кухнях. Такія людзі і баяцца сведчыць у судах.

Але гэта выключэнне з правілаў. Ні адзін чалавек, з кім Алена мела стасункі раней, не змяніў сваё стаўленне да яе пасля арышту сына. Больш за тое, стала вельмі шмат тых, хто адкрыта пачаў казаць, што ганарыцца сяброўствам з Аленай, Мікітам. Уразіла і тое, што да яе сталі прыходзіць абсалютна незнаёмыя людзі і выказваць сваю падтрымку.

Пра тое, як Алена Ліхавід сустракалася са сваім сынам, напісана шмат, таму паўтарацца няма сэнсу. На месцы Жодзінскай турмы хлопец марыць пасадзіць яблыневы сад, а ахоўнікаў зрабіць садоўнікамі.

А ў Наваполацкай калоніі Алена Ліхавід убачыла іншага чалавека. З юнака яе сын ператварыўся ў сапраўднага Мужчыну.



## Голас сэрца

З доўгай размовы з Аленай Ліхавід я асобна хачу выдзеліць адзін маналог. Раблю гэта па той прычыне, што быў літаральна шакаваны ім:

*«Свята Вялікадня гэтага года выдалася самым сумным ў маім жыцці. Асвечаныя ў царкве булачкі мы перадалі Мікіту. Хацелі перадаць і чырвонае яйка, але браць яго адмовіліся — нельга, бо такога харчу няма (чаго я цалкам не разумею) у адпаведным спісе. Так, адну просьбу Мікіты мы з маёй маці тады выканаць не змаглі.*

*Аднак самае балючае было не гэта. Нейкі мужчына прынёс для сына перадачу, якая складалася выключна з адной велікоднай булкі. Яе не прынялі, бо гэтыя некалькі соцень грамоў былі звыш устаноўленага на месяц ліміту ў 30 кг. З «валадаркі» той мужчына пайшоў са слязьмі на вачах...*



*Старыя расказваюць, што такога падчас вайны не рабілі нават фашысты. Няўжо там працуюць толькі людзі, у душах якіх не засталося нічога святога? Можа іх нарадзілі не маці, а вырошчвалі ў лабараторных прабірках?*

*Не, не ўсе яны такія, і я заўсёды ўспамінаю міліцыянта, які пусціў нас пагрэцца ў Першамайскі суд, але ў большасці культывуюць менавіта пачварныя інстынкты.*

*Калі я з раніцы іду на работу, то ад выгляду маладых хлопцаў, якія з бутэлькай піва стаяць каля крамы і лаюцца матам, становіцца крыху крыўдна, бо мой сын пакутуе за кратамі не дзеля гэтага.*

*А калі па серадах іду на «маўклівыя» акцыі», на душы становіцца значна лягчэй. Там зусім другая моладзь. І яе вельмі багата.*

*Магчыма, гэта звычайныя «жаночыя слабасці», але бываюць моманты, калі перастаеш верыць у нешта светлае. Потым яны адступаюць, бо я павінна быць моцнай. Каб змагацца тут за тое, за што Мікіта змагаецца там.*

*Сумна бачыць, як «брытагаловыя» хапаюць людзей, якія мірна гуляюць, толькі за тое, што яны трымаюць у руках мабільныя тэлефоны, альбо пляскаюць у далоні. На маіх вачах каля будынка Нацыянальнай бібліятэкі «зачышчалі» хворага эпілепсіяй чалавека. Брутальна, па-звярынаму. Калі ўзгадваю той момант, заўсёды кружыцца галава.*

*У аднаго з іх я спытала: «У цябе маці ёсць? Ты памятаеш, калі ты ёй глядзеў у вочы?» У адказ ён прашаптаў: «Я Вас прашу — не стойце, проста куды-небудзь ідзіце». Мабыць, той, хто кажа ім «Фас!», загадаў хапаць усіх, хто спыняўся.*

*Нармальнаму чалавеку такую «логіку» зразумець немагчыма. Калі гэта будзе працягвацца яшчэ нейкі час, мы прыйдзем да канцлагераў.»*

Спадзяюся, нічога падобнага ў нашай краіне не адбудзецца па той прычыне, што на гэта банальна не хопіць грошай. Аднаго хворага жадання тут мала. Раб не можа шчыра любіць свайго гаспадара. Пакуль корміць — любіць. Перастае — паяўляюцца спартакі.

Да таго ж, не ўсё ў жыцці вымяраецца прымітыўнымі «чаркай і шкваркай». Мікола Ліхавід — яскравы таму прыклад.

## Замест P.S.

**По папярэдняй дамоўленасці я паслаў гэты нарыс Алене Ліхавід у 7 гадзін раніцы 21 ліпеня. А праз некалькі гадзін суддзя Вайцюховіч прысудзіў ёй 10 сутак за ўдзел у чарговай «маўклівай» акцыі, што яшчэ раз пацвердзіла тое, адкуль у Мікіты Ліхавіда столькі моцы і прынцыповасці.**

***P.S.* № 2 Вызвалены 13.09.11**

*21.07.11*

# ПЕРААДОЛЕЦЬ СТРАХ




**Даведка:** Алесь Міхалевіч нарадзіўся 15 мая 1975 года ў Мінску. Вучыўся ў школе №19, Беларускім гуманітарным ліцэі. У 1997 годзе скончыў юрыдычны факультэт БДУ. Узначальваў Задзіночанне беларускіх студэнтаў. З 2003 па 2007 год быў дэпутатам Пухавіцкага раённага савета. У 2004—2008 гг. — намеснік старшыні партыі БНФ. У 2010 годзе заснаваў грамадскі рух «За мадэрнізацыю». Кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Затрыманы ў ноч на 20 снежня. Змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па артыкуле 293 «Масавыя беспарадкі», ч.1 і 2. 19 лютага выпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. Атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі.

Вядома, што страх з'яўляецца нармальнай чалавечай эмоцыяй. Больш за тое, бываюць выпадкі, калі не баяцца чаго-небудзь анамальна, таму час ад часу і ўзнікаюць падобныя пытанні да Міланы Міхалевіч. Яна адказвае, што не ведае, калі гэты страх згубіўся, і што баяцца ўсё жыццё таксама ненармальна...

## Родам з дзяцінства

Звычайна ў жанчын складана (нават журналістам) высветліць канкрэтную дату народзінаў, але з Міланай Міхалевіч такіх праблем не было. Больш за тое, яна прынцыпова лічыць, што хаваць тут нічога не трэба — 29 лістапада 1976 года. Для тых, хто з'яўляецца прыхільнікам розных гараскопаў, спецыяльна адзначу — Стральцоў (па меркаванням астролагаў) у гэтым годзе чакаюць адны пазітывы. Асабліва ў асабістым сэнсе. Зоркі абяцаюць «светлую будучыню», што складана сказаць пра мінулае. Але пра гэта ніжэй, а пакуль хацелася б крыху ўзгадаць жыццёвы шлях самой Міланы Міхалевіч.

Яе бацька — Міхась Серафімавіч Шушкевіч. Можна толькі ўявіць, колькі разоў (асабліва ў 90-я гады мінулага стагоддзя) Мілана чула пы-



танне наконт нейкіх сваяцкіх сувязяў з самымі вядомымі носьбітамі гэтага прозвішча, і кожны раз гучала — «Не радня!». Хаця са Станіславам Пятровічам (бацька Станіслава Станіслававіча Шушкевіча) Міхась Серафімавіч перасякаўся, калі працаваў у літаратурнай рэдакцыі на Беларускім тэлебачанні.

А пра самога Міхася Серафімавіча павінны добра ведаць тыя, хто паважае розныя музычныя зборнікі, бо ён напісаў словы для шэрагу песень. Самая вядомая з іх «Ты мне вясной прыснілася». У 60—70-я гады мінулага стагоддзя яна была вельмі папулярная.

Вершы М.С.Шушкевіч пісаў раней і піша па гэты дзень. Толькі робіць гэта «для сябе», таму што ў адрозненне ад многіх умее вельмі крытычна ставіцца да сваёй творчасці...

Маці Міланы Галіна Анатольеўна таксама філолаг, і па адукацыі, і па жыцці. З самага пачатку і да выхаду на пенсію яна ўвесь час працавала ў Педагагічным універсітэце. А вось у яе мужа больш запісаў у працоўнай кніжцы. Спачатку ён працаваў у Акадэміі навук БССР, потым — на тэлебачанні, а «ушли» яго з рэспубліканскага радыё. Ды і гэтае «ушли» — даволі ўмоўная рэч, бо ўсё цалкам адпавядала ўласнаму жаданню. З новымі начальнікамі, што прыйшлі да кіраўніцтва пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994 года, у стыль-рэдактара М.С.Шушкевіча адносіны і не маглі быць іншымі: надта розны ў іх светапогляд.

Менавіта дзякуючы бацьку, з самага дзяцінства Мілана Міхалевіч размаўляе на беларускай мове. А яго маці Вольга Сямёнаўна, якая жыла разам з імі, дадала да гаворкі ўнучкі цудоўны вясковы каларыт. Дарэчы, бацька Вольгі Сямёнаўны, Міланін прадзед, быў вядомым траўнікам, лячыў людзей зёлкамі і замовамі і свае веды перадаў дачцэ, таму ў іх дом вельмі часта прыходзілі з падзякамі і павагай розныя людзі.



Каб падрабязна распавесці пра радавод па матчынай лініі, трэба пісаць асобную кніжку, таму абмяжуемся толькі тым, што паходзяць яны з Бялынічаў, хаця сама Галіна Анатольеўна нарадзілася ў Ленінградзе, дзе тады вучылася яе маці Аляксандра.

Было гэта перад самым пачаткам вайны. У Бялынічы яна прывезла дачку гадавалай дзяўчынкай у 1941 годзе, паехала здаваць сесію, а ўбачыла сваё дзіця толькі пасля вызвалення Беларусі. Выжыла Галінка толькі дзякуючы бабулі Аўгінні Афанасьеўне Каласоўскай. Аднойчы ў хату завіталі фашысты. Яны патрабавалі выдаць сына-партызана, але бабуля Аўгіння адмовілася. Яе павялі на расстрэл, але ў апошні момант немец, які наводзіў аўтамат на бабулю, пашкадаваў малое дзіця, якое тая трымала на руках.

На жаль, Аляксандры ўжо няма на гэтым свеце, а вось яе родная сястра яшчэ жыве. Алене Рыгораўне Каласоўскай 103 гады. Яшчэ ў 2006 годзе яна ўваходзіла ў ініцыятыўную групу тагачаснага адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах Аляксандра Мілінкевіча і нават збірала ў яго падтрымку подпісы сваіх знаёмых. У 98 год!!!

Дарэчы, менавіта з Аленай Рыгораўнай Каласоўскай звязана адна з найбольш сумных старонак жыцця шматлікай радні Міланы Міхалевіч. Муж гэтай жанчыны Максім Васільевіч Макарэвіч займаў пасаду рэктара Педагагічнага інстытута (зараз універсітэт). Крэсла вельмі хацеў заняць нехта Іван Лакін, якога прыслалі туды з НКУС сакратаром парткама. Скампраметаваць франтавіка Макарэвіча, які прайшоў вайну ад пачатку да канца, меў баявыя раненні, дайшоў да Берліна, было практычна немагчыма, таму, каб прыдумаць кампрамат, пайшлі іншым шляхам. 6 верасня 1946 года «зніклі» (прама як зараз) іх пятнаццацігадовага сына Лёніка. Хлопчык не вярнуўся са школы і імгненна быў абвінавачаны ў тым, што з'ехаў за мяжу. Бацькам прапанавалі адмовіцца ад сына, а калі тыя гэтага рабіць не сталі, Максіма Васільевіча Макарэвіча хутка знялі з пасады без тлумачэння прычыны і прызначылі на ягонае месца «патрэбнага чалавека». Лёніка не знайшлі па сённяшні дзень.

Гэта я да таго, што ад людзей са спецыяльных службаў можна чакаць самае агіднае паскудства, таму няцяжка ўявіць, якія пачуцці пераж

вала Мілана Міхалевіч, калі даведалася, што муж збіраецца публічна распавесці пра катаванні ў «амерыканцы»...

## Ад бацькоўскага парога

Вельмі цікава ў іх сям'і святкавалі дні народзінаў, і не толькі дзяцей. На лісце ватману стваралі сваю газету, якая складалася са здымкаў, віншаванняў, малюнкаў, розных выцінанак-складанак. Галіна Анатольеўна пякла свой фірмовы слаёны пірог, а бабуля — мядовыя бліны. Для пірага Мілане з сястрой Аленай дазвалялася ўзбіваць крэм, а потым тое, што засталося ў місе, «падшкрабаць».

Заўсёды прыдумляліся нейкія смешныя прадстаўленні: ці дзеці паказвалі лялечны тэатр (прасавальная дошка накрывалася коўдрай, а за ёй паказвалі спектакль з лялькамі), ці дарослыя пісалі жартаўлівыя частушкі, спявалі песні. Але ўсё гэта было раней, і Мілана зараз нават не ведае, калі ў іх хаце збярэцца столькі народу, бо некаторыя сваякі пасля падзей 19 снежня 2010 года ў мэтах асабістай бяспекі спынілі з імі ўсе стасункі...

Спачатку Мілана вучылася ў 52-ой сталічнай школе (мікрараён «Курасоўшчына»), а пасля 9-га класа паступіла ў ліцэй пры БДУ. Хто добра ведае парадкі гэтай навучальнай установы, пацвердзіць, што зрабіць гэта складана. Пасля быў філалагічны факультэт БДУ, дзе сярод славянскіх моваў дзяўчына абрала польскую.

Праз год яна падала дакументы ў Лінгвістычны ўніверсітэт (англійская мова), здала ўступныя экзамены і пэўны час вучылася адразу ў дзвюх навучальных установах, але потым аддала перавагу інязу. У 1999 годзе скончыла МДЛУ і пачала выкладаць ангельскую мову на кафедры сучасных еўрапейскіх моў Педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Працавала там і паралельна вучылася ў аспірантуры да нараджэння дачкі Алёны. Аднак на дадзены момант Мілана не ведае, куды будзе вяртацца, бо іх кафедра не так даўно была расфармавана. Мабыць, сучасныя еўрапейскія мовы сёння больш не патрэбны, а «газавыя» пытанні можна вырашыць і на рускай мове...

Пра дэталі знаёмства з Алесем Мілана расказваць адмовілася адразу. І, на мой погляд, цалкам мела рацыю, бо гэта іх асабістае пытанне. Адзінае, што ўдалося высветліць, — вяселле адбылося таксама ў 1999





годзе, а ведалі яны адзін аднаго на той момант ужо тры гады. І адбылося гэта па справах Задзіночання беларускіх студэнтаў, якое Алесь Міхалевіч тады ўзначальваў.

## Паездка, якой не было

Вечарам 19 снежня 2010 года Алесь перад самым пачаткам тых падзей адвёз сваю жонку і малодшую дачку (старэйшая Леся разам з бабуляй з'ехала на вакацыі) да бацькоў жонкі і паабяцаў сам хутка прыехаць туды начаваць (Міхалевічы жывуць асобна). Яны нават не развіталіся толкам, што было цалкам ім не ўласціва. Развітальны пацалунак у гэтай сям'і — нешта накшталт рытуалу. Былі выпадкі, калі дзеля яго Алесь нават вяртаўся дамоў з паўдарогі. А тут...

Ніхто з іх на той момант не мог ведаць, што наступнай сустрэчы прыйдзецца чакаць два месяцы, у сям'і будзе ажно 7 (!!!) вобшукаў, у кватэры двойчы «вынясуць» дзверы, а першага ліста ад мужа прыйдзецца чакаць больш за тры тыдні.

Як вядома, 13 студзеня ў Варшаве ў польскім Сейме адбылася канферэнцыя, прысвечаная падзеям на Беларусі. На ёй зачыталі выступ Міланы Міхалевіч, якая сама трапіць туды не змагла, хаця і была запрошана польскім Міністэрствам замежных спраў.

Гэта была амаль дэтэктыўная гісторыя, толькі беларускія «байцы нябачнага фронту» зрабілі ўсё ВЕЛЬМІ гратэскна, тапорна, прымітыўна. І ніякай здзеклівасці ў маіх эпітэтах няма. Мне хутчэй сорамна за іх, бо

сёння там інакш не ўмеюць. Сапраўдныя прафесіяналы ў гэтых службах больш не працуюць. А не працуюць таму, што ім агідна рабіць нешта падобнае.

Можна толькі ўявіць пачуцці Міланы Міхалевіч, калі напярэдадні паездкі ёй двойчы патэлефанаваў арыштаваны муж і «параіў» нікуды не ездзіць і маўчаць пра гэтую тэлефонную размову. Маўляў, у такім выпадку яна можа пачуць яго на працягу тыдня зноў.

Не трэба глядзець крымінальныя серыялы, каб зразумець, што побач з ім стаялі людзі, якія прымусілі гэта зрабіць. Прашу прабачэння, але на нешта больш арыгінальнае, у іх банальна не хапіла розуму.»Падвох» адчуў бы нават той, хто гэтага вельмі не жадае.

Мілану Міхалевіч такая «просьба» не пераканала. У ноч пасля званка яна села і напісала ліст — зварот да польскага Сейма. Перадала яго — на ўсялякі выпадак —надзейнаму чалавеку. Пачуўшы ад мужа, што «нічога горш, чым ёсць, з ім ужо не зробяць», яна вырашыла ехаць у Варшаву, але зрабіць гэта не змагла па вельмі банальнай прычыне — не далі.



На наступны дзень за гадзіну да адпраўлення цягніка ў яе кватэры пачаўся чарговыператрус. Пяць супрацоўнікаў КДБ старанна рабілі выгляд, што нешта шукаюць.

Выканаўшы сваю непрыгожую місію і канфіскаваўшы камп'ютар старэйшай дачкі, супрацоўнікі КДБ сталі спяшацца дамоў. Выглядала гэта так анекдатычна, што, калі стала зразумела пра спазненне на цягнік, Мілана не вытрымала і сама пачала раіць паглядзець тое, што яны да гэтага моманту яшчэ «не ператрэслі», кшталту скрынкі са сваёй дапісанай дысертацыяй. Яшчэ амаль гадзіну яна «не давала халтурыць».



Пасля таго, як яны сышлі, сябра Міхалевічаў Юрась Губарэвіч, які жыве па суседству, прапанаваў ехаць у Варшаву на яго машыне. Але і гэтага не адбылося. «Эскорт» з некалькіх аўто пачаў суправаджаць яшчэ ў Мінску, а каля Баранавічаў іх «тармазнулі» супрацоўнікі ДАІ. Чалавек у цывільным прад'явіў пасведчанне на імя старшага лейтэнанта КДБ Віктара Дзмітрыевіча Тукая і сказаў: «Мы ведаем, што ў дадзенай машыне знаходзіцца Мілана Міхайлаўна Міхалевіч, і мне даручана паведаміць, што ёй забаронены выезд за межы Рэспублікі Беларусь». У выпадку спробы ехаць далей прыгразіў затрымаць яе на мяжы.

Давялося вяртацца ў Мінск. З тым жа самым «эскортам».

Пра ўсё, што здарылася, Мілана адразу паведаміла ў Польшчу, і раніцай старшыня камітэта дапамогі рэпрэсаваным «Салідарнасць» Іна Кулей зачытала той самы ліст, які быў падрыхтаваны днём раней. У зале, дзе праходзяць пасяджэнні польскага сейма, некаторыя плакалі.

## Складаныя крокі

Вярнуўся дамоў (пад падпіску аб нявыездзе) Алесь Міхалевіч роўна праз два месяцы пасля арышту — вечарам 19 лютага 2011 года. Радасць, якую людзі перажываюць у такія моманты, падрабязна апісваць не буду па прычыне банальнасці такіх слоў. Скажу толькі, што тады быў пачатак новага развітання, бо 14 сакавіка ў сваім інтэрнэтаўскім блогу Алесь напіша, што знаходзіцца па-за зонай дасягальнасці КДБ, а 18 сакавіка прэсавы сакратар Чэшскага МЗС Віт Колараж пацвердзіць, што Алесь Міхалевіч папрасіў палітычнага прытулку і ўжо два дні знаходзіцца ў адпаведным лагеры пад Брно.

Па наш дзень стаўленне да гэтага ўчынку неадназначнае. Як і да «гульняў» з галоўнай спецыяльнай службай краіны. Адны робяць з яго амаль што героя, які абхітрыў «байцоў нябачнага фронту». Другія вінавацяць ў палітычнай непаслядоўнасці. Маўляў, нават у тых умовах трэба было праявіць прынцыповасць. Трэція бачаць у дзеяннях Міхалевіча сцэнар «тонкага» плана КДБ.



На мой, погляд, ніхто з іх не мае рацыі на «истину в последней инстанции», бо сапраўдныя матывы сваіх дзеянняў можа патлумачыць толькі сам Алесь Міхалевіч. На жаль, за два тыдні зрабіць з ім «віртуальнае» інтэрв'ю ў нас так і не атрымалася , таму прыйдзецца абмежавацца толькі асабістым пунктам гледжання.

Не хачу спяваць нейкія «асаны» гэтаму чалавеку, але (па майму суб'ектыўнаму разуменню) тое, што ён зрабіў, безумоўна заслугоўвае павагі. Але не за тое, што некага «абхітрыў», а за тое, што першым распавёў пра катаванні ў «амерыканцы».

Пасля ў той альбо іншай форме пра іх будуць распавядаць фактычна ўсе, хто 19 снежня 2010 года трапіў за краты, аднак першым быў менавіта Міхалевіч. Упэўнены, што ўсе разумелі: там не піянерскі лагер і не санаторый, але ніхто не мог уявіць агіднасці і памераў здзекаў у нашай «стабільнай» краіне.

Калі шэптам («слухалі» не толькі тэлефон) Алесь пачаў распавядаць пра іх сваёй жонцы, Мілану літаральна трэсла ад эмоцый. І далёка не самых станоўчых. Жудасны расказ мужа так моцна ўразіў, што яна не памятае, як тады заснула.

Аднак адно — перажыць самому катаванні і зусім другое — расказаць пра гэта іншым. Тут патрэбныя не толькі палітычная рашучасць, але і асабістая мужнасць, бо пры пэўных «раскладах» перажытае можа паўтарыцца зноў.



Да і публічна расказаць пра свае «хітрыкі» з КДБ — немалая рызыка. Зарабіць на гэтым нейкія палітычныя балы даволі цяжка, а вось на ўсё жыццё атрымаць ярлык «ненадзейнага» вельмі проста.

Памятаю, як гадоў дваццаць таму ў сваёй згодзе быць сексотам КДБ прызнаўся адзін вядомы паэт. Маўляў, ён пагадзіўся на «вярбоўку» толькі для таго, каб гэта не зрабіў нехта іншы і ні на каго са сваіх сяброў не «стучаў». Высакародны матыў ніхто тады не ацаніў, а на паэце да самай смерці было ганебнае кляймо здрадніка. Не дапамог нават адпаведны заклік вельмі аўтарытэтнага Васіля Быкава.

Тут, на мой погляд, сітуацыя прынцыпова іншая.

Па-першае, усе разумеюць, што ў тых умовах падобнае выйсце было цалкам маральным. Да таго ж, вельмі часта да маралі іншых некаторыя ставяцца больш крытычна, чым да асабістай. І прымаўка пра «бревно в собственном глазу» ўзнікла невыпадкова.

Па-другое, многія (у тым ліку і аўтар) вельмі ўважліва глядзеў шмат разоў анансаваны «кампрамат» на Міхалевіча. Як кажуць у такіх выпадках, «гара» ў чарговы раз нарадзіла «мышу». Дарэчы, менавіта гэтая тапорнасць і прымітывізм даволі яскрава сведчаць аб тым, што ніякага «сцэнару» не было і блізка, таму што сапраўдных прафесіяналаў там зараз амаль не засталося.



Па-трэцяе, нават калі дапусціць нейкую «двурукасць» Алеся Міхалевіча, то за яе айчынныя «нашчадкі жалезнага Фелікса» заплацілі вельмі вялікую цану. Несувымерна вялікую. Асабіста я не ведаю, якія сакрэты павінны быць у беларускай палітычнай эміграцыі, каб за іх можна было заплаціць такую вялікую цану, бо тое, што адбылося 28 лютага 2011 года, нанесла велізарны ўдар па міфе пра «дзяржаву для народа».

Менавіта ў гэты дзень адбылася тая нечаканая прэс-канферэнцыя, дзе і прагучалі словы пра жудасныя катаванні ў беларускім КДБ. Нечаканая толькі для шырокай грамадскасці, бо некалькі бліжэйшых Міхалевічу людзей пра яе ведалі за пару дзён да сенсацыі ў штаб-кватэры БНФ.

Будзем лічыць, што іх прозвішчы я таксама не ведаю, бо асноўнае не ў гэтым. Галоўнае тое, што апазіцыя ледзь не першы раз за доўгія гады свайго існавання зрабіла ўсё не праз вядомае месца. Я пра тое, што прызнанні Алеся Міхалевіча сталі поўнай нечаканасцю не толькі для журналістаў, але і для саміх катаў. Такую выснову можна зрабіць з іх абсалютнай разгубленасці.

Больш за тое, за пэўны тэрмін да «прэсухі» ён таемна з'ехаў са сваёй хаты і запісаў на відэа ўсё, што будзе казаць журналістам. Набраў на камп'ютары свой зварот, папрасіў яго перакласці на ангельскую мову і даслаў надзейнаму адрасату. Калі б яго забралі напярэдадні, журналістам усё агучыла б жонка Мілана.

Магчыма, некаму гэта нагадвае «бондзіану», але я не лічу тут нешта звышпатрэбным. Перакананы, айчынныя спецслужбы працуюць супраць апазіцыянераў даволі эфектыўна толькі таму, што гэтаму дапамагаюць апошнія. Выбачайце за натуралізм, але, як мне сказаў адзін знаёмы, «яны нават п...ць без нашай каманды не могуць...»

Не, я не дэманізую існуючую ўладу, але бачыць сярод яе праціўнікаў адных «лохаў» таксама не хачу.

## У дзяцінстве — будучыня

Калі ў Міланы нарадзілася першая дачка Леся, памерла бабуля Вольга (бацькава маці). Некалькі месяцаў ёй нічога не казалі. Мабыць, не хацелі моцна хваляваць. Было гэта 15 кастрычніка 2000 года.



Калі дзіця (Лесю) першы раз прынеслі да маці і паклалі побач, Мілана адразу адзначыла для сябе дзве рэчы — яркія насычана-блакітныя вочы з даўжэннымі вейкамі і «ямачку» на падбародку. Як у таты. На прыгажуню прыходзілі глядзець нянечкі з усяго раддому і казалі, што ў немаўляткі такія доўгія вейкі адразу бываюць вельмі рэдка.

Зараз дзяўчынка вучыцца ўжо ў чацвёртым класе. Настаўнікі, як сапраўдныя прафесіяналы, палітычных пытанняў не закранаюць, а сябры яе вельмі моцна падтрымліваюць. А іх бацькі (на адным з бацькоўскіх сходаў) нават напісалі хадайніцтва, дзе прапанавалі арыштаванага кандыдата ў прэзідэнты ўзяць на парукі і выпусціць «пад падпіску аб нявыездзе». Добра, што менавіта ў гэтым хадайніцтве адмовілі, бо ў падпісантаў сёння , напэўна, узніклі б праблемы. Ды і сам Алесь Міхалевіч па этычных матывах наўрад ці з'ехаў бы за мяжу.

Алёнка-Дамініка (падвойныя імёны дзецям часцей за ўсё даюць па рэлігійным меркаванням) нарадзілася 12 лістапада 2009 года, і слова «тата» вывучыла раней за «маму». Распавесці што-небудзь цікавае пра яе нараджэнне Мілана Міхалевіч не можа, бо знаходзілася ў той мо-



мант пад наркозам. Дзіця выратавалі дактары знакамітай «сямёркі» , якую зараз афіцыйна называюць «Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр «Маці і дзіця», і адразу накіравалі ў рэанімацыю.

Словам, Мілане тады было не да таго, каб абмяркоўваць з мужам яго планы. Аб сваім намеры стаць кандыдатам у прэзідэнты ён сказаў ужо дома. Дакладней, паставіў перад фактам. Маўляў, « у мяне ёсць каманда...людзі ў мяне паверылі... я не магу інакш...»

Мілана Міхалевіч добра разумела рызыку падобнага ўчынку (асабліва у нашай краіне), але ведала і іншае: муж не зможа жыць, займаючыся тым, што яму не цікава. Адзінае — яна папрасіла пакінуць «за межамі» такога выбару сям'ю. І мы сапраўды не ўбачылі рэкламных плакатаў кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча са сваім дачкамі. А інтэрв'ю самой Міланы з'явіліся ў прэсе толькі пасля 19 снежня 2010 года.

...Практычна ўся наша шматгадзінная размова з Міланай Міхалевіч праходзіла пад «акампанемент» актыўнасці яе малодшай дачкі. Цудоўнае дзіця! Не палічыце пафасам, але за тое, каб такія дзеці без страху маглі рабіць «ладушкі», і змагаецца яе бацька...

*03.08.11*

# «ПАЛІТЫЧНАЯ» МЯНУШКА



**Даведка:** Анатоль Лябедзька нарадзіўся 27 чэрвеня 1961 года ў вёсцы Трылес Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. У 1985 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут. У 1990 годзе абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання. У 1995 годзе пераабраны ў ВС 13-га склікання. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі. 20 снежня 2010 года затрыманы. Змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Прызнаны «Міжнароднай амністыяй» вязнем сумлення. 6 сакавіка 2011 года вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.

Першы раз я пабываў там амаль чвэрць века таму і адразу ж быў уражаны літаральна фантаніруючай энергіяй яго бацькі. Гаварыў той не шмат, але ўвесь час нечым займаўся. Быццам бы не мог існаваць без гэтага па вызначэнню. Менавіта тады я і зразумеў, чаму Анатоль Лябедзька з жартам кажа, што яго бацька «працуе кулаком».

## «Малая Радзіма»

Сама назва гэтай вёскі сведчыць пра сутнасць — Трылес. Таямнічыя лясы Стаўбцоўшчыны. З двух бакоў яе абрамляюць дзве невялікія рэчкі — Сярмяжка і Сула, якая потым ўпадае ў Нёман. Гадоў дзесяць таму я лавіў там фарэль, а яна, як вядома, жыве толькі ў чыстай вадзе. А Сярмяжка — усяго некалькі метраў ушыр, бо пасля не вельмі ўдалай меліярацыі яна моцна абмялела.

Лябедзькі жывуць там шмат год.

Бацьку завуць Уладзімірам Міхайлавічам. Без перабольшванняў яго можна назваць Гаспадаром з вялікай літары. Нягледзячы на салідны ўзрост (1938-мы год нараджэння) ён практычна не вылазіць з-за руля свайго трактара. Паша «ўчасткі» ўсім, хто застаўся жыць у вёсцы, і дачні-

кам, якія замянілі ў вёсцы асноўную частку насельніцтва. Сэнс жыцця — работа.

На жаль, яго пакаленне ўжо адыходзіць, а разам з ім самае галоўнае — шчырая любоў да сваёй зямлі. Хаця да 1939 года вёска Трылес была польскай тэрыторыяй (мяжа праходзіла ў Рубяжэвічах, да якіх каля дзесяці кіламетраў), дзяцінства Уладзіміра Міхайлавіча фактычна прайшло «пры камуністах», у якіх ўсе павінны быць аднолькавымі: калі ў аднаго ёсць дзюрка на штанах, так трэба хадзіць усім. А ён наадварот заўсёды імкнуўся быць першым — самым працалюбівым і прыстойным.

Высокія патрабаванні да самога сябе былі заўсёды, таму цалкам зразумела тое, што, калі дзяржава «давала» ўсім сялянам па 40 сотак зямлі, у яго заўсёды было ледзь не ўдвая болей. На практыцы гэта азначала, што пры кожнай штогадовай праверцы яму трэба было альбо глытаць валідол, альбо рабіць ўсё, каб кантралёры пайшлі «задаволенымі». Ці з вялікімі «бауламі», ці добра «пад мухай». Часта і першае, і другое адначасова...

У Уладзіміра Міхайлавіча акрамя дазволеных заўсёды было яшчэ некалькі «падпольных» участкаў. Ехаў у лес, сваімі рукамі «раскарчоўваў» там дзялянкі і радаваўся, як дзіця, што старшыня калгаса змог знайсці і «запахаць назад» толькі палову з іх. Увесь год працаваў механізатарам і толькі летам нязменна станавіўся камбайнерам. Адным з лепшых не толькі ў калгаснай гаспадарцы, але і ва ўсім раёне.

Яго бацька таксама быў Гаспадаром. У доме заўсёды правіў дастатак, але даваўся ён выключна потам і розумам. Цалкам зразумела, што прыход «новай улады» яго не вельмі ўзрадаваў. Вельмі хутка зямлю, дзе яны працавалі «ад зоркі да зоркі», адабралі. Дзякуй Богу, рэпрэсіямі гэта не скончылася, аднак некаторым з дзяцей (каб выжыць) прыйшлося ехаць «на цаліну».

Яго магіла знаходзіцца там жа, а дзед па лініі маці пахаваны ў Латвіі: там яго падчас вайны смяротна ранілі. У планах Лябедзькаў — абавязкова адшукаць яго магілу.

Анатоль ледзь не пайшоў шляхам Міхаіла Гарбачова. Памочнікам камбайнера пачаў працаваць з чацвёртага класа. Калі старэйшы брат Уладзімір «пакінуў бацькаву хату», усе яго абавязкі перайшлі да малодшага.



Летніх канікул (у класічным разуменні) не было. Пад'ём у чатыры гадзіны раніцы і — на поле. А спаць (3—4 гадзіны) кладзешся з першымі зоркамі.

Адзін год на старэнькай «Ніве» (не тое, што зараз) яны з бацькам намалацілі тысячу тон зерня. Па сучасных мерках на «Дажынках» ім бы падаравалі якое-небудзь «цуда» расійскага аўтапрама, але тады такога амаль не рабілі. «Стымулы» былі толькі не матэрыяльнымі. Па гэты дзень захаваліся граматы «за трудовые будни и успехи».

Свая машына ў Уладзіміра Міхайлавіча з'явілася першай у раёне. Купіў яе за палітыя потам грошы, а не атрымаў «халяву» ад дзяржавы.

Пасля выхаду на пенсію пэўны час ён працаваў майстрам на лесапілцы, дзе арганізоўваў усю работу, а зараз з'яўляецца для сваёй вёскі своеасаблівай «палачкай-выручалачкай». Практычна (акрамя дачнікаў) гэта адзіны «крэпкі мужык» Трылесу. Усе астатнія — бабулі, якія ведаюць, што ён заўсёды можа дапамагчы.

Маці Лябедзькі заўсёды працавала «на зямлі», дзе і пакінула сваё здароўе. Імя — Марыя Іванаўна, але з дзявочых часоў яе клікаюць Янінай. Раней такое сустракалася даволі часта. Адно па пашпарце і зусім другое — у жыцці. Мабыць, камусьці так падабалася болей.

Яе маці Агрыпіна пражыла 98 год і за гэты час не выпіла ні воднай таблеткі. На нагах і «пры памяці» яе бачылі да самай смерці. Гэта быў прынцыпова рэлігійны чалавек і нават савецкія законы, якія не прызнавалі ніякага Бога акрамя Ленін-Маркс-Энгельса, не змаглі пахіснуць яе ў пераканаsuccessнях. Бывала, атручаны піянерска-камсамольскай прапагандай унук на гэты конт з ёй вельмі моцна спрачаўся. «Праблему» даволі проста вырашаў Уладзімір Міхайлавіч — браў сына за вуха і выводзіў за дзверы.

Ён увогуле па натуры крыху жорсткі чалавек. Сыноў сваіх ён, як кажуць, трымаў у яжовых рукавіцах, і «цяплічнымі» раслінамі яны стаць проста не маглі.

Дзіцячая загартоўка пазней дапаможа Анатолю Лябедзьку перамагчы шматлікія жыццёвыя выпрабаванні. У тым ліку і тыя, што адбыліся пасля 19 снежня 2010 года.

Акрамя гэтага яму моцна пашанцавала ў тым, што Уладзімір Іванавіч і Яніна Іванаўна з'яляюцца аднадумцамі і ніякіх «палітычных» праблем у іх сям'і не існавала ніколі.

## «Правадыр» і крыху паэт

У няволі ён, сапраўды, пачаў пісаць вершы. Двух напрамкаў. Адзін — лірычна-інтымны, другі — палітычны. Пры выхадзе на свабоду (6 красавіка 2011 года) у Анатоля Лябедзькі «канфіскавалі» ажно чатыры сшыткі.

За кратамі адразу «прыклеілася» мянушка «правадыр». Як вядома, мясцовыя «камунікацыі» працуюць вельмі добра, таму новае «паганяла» хутка ведаюць ва ўсіх камерах следчага ізалятара. Адпаведнае стаўленне да чалавека ўзнікае амаль імгненна.

Калі стала вядома, што Анатоль Лябедзька мае добрыя аратарскія якасці, падследчыя пачалі выкарыстоўваць гэта даволі арыгінальна. У адной «хаце» (усяго — чатыры) быў свой тэлевізар. Калі па нейкай прычыне ён не працаваў, сукамернікі прасілі Анатоля зрабіць прамову і ўважліва слухалі яго «палітычны» выступ.

Не палічыце банальнасцю, але адсутнасць любой інфармацыі (у тым ліку і ад родных), на мой погляд, адна з формаў катавання. Толькі ў адрозненне ад катаванняў фізічных тут немагчыма «снять побои». Першы ліст Анатоль Лябедзька атрымаў напрыканцы лютага 2011 года . Да гэтага моманту ўсё «ішло ў сметнік», хаця, як потым высветлілася, пісалі многія. У тым ліку і з-за мяжы.

Нягледзячы на тое, што Анатоль Лябедзька пісаў амаль кожны дзень, далёка не ўсе яго лісты траплялі адрасатам. Па розных прычынах.

Напрыклад, двойчы іх «завярнула» турэмная цэнзура. Адзін раз, калі напісаў, што з'яўляецца палітычным заложнікам і ніякіх следчых дзеянняў з ім не праводзіцца (гэта падкрэслілі). Другі, калі на 25 сакавіка напісаў разгорнутае (на палову аркуша) віншаванне з Днём Волі. Даволі часта некаторыя месцы і ў лістах родных таксама замазвалі чорнай фарбай.

Тыя, каму не пашчасціла пабываць у падобных установах, расказваюць, што паўсюды чалавека з самага пачатку імкнуцца маральна «зламаць». І адміністрацыя, і «зэкі». Апошніх па прычыне «элітнасці» следчага ізалятара КДБ там амаль не было, а вось тыя, хто «пры пагонах», падобныя спробы рабілі. Аднак хутка ад іх былі вымушаны адмовіцца, бо зразумелі — бессэнсоўна.

У турмах вельмі важна тое, як ты сябе «паставіш» з самага пачатку. Калі чалавек пасля дзесяцідзённай галадоўкі пачынае займацца спортам, па тысячу разоў адціскаецца ад падлогі, і ўсё гэта праз відыёкамеры бачаць ахоўнікі рознага кшталту, становіцца абсалютна відавочным, што ў такі «псіхалагічны партрэт» унесці нейкія карэктывы абсалютна немагчыма. З Анатолем Лебедзькам адбылося менавіта так.



Акрамя гэтага ў камерах, дзе ён «сядзеў», было незвычайна зімна. Толькі 13—14 градусаў цяпла. Людзі спалі ў рукавіцах і зімовых шапках. Паверх тэрмабялізны на Анатоля былі надзеты спартовы касцюм і байка. Закручваешся ў плед, залазіш пад коўдру і ўсё роўна пад раніцу — холад.

Некалькі словаў пра катаванні фізічныя. У розных ступенях яны датычыліся ўсіх, хто быў арыштаваны пасля падзей 19 снежня 2010 года. Такое ўражанне, што ўлада ведала, што будзе ў краіне праз паўгады, таму імкнулася як бы «пра запас» прынізіць сваіх ідэйных праціўнікаў. І «навесіць» на іх тое, чым потым можна будзе апраўдаць асабістыя памылкі.

Калі нехта сцвярджае, што сутнасць толькі ў кіраўніцтве краіны, я заўсёды не пагаджаюся з такім меркаваннем. Сутнасць, на мой погляд, у створанай сёння сістэме. Адны абараняюць свае катэджы ў Драздах, бо разумеюць, што іх чакае ў будучым. Другія — тых, хто дарваўся да «кармушкі», а «беспредельничают» яны таму, што спадзяюцца ніколі не адказваць за свае злачынствы.

На жаль, у нашай гісторыі ўжо ёсць сумны «прыклад» крывавых катаванняў часоў Сталіна—Берыі. Упэўнены, калі б за тыя рэпрэсіі нехта канкрэтна адказаў, сёння не было б ні перцавага газу, ні аўтазакаў «стабільнасці»...

## Самае цяжкае выпрабаванне

У хатнія дзверы пачалі грукаць пасля гадзіны ночы 20 снежня 2010 года. Жонка палітыка Святлана Лябедзька запомніла гэта на ўсё жыццё, хаця жыве ў падобных сітуацыях ужо шмат год. За апазіцыйную палітычную дзейнасць яе мужа каталі (арыштоўвалі, збівалі і г.д.) неаднойчы, але неяк прыстасавацца да гэтага немагчыма, бо кожны раз апроч нейкіх фізічных выпрабаванняў ідуць і маральныя. Але, калі першыя больш выпадалі Анатолю, то другія дамінавалі ў яго сям'і.



Самае «цікавае», што для ўдзелу ў акцыі 19 снежня 2010 года Святлана свайго мужа на машыне прывезла сама, але на той момант ведаць пра тое, што адбудзецца далей, маглі толькі аўтары сцэнару.

Усе спробы дазваніцца да мужа па тэлефоне былі безвыніковымі, таму, калі ён каля дванаццаці ночы прыйшоў дамоў, Святлана з палёгкай уздыхнула, бо, дзякуючы інтэрнэту, добра ведала, што адбываецца ў сталіцы. А яшчэ яна добра ведала байцоўскі характар свайго мужа і хвалявалася за тое, каб той не аказаўся ў самым пекле брутальнай «зачысткі».

Далей зменім жанр нарыса на інтэрв'ю, бо, на мой погляд, пачуць усё, як кажуць, з першай крыніцы больш каштоўна, чым прачытаць адрэдагаваную версію:

*« — Прачнулася я ад таго, што нам тэлефануюць у дзверы. На гадзінніку было хвілін 15—20 другой гадзіны ночы. Пры гэтым пачалі тэлефанаваць не ў дзверы так званага «тамбура», а прама ў кватэру. Папрасілі адчыніць, бо «на вас скардзяцца суседзі».*

*Нечым гэта нагадвала старую савецкую кінакамедыю, калі злачынец пытаецца ў пераапранутага сторажам начальніка-вора пра дарогу ў бібліятэку ў тры гадзіны ночы...*

*Адразу стала ўсё зразумела — арышт. Я прапанавала дачакацца раніцы, але яны з гэтым не пагадзіліся і прыгразілі «выламаць дзверы», чым амаль адразу і заняліся.*

*Нягледзячы на тое, што дзверы былі «кітайскай» вытворчасці, ламалі іх сорак хвілін. Гэта дало магчымасць прыйсці да сябе пасля першага шоку і асэнсаваць усё, што адбываецца. Хатні тэлефон і «мабільнік» Анатоля былі адключаны, але яны забыліся пра мой «сотавы».*



*Такая магчымасць і дазволіла паклікаць Толіных паплечнікаў Аляксандра Дабравольскага і Валянціну Палевікову.*

*На момант, калі з'явілася магчымасць зазірнуць у кватэру, муж ужо быў цалкам падрыхтаваны «для Акрэсціна». Зноў пачалі крычаць, каб мы адчынілі дзверы, але яны ўжо былі моцна зламаныя і я прапанавала «дарабіць справу да канца». Адзін з нападнікаў гразіўся «дастаць стрэльбу», але мяне гэта не напужала — даставай.*

*Ламалі адразу некалькі чалавек, а іх саслужывец «сцярог» уваход з ліфта. Усе ў цывільным. Ніякіх дакументаў ніхто не паказваў. У кватэры яны былі вельмі ветлівымі. Пакуль я магла бачыць мужа, вялі сябе прыстойна, а каля ліфта перасталі «цырымоніцца»— заламалі рукі, пачалі жорстка штурхаць і запіхнулі ў мікрааўтобус з «левымі» нумарамі.*

*Мужа павезлі ў невядомым накірунку, а мы з сынам засталіся сам на сам з выламанымі дзвярыма, якія ўдалося «прыкрыць» з дапамогай скотча. Разам з намі былі яшчэ Дабравольскі і Палевікова.*

*Вызвалі міліцыянтаў з Цэнтральнага РУУС. З вялікімі цяжкасцямі нам ўдалося прымусіць іх скласці акт наконт зломаных дзвярэй.*

*З раніцы я пайшла на работу, а сын Арцём застаўся «пільнаваць» кватэру. Хутка вырашыла ўсе пытанні і занялася непасрэдна дзвярыма, што ў панядзелак зрабіць вельмі складана, бо шмат фірм у гэты дзень не працуе.*



*Вечарам, пасля таго як дзверы былі адрамантаваны, з Антанінай Кавалёвай мы пайшлі ў пракуратуру, дзе пакінулі заяву пра тое, што майго мужа «скралі». Тое ж самае зрабілі ў гарадской міліцыі. Там і высветлілася, што нумары на мікрааўтобусе, які павёз майго мужа, нідзе не зарэгістраваны...*

*Дамоў вярнулася толькі а палове на адзінаццатую*

*вечара, а на наступны дзень мне патэлефанавалі з пракуратуры і сказалі, што муж знаходзіцца ў СІЗА КДБ.*

*Пацягнуліся «турэмныя» будні, якія пераважна складаліся з лістоў Анатолю, размоў з адвакатам і перадач у «амерыканку». Першы ліст ад мужа мы атрымалі толькі ў пачатку лютага, а ён ад нас яшчэ пазней.*

*Па памерах гэта былі звычайныя лісты — некалькі старонак, аднак было зразумела, што Анатоль іх не атрымлівае. І тады мы напісалі літаральна некалькі слоў. Маўляў, «жывыя, здаровыя, усё добра». На іх муж і адрэагаваў.*

*Тое, што Анатоль напісаў мне верш на 8 Сакавіка, не стала для мяне нечым экстраардынарным, бо ён іх пісаў і раней. Аднак гэты асабліва каштоўны для сэрца».*

## Сын за бацьку

Калі хто не ведае, нагадаем, што так называецца фільм Мікалая Яроменкі—малодшага. Не буду пераказваць усю фабулу. Скажу толькі, што сутнасць там у дапамозе сына бацьку, дзякуючы якой яны разам перамагаюць мясцовую «мафію».






Не хочацца праводзіць ніякіх аналогій, але нешта «сіцылійскае» ёсць і ў тым, што адбываецца зараз і ў нашай краіне. Толькі атрымаць перамогу моцай аднаго маладога хлопца ніяк не атрымаецца. Нават з такім прозвішчам.

Дарэчы, пра прозвішча. Не буду ўспамінаць пра дзяцей «ворагаў народа», але вельмі многім было цалкам зразумела, што тут павінны ўзнікнуць праблемы. Таму я (як і многія) крыху здзівіўся, калі Арцём Лябедзька паступіў у БДУ на прэстыжнае «міжнароднае права».

Пасля апалы былога рэктара гэтай навучальнай установы Аляксандра Казуліна Ірына (Царства ёй на Нябёсах) распавядала, як «пільна» сачылі за паступленнем іх дачкі. Мяркую, нешта падобнае было і з Арцёмам Лябедзькам. На мой погляд, яго прынялі толькі таму, што не маглі зрабіць інакш. Упэўнены, каб у іх была падстава, выкарысталі б абавязкова. Тым, хто сёння пры ўладзе, нейкія сантыменты знаёмы толькі ў тых выпадках, калі гутарка ідзе пра іх асабістых нашчадкаў...

А адпомсціць вырашылі пасля атрымання дыплома, бо мала мець «корачку» — трэба яшчэ і працаўладкавацца па спецыяльнасці. Менавіта тут яны і «зарылі сабаку».

Арцём Лябедзька разаслаў сваё SV (кароткая даведка — **заўвага аўтара**) амаль двум сотням адрасатам. І ад усіх атрымаў адмову. Спецыялісты з такім гучна-апазіцыйным прозвішчам нашай краіне не патрэбны.

Канешне, калі б ён пайшоў у грузчыкі альбо дворнікі, каб прынізіць бацьку, вакансію нашлі б імгненна. Не «прайшлі» і прапановы больш прыстойнай работы — распаўсюджвальніка альбо камівояжора.

Па савету бацькоў Арцём скончыў магістратуру Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, аднак і гэта ніякім чынам не паўплывала на пошукі афіцыйнага месца працы. Мабыць, нехта банальна імкнуўся выштурхнуць хлопца за мяжы краіны, што апошнім часам стала вельмі масавай з'явай. Маўляў, пры гэтай уладзе знайсці тут нешта прыстойнае немагчыма нават тэарэтычна.

Дапамагло веданне замежнай мовы, якое дала некалі добрая 64-я школа. Зараз Арцём Лябедзька рэдагуе англамоўную версію сайта Аб'яднанай грамадзянскай партыі.



Як і для маці, арышт яго бацькі не стаў для Арцёма нечым нечаканым. Наадварот. Ён успрыняў тое, што адбылося, як сапраўдны мужчына — дастойна і спакойна. Менавіта гэтаператварэнне з юнака ў мужчыну і заўважыла Святлана Лябедзька. І яшчэ раз зразумела, што яе муж пакутуе недарэмна.

## Гэта салодкае слова «свабода»

Для Анатоля Лябедзькі яна прыйшла 6 красавіка 2011 года. Гэта была ўжо другая спроба. Перад навагоднюю ночу яго таксама «збіраліся» адпусціць, нават прыказалі сабраць асабістыя рэчы. Не атрымалася.

Звычайны вясновы дзень. У абед яго вызвалі да следчага. Той пацікавіўся, дзе пашпарт. Анатоль, як заўсёды, іранічна адказаў: «Можа 4 месяцы ў вас сядзеў не той, хто патрэбны?» Следчы «праглынуў» цалкам матываваны папрок і дадаў: справу трэба перадаваць у суд, таму яны б хацелі патурбаваць жонку палітыка. На гэтым «допыт» і скончыўся.







Пасля вячэры Лябедзьку запрасілі зноў на допыт. Там ён і даведаўся пра «падпіску аб нявыездзе». Тое, што было далей, не паддаецца логіцы нармальных людзей, бо ў драпежнікаў, якіх прымушаюць адпусціць ахвяру, яна асаблівая. Лябедзьку павезлі дадому, дзе ўзялі яго пашпарт, і зноў ... прывезлі ў КДБ. Канчаткова адпусцілі праз гадзіну. Да сям'і ён трапіў толькі глыбокай ноччу.

Не хочацца казаць нешта «маніфестна-пафаснае», але добра вядома, што ўслед за любой (нават самай доўгай ноччу) абавязкова прыйдзе світанак. Гэта аб'ектыўная рэальнасць нашага жыцця. І ніхто (акрамя Бога) не можа яе змяніць.

Нават калі ў цябе ёсць тысячы «апрычнікаў» з дручкамі і шчытамі.

*10.08.11*

# ІНТЭЛІГЕНТ ЗА КРАТАМІ



**Даведка:** Анатоль Паўлаў нарадзіўся 18 чэрвеня 1949 года ў Выбаргу Ленінградскай вобласці. Скончыў мінскую СШ № 4, хімічны факультэт БДУ. Працаваў настаўнікам у школе ў Лагойскім раёне, у 1973-1999 гг. — на розных пасадах у БДУ. Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі АГП, сябра Палітсавета і Нацыянальнага камітэта АГП.Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 года быў даверанай асобай кандадата ў прэзідэнты ад АГП Ярослава Раманчука. Затрыманы а 7-й раніцы 20 снежня ў сябе дома. Абвінавачаны па чч. 1 і 2 арт. 293 КК — арганізацыя масавых беспарадкаў і ўдзел у іх. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ, адкуль 7 студзеня 2011 г. быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.

Пэўны час ён і Уладзімір Кобец знаходзіліся ў адной камеры «амерыканкі». Разгадвалі красворды, гулялі ў шахматы. Нават адпаведны турнір хацелі зладзіць. Зразумела, што нічога іншага ад Паўлава і чакаць было немагчыма. Нават ахоўнікі звярталіся да яго «на Вы» і выключна — «Анатолий Васильевич». Не зразумела толькі тое, як самаму выхаванаму і законапаслухмянаму прадстаўніку беларускай апазіцыі можна было «прышыць» нейкія «масавыя беспарадкі»...

## Па закону сумлення

Мабыць, калі б ён не прыйшоў 19 снежня 2010 года на Кастрычніцкую плошчу, ніхто б не змог адважыцца на пэўную крытыку, бо з усіх актыўных удзельнікаў ён па ўзросту самы багаты — 62 гады. Аднак Анатоль Паўлаў паступіў інакш, таму што не мог па-іншаму.

Да месца, куды звалі ўсе кандыдаты ў прэзідэнты, яго падвёз знаёмы, бо Анатоль Васільевіч жыве за горадам. Факт вельмі прынцыповы. Менавіта па званку апошняга з месца «зачысткі» яго потым і «вы-

лічаць». А яшчэ па размове з журналісткай Марынай Коктыш. Пра тое, што ўсе сотавыя аператары «злілі» сваіх кліентаў, сёння вядома вельмі добра.

Нікога не засмуціць тое, што ў тым, што міліцыя пазней назаве «масавымі беспарадкамі», ён не мог прымаць удзел нават фізічна, бо на той момант разам з былым кіраўніком беларускага ўраду і сябрам Міхаілам Чыгіром ужо з'ехаў дамоў. І зрабіў гэта яшчэ да таго, як пачаўся масавы «хапун...

Аб тым, што было далей, распавядзе сам Анатоль Васільевіч:

*«— У сем гадзін раніцы патэлефанавалі ў дзверы. Праз акно я ўбачыў, што перад нашым домам стаіць мікрааўтобус. Праз гадзіну быў ужо ў кабінеце следчага КДБ, дзе знаёміўся са сваімі правамі.*

*Трэба адзначыць адразу: ніякай грубасці ў адносінах да мяне не было, па дарозе нават не надзявалі наручнікі. Спачатку затрымалі (для высвятлення асобы) на трое сутак, а потым працягнулі гэты тэрмін да дзесяці. Далейшы тэрмін арышту прадоўжыў асабіста галоўны мінскі пракурор Мікалай Кулік.*

*Інкрымінавалі мне сумна вядомы артыкул, які гразіў 15 гадамі зняволення. Паказалі спіс «арганізатараў масавых беспарадкаў». Палову прозвішчаў я не ведаў і ніколі не чуў. Нават кур'ёз быў. Следчы называе прозвішча — я кажу: «Гэтага не ведаю». А ён тлумачыць, што «гэта дзяўчына».*

*У камеры душа больш балела не за сябе, а за блізкіх. Асабліва за жонку. Калі мяне выводзілі «на прагулку», зверху падаў снег. Я яго праклінаў, таму што разумеў — ёй прыйдзецца яго чысціць лапатай адной.*

*«Веды» пра такія месцы ў мяне былі ў асноўным з розных фільмаў. Пераважна адмоўныя. У «амерыканцы» аказалася ўсё не так. Там амаль адны «прыстойныя людзі.*

*У адной камеры «сядзеў» генерал, у другой — намеснік генеральнага дырэктара Трактарнага завода, у трэцяй — бізнесмен і г.д. Калі б мне Бог хоць на паўгадзіны даў уладу, першымі я б пад падпіску аб нявыездзе выпусціў усіх, хто сядзіць па нейкіх «эканамічных» злачынствах. Потым хай з імі «разбіраюцца» следчыя.*



*Людзі тыднямі, месяцамі сядзяць, як кажуць, без віны вінаватыя.*

*А там ужо ўсё... На допыт — наручнікі, з допыту — наручнікі. Тыя, хто мае падобны досвед, кажуць, што ў калоніі лягчэй. Ёсць нейкі «вольны» час, можна працаваць.*

*А тут — невінаваты. Віна яшчэ не даказана, а чалавек ужо пакутуе.*

*Абсалютна зразумела, што, калі нехта здзейсніў злачынства супраць асобы (грабёж, гвалт, разбой, забойства), яго адразу трэба ізаляваць ад грамадства, бо ён небяспечны для іншых людзей. А тут лагічна абмежавацца падпіскай аб нявыездзе. Хай чалавек потым прыходзіць на допыты.*

*На мой погляд, уся праблема ў тым, што амаль ніхто са следчых па-сапраўднаму не ўмее працаваць. Няма там спецыялістаў вышэйшага ўзроўню.*

*У «амерыканку» я прыехаў у касцюме, белай кашулі, толькі што гальштук не надзеў... Таму мяне адразу сакамернікі «забяспечылі» некаторымі патрэбнымі рэчамі. Напрыклад, ежай.*

*Частку першай ночы правёў на крэсле, бо тапчан з матрацам не было куды ставіць. Да і не спіцца там. Калі нехта кажа, што спаў першую ноч, не верце. Для тых, хто туды трапіў упершыню, зняволенне — моцны стрэс.*

*На другую частку ночы мне ўступілі «шконку». За словы з «фені» на волі мяне потым не адзін раз лаялі. Маўляў, «набраўся».*

## Квінтэсенцыя жыцця

Пра трагедыю 1986 года на ЧАЭС вельмі цяжка сказаць нешта новае. Інфармацыі сёння столькі, што нават недасведчанаму ў гэтай галіне чалавеку атрымаць яе даволі проста. Дастаткова «спытаць» любы інтэрнэтаўскі пашуковік. Папулярны Яндэкс, напрыклад, выдае 459 тысяч розных спасылак.

Але гэта сёння, а тады абставіны аварыі старанна хаваліся ад грамадскасці, а пра яе памеры можна было толькі здагадвацца, бо ніякіх мапаў радыяцыйнага забруджвання яшчэ не існавала.

Менавіта гэтай справай (кінуўшы доктарскую дысертацыю) і заняўся Анатоль Паўлаў. Рызыкуючы асабістым здароўем, ён аб'ездзіў

шматлікія «брудныя раёны» і цалкам зафіксаваў дыслакацыю нябачнага ворага.

Праз 25 год дзяржава ў выглядзе сённяшніх уладаў «адплаціла» за гэтую заслугу перад грамадскасцю 18-ю суткамі «амерыканкі».

Нарадзіўся Паўлаў 18 чэрвеня 1949 года ў расейскім Выбаргу, а восем класаў скончыў на Новай зямлі — вайсковая сям'я. Пасля гэтага было бацькава звальненне ў запас, пераезд у родны для любога беларуса Мінск і сталічная школа нумар 4, якую Анатоль Паўлаў скончыў у 1966 годзе.

Тады таксама была нейкая чарговая школьная рэформа і таксама сярод выпускнікоў апынуліся адразу два старэйшых класа. Толькі ў адрозненне ад розных «штрыхаў», тады (пры усёй дурноце савецкай улады) дзяцей гэта не кранулася. Колькасць бюджэтных месцаў пабольшылі ў два разы, што было цалкам лагічна, бо менавіта дзяржава зрабіла гэтую чахарду. Звычайна на хімічны факультэт БДУ прымалі крыху больш, як 125 чалавек, а тады залічылі ў студэнты 265. Быў сярод іх і Анатоль Паўлаў. 1971 год.

Пасля заканчэння — год работы ў адной са школаў Лагойскага раёна, а з сакавіка 1973 года пачынаецца марафонская праца у БДУ — амаль 27 гадоў. Спачатку малодшым навуковым супрацоўнікам, а ў 1982 г. Анатоль Паўлаў абараніў «кандыдацкую» і стаў «старшым».

У 1989 годзе быў абраны кіраўніком прафкама супрацоўнікаў БДУ. Дарэчы, перамог пратэжэ партыйнага камітэта і рэктарата з перавагай у адзін голас. І нікому не прыйшла ў галаву думка перакласці бюлетэнь з аднаго стосіка ў другі. Мабыць, тады яшчэ не ведалі пра «элегантныя перамогі»...

Потым Паўлаў стаў дэканам падрыхтоўчага факультэта, а з 1 чэрвеня 1995 года яго прызначылі прарэктарам БДУ, на гэтай пасадзе прапрацаваў усяго да кастрычніка 1997 года. Натуральна, што новай уладзе на такім месцы быў патрэбны «свой» чалавек, і Анатоля Васільевіча, па сутнасці, «сышлі». Але неканчаткова, бо ў 1999 годзе яго абралі старшынёй Мінскага гарадскога камітэта Беларускага прафсаюза навукі і адукацыі. 115 тысяч чальцоў!

Па гэты дзень сталічныя настаўнікі дадаткова да зарплаты атрымліваюць «тры базавыя велічыні», якія называюць «паўлаўскімі», таму што «прабіў» іх менавіта Анатоль Васільевіч. Дакладней, прапанаваў





здзейсніць у Мінску тое, што ў Маскве рабіў Лужкоў.

У тыя часы да прафсаюзаў улады яшчэ прыслухоўваліся. А тагачасны «кіраўнік адукацыі горада» Міхаіл Ціцянкоў (нядаўна адхілілі ад пасады) нават запрашаў на свае пасяджэнні. Менавіта гэты чалавек, разумеючы, што па-чэснаму яму з Паўлавым не справіцца, каб пазбавіцца аднаго няўгоднага чалавека, «дапаможа» ліквідаваць цэлую галіну прафсаюзаў.

А «дэтанатарам» стануць прэзідэнцкія выбары 2001 года, калі Анатоль Паўлаў пагадзіцца ўзначаліць выбарчы штаб экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра і ўступленне разам з ім у Аб'яднаную грамадзянскую партыю (АГП). Пасля гэтага пачаўся пэўны ціск. Ад Паўлава патрабавалі публічна адмовіцца ад сваіх дзеянняў, на што Анатоль Васільевіч адказаў адмоўна.

І ўвогуле, ён не разумеў, што такое зрабіў незаконнае. Партыйнымі справамі займаўся па-за межамі працы, а палітычныя арыенціры — справа асабістая. Што датычыцца прэзідэнцкіх выбараў, то тут усё цалкам у межах Канстытуцыі, працэс афіцыйна аб'яўлены дзяржавай. Мабыць, візаві гэта разумелі таксама, таму асабліва моцны ціск пачаўся адразу пасля сканчэння выбараў.

«Убраць» Паўлава з дапамогай перавыбараў яны не маглі — надта вялікі аўтарытэт, таму вырашылі пайсці іншым шляхам. Вырашылі ліквідаваць саму структуру. Узгаданы ўжо «кіраўнік адукацыі горада» заняўся гэтым асабіста. Настаўнікаў усіх рангаў «дабравольна» прымусілі пісаць заявы аб выхадзе са свайго прафесійнага саюза, і гэта стала пачаткам канца.

«Асаблівасць» Паўлава была ў тым, што ён прыйшоў працаваць у прафсаюзы не «зверху», а «знізу» і з самага пачатку не стаў «прыводным ремнем партии».




Цяжка не пагадзіцца з яго вывадам пра тое, што прафсаюзныя кіраўнікі заўсёды павінны памятаць, дзе атрымліваюць заробак. Калі б гэта было так, мы ніколі не пачулі б анекдатычнай ахінеі пра нейкія «нобелеўскія прэміі». На мой погляд, з вуснаў Козіка прагучала невыпадковае глупства, бо месяц таму нават афіцыйныя прафсаюзы пад ціскам грамадскасці выступілі супраць шалёнага росту коштаў . За несанкцыянаваны «вяк» ім, мабыць, па-даросламу «ўляцела», таму нехта і вырашыў «лізнуць аж да прастаты»...

## «Грамадска-палітычны» штуршок

Летам 2002 года Анатоль Паўлаў застаўся без работы. Пагадзіцеся, у 53 гады знайсці нешта прыстойнае вельмі цяжка. Добра, што як раз у той момант былы міністр сельскай гаспадаркі і «зэк» Васіль Лявонаў ствараў свой фонд «За новую Беларусь» і прапанаваў Паўлаву ўзначаліць яго праўленне. Там ён прапрацаваў да 2008 года.

Я крыху здзіўлены, што некаторыя знайшлі ў маіх нарысах нейкі радыкалізм. Маўляў, нельга бачыць з супрацьлеглага боку толькі чорныя колеры і «не ўсе там такія». Згодны — не ўсе. Прашу прабачэння, калі ёсць падобная дамінанта, але часам я проста не магу зразумець тых, хто паводзіць сябе як нешта агідна-пачварнае. А яшчэ хачу, каб усе зразумелі, адкуль падчас вайны браліся паліцаі і тыя, хто пісаў даносы ў НКУС на суседзяў.

У апазіцыйную галіну Анатоля Паўлава дзяржава літаральна «выпхнула». Так, як ён, у розных дзяржаўных установах сёння думаюць многія, але ў адрозненне ад іх Анатоль Васільевіч выказвае свае погляды не толькі на асабістай кухні. Таму ён і стаў для існуючых улад амаль ворагам.



Калі б не ліквідавалі непрыемны ім прафсаюз, магчыма Паўлаў працаваў бы ў гэтай галіне яшчэ шмат год.

Калі б у краіне панаваў закон, а не «тэлефоннае права», можа, яму б і не прыйшлося выбіраць паміж канфармізмам і актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасцю:

*«—Трагедыя нашага часу ў тым, што прадстаўнікі ўладаў не выконваюць нават тых законаў, якія самі ж і пішуць. Калі тыя па нейкай прычыне не задавальняюць, сёння даволі проста ўнесці патрэбныя карэктывы. «Ручны» парламент вельмі хутка зафіксуе ўсе неабходныя змены.*

*Возьмем тую ж адукацыю, пра якую я шмат пісаў, гаварыў і буду гаварыць. У Канстытуцыі напісана ясна, канкрэтна і зразумела, што кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь мае права на атрыманне сярэдняй адукацыі і па конкурсу вышэйшай. Бясплатнай. Хаця і не люблю гэтага слова. Сыр у мышалоўцы таксама не бясплатны, бо кошт там — жыццё. Правільней — бюджэтнага.*

*У Законе аб адукацыі гэта таксама прадублявана і дабаўлена, што невялікі адсотак адукацыі можа быць платным. Падкрэсліваю — невялікі. А ў нас сёння больш як 70 адсоткаў студэнтаў — платнікаў.*

*Патрэбныя грошы? Іх лёгка можна знайсці, калі ў два разы скарацiць усялякіх «мянтоў», а то па іх колькасці на пэўную лічбу насельніцтва мы выйшлі на першае месца ў свеце. Нават выхад на расійскі «ўзровень» дазволіць знайсці грошы і на адукацыю, і на ахову здароўя.*

*Тыя, хто сёння знаходзіцца «пры ўладзе», маюць права на выбар шляху, які яны для сябе лічаць самым лепшым.*

*А калі вы так рабіць не жадаеце, уносьце неабходныя змены ў Канстытуцыю.*

*Каб унесці неабходныя змены ў Канстытуцыю, трэба правесці рэферэндум. Праводзьце! Не хочуць, хаця, калі ім гэта было выгадна, праводзілі. Ведаюць, што за тое, каб студэнты вучыліся «на платнай аснове», ніхто не прагаласуе. Таму робяць усё, «заплюшчыўшы вочы» на законнасць сваіх дзеянняў.*

*Мая пазіцыя вельмі простая і зразумелая: трэба жыць па законах. Менавіта па гэтай прычыне я і займаюся грамадска-палітычнай дзейнасцю. Хаця «палітычны» складнік тут даволі ўмоўны, бо ён базуецца толькі на тым, што я ўваходжу ў АГП і ўзначальваю яе сталічную арганізацыю.*

*... Акрамя снегападаў, з якімі прыйдзецца маёй жонцы змагацца адной (пазней даведаўся, што ёй дапамагалі мой сусед і Міхаіл Чыгір), для Мужчыны нічога суперскладанага там няма. Ва ўсякім выпадку, не было для мяне.*

*Непрыемна канешне, што ў камеры ўвесь час гарыць святло. Нават ноччу. Звыкаешся з усім. Ручнік на твар і — спіш. Амаль армейскі расклад. У шэсць гадзін раніцы — пад'ём, у 10 вечара — адбой.*

*Я нават любіў хадзіць на допыты, бо праз акно бачна, як людзі ў суседнім доме жывуць звычайным жыццём: п'юць гарбату, смяюцца, глядзяць тэлевізар.*

*Ахова, якая там працуе пастаянна, ставілася да мяне абсалютна лаяльна. Ніякіх здзекаў у адносінах да сябе я не адчуў. Пакуль праз пару дзён не прыгналі «маскі-шоў», усё было нармальна.*

*Пытанне ў тым: што з імі рабіць потым, куды дзець пасля змены ўлады?.. Можа, пасляць да «барадатых дзядзькаў» у Чачню?... Каб адразу «наклалі ў штаны», а то тут яны «героі» здзекавацца над неабароненымі людзьмі... Маладому і здароваму «быку» лёгка «прэсаваць» пенсіянера...*

*Быў эпізод, калі адзін з іх мне рэзка і вельмі моцна «зацягнуў» наручнікі. Я, канешне, выгляду не падаў, і ён хацеў «дабавіць», але ахоўнік гэта зразумеў, адштурхнуў працягнутую руку і загадаў пачаць рух.*

*Індывідуальных катаванняў у адносінах да мяне не было. Як і «расцяжак». « Шмоны», калі цябе раздзяваюць дагала, праводзіліся адносна ўсёй камеры.*

*Камунікацыі з роднымі ажыццяўляліся выключна праз адваката. Спачатку я напісаў восем пісем, але потым зразумеў, што гэта марная трата часу: ніводнае не дайшло.*

*Адсутнасць інфармацыі — складанае выпрабаванне. Жонка як раз у гэты час вельмі моцна хварэла. У мяне двое ўнукаў — год і чатыры гады. 18 дзён без сувязі. Цяжка...»*



## Вольнае паветра

Першая надзея на вызваленне была перад Новым годам, але яна не спраўдзілася. Свята прайшло, і, калі Анатоль Паўлаў спытаў, чаму яго пакуль не адпусцілі, бо ніякіх «доказаў» няма і быць не можа, следчы толькі паціснуў плячыма. Маўляў, усё залежыць не ад яго.



Другое спадзяванне было на праваслаўнае Раство Хрыстова, але ніякіх «рухаў» не адчувалася ні з раніцы, ні падчас абеду. Пасля яго Анатоль Паўлаў ужо лёг на «шконку» чытаць кнігу пра Кіеўскую Русь, як яго нечакана паклікалі на допыт.

Бібліятэкі ў следчым ізалятары КДБ (як і ў іншых) няма, а кнігі там застаюцца альбо пасля якога-небудзь вызвалення, альбо пасля перавода ў іншую камеру.

Калі Паўлаў убачыў у руках следчага свой рэмень, то зразумеў: усё — воля.

Пра пачуцці, якія адчувае ў гэты момант чалавек, пісаць адначасова і складана (у кожнага свае асаблівасці), і проста. Агульным для ўсіх з'яўляецца радасць. А яшчэ шмат хто кажа, што ў гэты момант нават паветра падаецца не такім, як было гадзіну таму.

У руках Анатоля Паўлава былі дзве вялікія сумкі і, нягледзячы на адсутнасць неабходных грошай, ён «злавіў» таксі, уладальнік якога зразумеў сітуацыю.

Жонкі дома не было, бо яна чакала магчымага вызвалення да абеду, а потым паехала «на Свята» да сына і ўнукаў. Паўлаў грошы ўзяў у суседа, адтуль патэлефанаваў сваёй жонцы. Неўзабаве была і доўгачаканая сустрэча.



Пасведчанне пенсіянера і пашпарт, дзякуй Богу, Анатолю Паўлаву вярнулі, і цяпер ён можа звяртацца пры неабходнасці ў паліклініку. А далей, як кажуць, «ні міра ні вайны». Ніякіх следчых дзеянняў не праводзіцца, але і справа «павісла».

Праўду казаў мне Анатоль Васільевіч: сёння яны не выконваюць нават сваіх законаў...

*11.08.11*

# ТУРЭМНАЕ ВЯСЕЛЛЕ



**Даведка:** Павел Вінаградаў нарадзіўся 24 красавіка 1988 года ў Мінску. Скончыў прафесійна-тэхнічны ліцэй № 4 па спецыяльнасці «парыкмахер», музычную школу па класу фартэп'яна. Вучыўся на гісторыка-геаграфічным факультэце Мінскага педагагічнага ўніверсітэта. На выбарах-2010 быў адным з самых актыўных сяброў ініцыятыўнай групы Уладзіміра Някляева. Арыштаваны ў ноч на 5 студзеня 2011 года. Прад'яўлена абвінавачванне па ч. 1 і 2 арт. 293 КК РБ («арганізацыя і ўдел у масавых беспарадках»). Утрымліваўся пад вартай ў СІЗА № 1 Мінска (вул. Валадарскага, 2). 5 траўня асуджаны на 4 гады зняволення.

Першы раз яго затрымалі ў 2007 годзе, за тое, што падчас акцыі супраць адмены сацыяльных ільготаў выцягнуў з рук міліцыянта сваю дзяўчыну Святлану Гарохавік.

22 ліпеня 2011 года ў сумна вядомай івацэвіцкай калоніі «Воўчыя норы» яна стала Святланай Вінаградавай.

## Першыя «суткі»

Святлана наразілася ў Барысаве ў другі год перабудовы — 28 верасня 1986. Мабыць, адсюль і прага да рэвалюцыйнага. Хаця першапачаткова ўсё пачыналася як звычайна — фізіка-матэматычны клас мясцовага ліцэя, вышэйшая навучальная ўстанова, якой стаў факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ, тры гады жыцця ў інтэрнаце. Чаму не ўсе пяць?

На гэта пытанне адкажа першая частка яе маналога:

*«— Я была тады ў «Еўрапейскай Беларусі», і мы рыхтаваліся да «Еўрапейскага маршу». Дакладней, распаўсюджвалі папяровую прадукцыю. Напэўна, адпаведныя органы гэта ведалі, таму за 10 дзён да маёй «пасадкі» яны «накрылі» кватэру на вуліцы З. Бядулі, дзе ў нас знаходзіўся офіс. Арыштавалі тады Леаніда Навіцкага, якога «пасадзілі» на 10 сутак.*

*Праз гэты тэрмін мы прыехалі на Акрэсціна яго сустракаць. Я села з Лёням у адно таксі.*

*У іншым офісе на Заслаўскай паелі і паехалі (ужо на іншай машыне) сустракацца з сябрамі Навіцкага (актывістамі «Еўрапейскай Беларусі»). Каля Трактарнага завода машыну спынілі даішнікі і да нас хутка пабеглі нейкія хлопцы ў спартовых касцюмах. Ніякіх парушэнняў правілаў дарожнага руху мы не рабілі, таму адразу зразумелі, што «нешта не так». На жаль, не памыліліся.*





*На даішнай машыне нас прывезлі ў Цэнтральнае РУУС, дзе саставілі пратакол, што мы быццам бы на Заслаўскай вуліцы лаяліся матам, размахвалі рукамі, а яшчэ я пагражала супрацоўнікам міліцыі непрыемнасцямі па службе. І нікога не засмуціла, што мы ў той момант былі ў зусім іншым месцы горада...*

*Бацькам патэлеванаваць не далі. Адзінае, я паслала sms Пашу. Ён прымчаўся ў РУУС, пачаў нешта высвятляць, але яго адтуль хутка выгналі.*

*Ноч мы пераначавалі на Акрэсціна, а потым быў суд. Першаму 15 сутак далі Зміцеру Бародка, потым столькі ж атрымаў Лёня Навіцкі (правёў на свабодзе толькі некалькі гадзін), а апошняй судзілі мяне. Мабыць, яны хацелі зрабіць выгляд, што «разбіраюцца», таму маю справу суд разглядаў каля гадзіны. Усе вакол (нават ахоўнікі) чамусьці былі ўпэўнены (альбо рабілі выгляд), што мне дадуць штраф і адпусцяць на волю.*

*Памыліліся.*

*Я атрымала «свае» 15 сутак.*

*Перад вяртаннем на Акрэсціна дазволілі зрабіць адзін званок маці, але з ёй не было сувязі, і я патэлефанавала да старэйшай сястры Марыны.*

*Аказалася, мама ўсё ведала сама — мацярынскае прадчуванне. Яна адчула гэта ноччу ў дзень арышту. Мой тэлефон не адказваў. Пачала шукаць і праз некалькі гадзін аб усім даведалася ад Пашы.*

*«Класічны» прэвентыўны арышт. Мяне хацелі адлічыць з універсітэта, але праваабаронцы пачалі прыходзіць і тэлефанаваць у БДУ. Словам, давучыцца далі, але са студэнцкага інтэрната выгналі.*

*Было гэта ў 2007 годзе, а за год да гэтага мы пазнаёміліся з Паўлам.*

*Стаяла позняя восень. Іван Шутко, які кіраваў суполкай «Еўрапейскай Беларусі» Першамайскага раёна сталіцы, запрасіў на сустрэчу, дзе прадставіў усіх, хто там будзе працаваць.*

*З Пашам мы сябравалі больш за год. І не толькі па «палітычных» матывах. Гулялі разам, хадзілі ў кіно. Ён пазнаёміў са сваімі сябрамі, я — са сваімі. Кола сяброў стала агульным, а потым з сяброўства вырасла іншае пачуццё...»*

## Выпрабаванні кахання

Хаця тыя «суткі» і сталі для Святланы першымі (і пакуль апошнімі) у яе жыцці, яны маглі адбыцца на паўгады раней. Зноў «Чаму?» і зноў адкажам з дапамогай Святланы Гарохавік:

*«— Калі адмянілі ільготы на праезд студэнтам і пенсіянерам, група моладзі вырашыла правесці на Нямізе адпаведную акцыю. Называлася яна «Пахаванне ільготаў». Зрабілі чорную кардонную труну і навесілі на яе ільготны талончык на праезд. Былі вянкі, плакальшчыцы, дзяўчаты надзелі жалобныя касынкі, а некалькі чалавек — чорнае. Словам, усё як мае быць.*

*Першым з перавязаным чорнай стужкай ільготным талонам на праезд ішоў Паша. Далей з вянкамі я і Аляксандр Баразенка. «Працэсія» рухалася ад «Макдональдсу» да станцыі метро «Няміга». Ішло 50—60 чалавек.*



*Паспелі прайсці даволі многа, метраў дзвесце, аж да самага моста. Глядзелася ўсё вельмі паважна. Людзі спыняліся і ўспрымалі ўсё вельмі пазітыўна. Рыхтаваліся сакрэтна, і таму міліцыянты нічога не ведалі пра нашу акцыю.*

*Наколькі я памятаю, убачылі нас выпадкова: па вуліцы Няміга ехала патрульная машына. Спыніліся і пачалі зваць па рацыі дапамогу. Для іх гэта было цалкам нечакана, бо звычайна ўсе апазіцыйныя акцыі ўжо чакаюць «з камерамі», а тут іх не было.*



*З «уазіка» выскачылі чатыры міліцыянты і пачалі хапаць усіх падрад. Забралі аднаго хлопца і пачалі «цягнуць» мяне. Паша гэта ўбачыў і кінуўся бараніць. Мяне ён адбіў, а сам трапіў на «пяць сутак».*

З 2008 года Святлана Гарохавік і Павел Вінаградаў пачалі жыць разам, а з 2010 працаваць у някляеўскай «Гавары праўду».

Раніцай 19 снежня 2010 года Святлана паехала ў родны Барысаў, дзе моцна хваляваліся бацькі. Бліжэй да вечара вярнулася, і яны з Паўлам пачалі збірацца «на Плошчу». Ён уключыў на паўтор песню Вінсэнта «Веру!», якая заўжды падымае баявы дух і настрой. Разлічвалі, што будуць начаваць «на Плошчы», таму бралі з сабой вельмі шмат цёплага адзення, тэрмас з гарачай гарбатай, шакалад. Ніякіх прадпасылак на сумны вынік тады не было, таму маладзёны настройваліся выключна на нешта мірнае.

Сустрэліся са сваімі сябрамі і разам пайшлі да офісу Уладзіміра Някляева, які тады месціўся на Нямізе, 42. Там ужо было даволі шмат людзей. Ва ўсіх пазітыўныя настроі. Потым Андрэй Дзмітрыеў сказаў, што ў 50-ці метрах па маршруце іх руху стаіць міліцэйская машына, якая, напэўна, будзе перашкаджаць. Папрасіў узяць у «жывое кола» мікрааўтобус са гукаўзмацняльнай апаратурай .

Святлана Гарохавік ішла перад мікрааўтобусам і, калі ўзгаданае аўто «перакрыла» рух, аказалася прама перад ім. Някляеў заклікаў адсунуць яе ў бок, і ў гэты момант адразу выскачылі «людзі ў чорным». Пачалі ўзрывацца шумавыя (калі гэта былі яны) гранаты. Нападнікі сталі піхаць ззаду мікрааўтобус «Гавары праўду», і Святлану, як і некаторых іншых, прыціснула да машыны ДАІ. Гэта быў сапраўдны жах, бо абаронцаў магло банальна «расплюшчыць».

Потым пачалася бойка, дакладней, адпор, які спрабавалі даць звычайныя людзі добра падрыхтаваным фізічна «людзям у чорным». Аднак, як кажуць у такіх выпадках, сілы былі няроўныя.

Тых, хто пытаўся супрацьстаяць (і журналістаў — **заўвага аўтара**), кінулі «тварам у снег», з боку кіроўцы кулакамі разбілі шкло. Выцягнулі і пачалі біць вадзіцеля, а потым пачалі выцягваць апаратуру. Як толькі гэта зрабілі, паступіў сігнал уходзіць і нападнікі «зніклі».

Людзі пачалі падымацца і ўбачылі, што чалавек у чырвонай куртцы застаўся ляжаць.









Гэта быў непрытомны і моцна збіты Уладзімір Някляеў.

Далейшыя падзеі пераказваць няма сэнсу, бо яны добра вядомыя. Калі коратка, то неўзабаве Святлана Гарохавік разам з Паўлам Вінаградавым і іншымі аказаліся на Кастрычніцкай, а потым на плошчы Незалежнасці. Усё, што адбылося далей, яна зноў распавядзе сама:

*«—Калі пачулі звон разбітага шкла, ніхто адразу не зразумеў, што адбываецца. Праз некаторы час туды трапіў і Паша. Як высветлілася потым, гэта каштавала яму чатырох гадоў зняволення...*

*АМАП паявіўся амаль адразу ж. Нас пачалі «адцясняць». Каб нічога не здарылася, Паша «аддаў» мяне ў рукі агульнага сябра Цімафея Зойкі — «прыглядаць» за тым, каб са мной нічога не здарылася.*

*Даволі хутка пачалася «зачыстка», нас «адсеклі» ад асноўнага натоўпу і стала зразумела — будуць браць. Мы пабеглі. У гэты момант я пашкадавала, што надзела валёнкі. Мякка кажучы, бегчы ў іх не вельмі зручна... Асабліва з цяжкім заплечнікам на плячах...*

*Неаднаразова азіраючыся, убачыла, што Паша застаўся на ачэпленым АМАПАМ «пятачку». Я разумела, што ён адтуль не вырвецца. Хацелася вярнуцца. Было жудасна...*

*Падзеі разгортваліся і змяніліся амаль імгненна, як у хроніцы, дзе ўключылі хуткую перамотку.*

*Па дарозе мы адбілі ад амапаўцаў аднаго з нашых сяброў, і я нечакана зноў убачыла побач з сабой Пашу. Сапраўдны момант шчасця. З ім усё ў парадку.*

*Разам прыйшлі на прыпынак грамадскага транспарту каля «Макдольдсу», што на Нямізе, убачылі там трох «ціхароў», якіх ведаем па розных акцыях, селі ў першы ж аўтобус і з'ехалі.*

*Праз 10 хвілін на тым прыпынку адбыўся «хапун» і ўсіх забралі ў аўтазак.*

*Апынуліся ў другім канцы горада, дзе вызвалі таксі і паехалі да дому.*

*Амаль усю астатнюю ноч глядзелі «Еўраньюс», а з раніцы БТ паказала зялёны мікрааўтобус «са зброяй». Доўга смяяліся, таму што ведалі — на самой справе ён быў белым, а «зброяй» сталі звычайныя дынамікі».*

## Пакараныя валёнкі

У футболе ёсць такі тэрмін — адтэрмінаваны штраф. Гэта калі суддзя за парушэнне карае крыху пазней. Нешта падобнае адбылося і з Паўлам Вінаградавым. Усе наступныя дні са Святланай яны чыталі з інтэрнэту навіны, якія складаліся амаль з адных арыштаў іператрусаў. Усё гэта падказвала — з'ехаць. Тым больш, што магчымасць такая ёсць: маці Паўла зараз жыве ў Італіі. Але рабіць гэтага ён прынцыпова не стаў.

«Забралі» больш чым праз дзесяць дзён пасля падзей на плошчы Незалежнасці, у той момант, калі ўсе ўжо супакоіліся. «Вылічылі» па адзенні. Параўналі запісы «захопу» някляеўскай апаратуры з кадрамі, якія былі знятыя каля Дома ураду, і ўбачылі там адну і тую ж куртку, а па ёй і яе ўладальніка — Паўла Вінаградава.

Вечарам 4 студзеня пачаўся вобыск. Цягнуўся ён да пятай гадзіны раніцы новага дня. Акрамя ўсялякіх носьбітаў нейкай інфармацыі (камп'ютар, ноўтбук, плэер, флэшкі) часова «канфіскавалі» ўсе кнігі паэта Уладзіміра Някляева, некалькі кофтаў, шапак, шалікаў Паўла і нават валёнкі.

Цікавая гісторыя была з лекамі, якія Вінаградаву даслала з Італіі маці Аляксандра Канстанцінаўна. Усе надпісы на ампулах былі, зразумела, на італьянскай мове. Следчыя яе не разумелі і таму вельмі ўзрадаваліся — наркотыкі.

Праз некалькі месяцаў зрабілі экспертызу і лекі прыйшлося вярнуць назад... Але самае каштоўнае пакуль не вярнулі, напрыклад, грошы Святланы Гарохавік. Напэўна той, хто шукаў нейкі «заходні след», быў моцна расчараваны: 175 еўра, 2 даляра і 200 расійскіх рублёў ніяк не «цягнуць» на « дзяржаўны пераварот». Іх мала нават для «шэдэўраў» тыпу «Жалезам па шклу».

Потым суд вырашыў усё гэта вярнуць. Прайшло ўжо сем месяцаў, аднак іх (як і раней) няма. Святлана ўжо двойчы пісала адпаведныя заявы. Нічога не хачу сказаць, але ўжо не першы раз канфіскаваныя такім чынам грошы следчыя вяртаць не спяшаюцца...

Дарэчы, за экспертызы лекаў, камп'ютараў і іншых носьбітаў інфармацыі, якія праводзілі следчыя па асабістай ініцыятыве, прапанавалася заплаціць самой Святлане. Другімі словамі, заплаціць трэба было за магчымы кампрамат на сябе..



Нонсэнс не змагла не заўважыць нават суддзя «самага гуманнага суда ў свеце».

Менавіта яна «ўпаяла» Паўлу Вінаградаву «чатыры гады ўзмоцненага рэжыму» і менавіта яна тройчы дазволіла пасля вынясення столь суровага прысуду Святлане спатканні са сваім каханым. Нягледзячы на тое, што тады для Вінаградава Гарохавік была афіцыйна **нікім**.

Матыў чужых учынкаў даволі цяжка ўгадаць. Магчыма, было сорамна, магчыма, нешта іншае, таму канстатуем толькі факт трох спатканняў.

А калі яна сышла ў адпачынак, яшчэ два «дадаў» старшыня Кастрычніцкага суда.

Мабыць, прысуд быў бы больш мяккі, калі б Павел агаварыў (што прапаноўвалася не аднойчы) сваіх сяброў і кандыдатаў у прэзідэнты.

## Чырвонае і чорнае

Гэта «нікім» і стала каталізатарам вяселля, бо па айчыннаму заканадаўству пазбаўленаму волі дазваляюцца сустрэчы толькі з блізкімі роднымі і чальцамі яго сям'і. Тым больш што такая думка прыйшла значна раней «Воўчых нораў», яшчэ на «валадарцы». Да каго першага? Адкажу так — да абодвух.

... Да сумна вядомай калоніі, што месціцца ў Івацэвічах, яго этапіравалі трое з паловай сутак, хаця ад Мінска да Івацэвічаў толькі 250 кіламетраў. Тлумачыцца гэта асаблівасцямі беларускай пеніцыярнай сістэмы, якая лічыцца даволі складанай.

Пра вяселле, што адбылося ў «Воўчых норах» 22 ліпеня 2011 года, нешта новае можна дадаць толькі з дапамогай нявесты, якая ў гэты дзень стала жонкай:

*«— З майго боку ў Івацэвічы паехалі бацькі, з Пашынага — бацька Юрый Аляксандравіч, сведкі Аляксандр Баразенка і Аліна Лявонава. Плюс дзве мае сяброўкі як «група падтрымкі», бо адразу было вядома, што ўнутр калоніі іх не пусцяць. Думкі надзець белую сукенку не было ўвогуле, бо гэта турма. Вырашыла адзецца ў летні чырвоны сарафан.*

*Пярсцёнкі не купляла па двух прычынах. Па-першае, на «зоне» забаронена насіць пярсцёнак. Па-другое, купляць іх (згодна са звычаем) павінен жаніх. Да таго ж яны не самыя галоўныя ў нашым жыцці.*

*Перад працэдурай шлюбу мы заехалі ў Даманава, дзе забралі супрацоўніцу ЗАГСу, з якой была папярэдняя дамоўленасць. У кадравым «раскладзе» калоніі такая адзінка не прадугледжана.*

*Пашы доўга не было. Чакалі амаль 15 хвілін. Ахоўнікі, якія стаялі каля ўваходу ў нашае памяшканне, нават жартавалі — перадумаў. Калі ён прыйшоў, мы абняліся (паўгады перапынку) і так стаялі, мабыць, дзве хвіліны. Потым Паша павітаўся з усімі астатнімі. Ён быў у чорнай турэмнай робе.*

*Распісалі нас першымі. Другая пара чакала сваёй чаргі, а мы выйшлі ў іншае памяшканне. Размаўлялі там хвілін трыццаць і так гучна смяяліся, што нават атрымалі наконт гэтага заўвагу.*

*Затым усіх вывелі за межы калоніі, а я вярнулася туды зноў, каб атрымаць пропуск на доўгатэрміновае спатканне. Гэта было 17 гадзін пятніцы, а працягвацца спатканне павінна было да той жа гадзіны панядзелка. Аднак апошні панядзелак месяца ў іх «санітарны дзень», таму некалькі гадзін ад нас «скралі».*

*Цяпер мне ў год паложана мець два доўгатэрміновыя спатканні і тры «праз шкло». Вясельнае было падарункавым».*

## Навошта «палітыка»

Сям'я Святланы Гарохавік амаль тыповая для нашага часу. Бацька Міхаіл Сцяпанавіч працуе будаўніком, маці Галіна Леанідаўна інжынер па абароне працы і тэхніцы бяспекі. Ёсць яшчэ ў яе на два гады старэйшая сястра Марына, якая закончыла Беларускую акадэмію мастацтваў і зараз малюе карціны. Усе яны падзяляюць палітычныя погляды Святланы.

Сказана крыху пафасна, бо сутнасць гэтых самых поглядаў не ў нейкіх вельмі разумных канцэпцыях, якія пры жаданні можна весці яшчэ з самых старажытных часоў. Усе значна прасцей — жыць нармальна.

Прычым не толькі для страўніка, але і для галавы. На жаль, апошнія 17 год афіцыйная ідэалогія базіруецца толькі на першым. Адна знаё-






мая распавядала, што блізкая ёй сям'я вырашыла запрасіць у госці сябра іх дачкі. Людзі вельмі адукаваныя, культурныя, інтэлігентныя, яны былі літаральна шакаваны, калі той вынік свайго адпачынку падвёў выразам «усё было чык-чырык».

Менавіта да гэтага «чык-чырыка» сёння і імкнуцца звесці ўсе чалавечыя памкненні. Прымітыўна? Так. Аднак гэта задавальвае далёка не ўсіх:

*«— Напэўна, у мяне іншыя погляды на жыццё, чым у сяброў БРСМа. Я хачу атрымліваць альтэрнатыўную інфармацыю і не жадаю, каб краінай кіраваў чалавек, якога падазраюць у гучных злачынствах. Хачу даць сваім будучым дзецям якасную адукацыю. Хачу, прыходзячы ў краму, купляць тое, што мне сапраўды падабаецца, а не тое, што там ёсць. Хачу жыць дастойна. Зразумела, многае будзе залежыць ад таго, як я буду працаваць, але ёсць там і нейкія вонкавыя ўмовы.*

*На жаль, сённяшняя ўлада ператварае краіну ў нешта ірацыянальнае, а людзей у звычайных рабоў. Час ад часу здаецца, што яны ўжо страцілі пэўныя чалавечыя якасці і ператварыліся ў нейкіх апатычных істот, якія апісаны ў кнізе Джорджа Оруэла «1984».*

*Мне становіцца страшна за свой народ, таму і хочацца нешта змяніць».*

**Няма сэнсу тут каментаваць што-небудзь. Адзначу толькі, што, пакуль ёсць моладзь, якая разважае менавіта так, мы яшчэ не страцілі надзею на тое, каб не ператварыцца ў сумна знакамітую ўтопію англійскага пісьменніка, альбо ў іншы яго раман — «Скотный двор».**

*20.08.11*

# НАВІНЫ КОЛЕРУ ХАКІ



**Даведка:** Эдуард Лобаў нарадзіўся 1 снежня 1988 года ў Вільні. Праходзіў тэрміновую службу ў спецназе Віцебскага дэсанту. Затрыманы 18 снежня разам з лідэрам МФ Зміцерам Дашкевічам, абвінавачаны ў хуліганстве (арт. 339 ч.3 КК). 24 сакавіка асуджаны ў судзе Маскоўскага раёна да 4 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У падобнае сёння цяжка паверыць. У той час, калі амаль усе яго равеснікі па розных прычынах «косяць» ад вайсковай службы, і гэта лічыцца ў маладзёвым асяроддзі «нармальнай» з'явай, Эдуард Лобаў пайшоў служыць з вялікім задавальненнем. І зрабіў гэта амаль па асабістаму жаданню.

## Жыццёвы выбар

Вайскоўцам ён марыў стаць з самага дзяцінства. Дакладней — насіць форму. Тлумачылася гэта тым, што бацька Эдуарда Лобава Анатоль на той момант вучыўся ў вільнюскай школе МУС. Маці Марына і ўвогуле родам з Вільнюса.

Пасля заканчэння бацькавай вучобы сям'я пераехала ў Паставы, дзе хлопчык і пайшоў у школу. Бацькава служба (участковы, следчы) і тое, што дзядзя быў намеснікам начальніка аднаго з расійскіх ваенных вучылішч, безумоўна, налажылі свой адбітак на жыццёвыя арыенціры Эдуарда Лобава.

Апроч гэтага былі яшчэ заняткі каратэ ў ваенна-патрыятычным клубе «Азімут», якім кіраваў сапраўдны прыхільнік мужнага вайсковага жыц-



ця Сядых. Сам былы ваенны, ён прывіваў выхаванцам павагу да аскетычнага афіцэрскага лёсу.

Вайскоўцаў у тыя часы вельмі паважалі. Прафесія была прэстыжнай (не тое што зараз) у грамадстве, таму цалкам невыпадкова, што Эдуард (паля сёмага класа быў яшчэ адзін пераезд — Мінск) вырашыў паступаць у Ваенную Акадэмію. Амаль два месяцы занялі розныя медыцынскія абследаванні.

У дзяцінстве ён разам з бацькамі трапіў у аўтамабільную аварыю, што стала прычынай заўважнага толькі для апаратуры скрыўлення пазваночніка. З гэтай нагоды і «забракавалі».

Ваенкам, які бачыў шчырае жаданне стаць афіцэрам, прапанаваў адразу пайсці служыць. Маўляў, адтуль паступіць будзе значна лягчэй. Але маці прытрымлівалася іншага погляду. Яна параіла пайсці вучыцца і атрымаць нейкую спецыяльнасць. Аднак моладзь на тое і моладзь, каб рабіць усё па-свойму. Вучыцца Эдуард пайшоў, але туды, дзе гэтай вучобы менш за ўсё. Ліцэі раней называліся не так пафасна — ПТВ, а спецыяльнасцю стала — «слесар-рамонтнік кантрольна-вымяральных прыбораў».

Перад прызывам на вайсковую службу Эдуард паспеў крыху папрацаваць, але ўсе ведалі, што гэта рэч даволі ўмоўная, бо мара ў юнака іншая — стаць афіцэрам. У ваенкамаце прапанавалі толькі элітныя дэсантныя войскі і выбар — Брэст, Мар'іна Горка, Віцебск. Апошні спадабаўся больш за ўсё.



Цікава, што раней ён быў згодны і на міліцэйскія (прыклад бацькі) пагоны, але пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года паглядзеў, чым на самай справе займаецца гэты «спецназ»... Разганяць мірныя акцыі не хацелася, Мар'іна Горка адпала адразу. Да Брэста далёка, таму лагічна быў абраны Віцебск. Тым больш, што там была самая лепшая «дэсантура».

Гэта, калі верыць афіцыйнай прапагандзе, а калі асабістым вачам, то вельмі хутка разумееш: «не ўсё тое золата, што блішчыць». І салдаты займаюцца не толькі вайсковым навучаннем, але і тым, што пераносяць ваду з адной лужы ў другую альбо капаюць «адсюль і да абеду», а потым выкапанае засыпаюць зноў...

Эдуард быў моцна расчараваны. Сваёй маці ён тады сказаў: «У такой арміі я заставацца не буду!»

Праз пэўны час у знакамітую гвардзейскую брыгаду трапіў і вядомы гомельскі «палітпрызыўнік» маладафронтавец Андрусь Цянюта. Больш за тое, з Эдуардам яны аказаліся ў адной роце і вельмі хутка сталі сябрамі, бо ўбачылі адзін у адным аднадумца.

Вось і не вер пасля гэтага ў наканаванасць чалавечага лёсу. Прынцыпова перакананы — **нічога выпадковага ў нашым жыцці не бывае!**

Да гэтага моманту Эдуард Лобаў хаця і быў супраць брутальных разгонаў мірных дэманстрацый, палітыкай асабіста не займаўся ніколі, бо быў «накіраваны» толькі на вайсковую службу. А тут зразумеў, што ўсе нашы недахопы (армейскія і цывільныя) звязаныя наўпрост з няўмелым кіраўніцтвам краіны.

Як былы вайсковец, я добра разумею ўсю экстраардынарнасць сітуацыі, бо ва ўмовах адзінаначалля любому іншадумству існаваць, мякка кажучы, цяжка. Тым больш, калі гутарка ідзе пра нейкія ўлёткі. З'яўленне іх на тэрыторыі вайсковай часткі — ЧЗ, якое можа каштаваць зорак на пагонах.

Думаю, усе падобныя выпадкі можна пералічыць па пальцах адной рукі, але і гэтага будзе за шмат, калі далей гутарка пойдзе пра «чыстасардэчнае прызнанне».

Такія выпадкі адзінкавыя. З Эдуардам Лобавым менавіта так і адбылося.

Пасля таго, як пасадзілі на гаўптвахту Андруся Цянюту, Эдуард Лобаў расклеіў па частцы адпаведныя лістоўкі і не стаў гэтага ад-



маўляць, калі пачалося «службовае даследаванне». Дарэчы, тое ж самае ён зрабіў адносна «альтэрнатыўнай службы», але тады суровага пакарання не было. На гэты раз — 10 сутак «губы».

Адбылося ўсё за некалькі дзён да «дэмбеля».

Апошні, вядома, непазбежны, «як крах капіталізму». Звольніўшыся ў запас, Эдуард адразу ўступіў у «Малады фронт», дзе і пазнаёміўся са Зміцерам Дашкевічам.

Вельмі хутка яны сталі лепшымі сябрамі.

## Жыццёвыя іспыты

Няма сумнення, што афіцыйная версія будзе адрознівацца ад аповеду Марыны Лобавай, але я спыніўся менавіта на ёй па вельмі простай прычыне: маці ўмеюць бачыць не толькі вачыма, але і сэрцам:

*« — Пра тое, што яго хутчэй за ўсё «пасадзяць» пасля выбараў, Эдзік папярэдзіў задоўга да таго, як гэта адбылося на самой справе. Падрыхтаваў. Памыліўся толькі ў тэрмінах. Арышт быў «прэвентыўным».*

*Напярэдадні выбараў, для таго каб яго «не адсочвалі», купіў новую сім-картку.*

*Загадаў званіць толькі з чужых тэлефонаў, альбо аўтаматаў.*



*17 снежня ён сышоў з нашай кватэры, але абяцаў «зазірнуць», бо забраў яшчэ не ўсе свае рэчы. Вечарам сын не прыйшоў. Як і на наступным дзень. Я пачала хвалявацца і пабегла на пошту тэлефанаваць. Новы нумар быў «не даступны».*

*Такі ж вынік быў, і калі я звярнулася за дапамогай да знаёмых...*

*Вечарам 18 снежня даведалася, што затрымалі Зміцера Дашкевіча, але прозвішча майго сына пакуль не ўзгадвалася ў інтэрнэце. Мяне гэта ніяк не супакойвала: хутчэй за ўсё ён быў з ім.*

*На наступны дзень стала вядома, што разам з Дашкевічам затрыманы і мой сын. Пачала шукаць у яго блакноце якія-небудзь кантакты. Ад Паўла Севярынца даведалася, што сын сапраўды затрыманы. Павел параіў звязацца з ім у панядзелак: маўляў, раскажа, куды везці перадачу.*

*Натуральна, на выбары мы ўжо не пайшлі, хаця першапачаткова я хацела перад самым закрыццём выбарчага ўчастка паглядзець: прагаласаваў нехта за мяне альбо не.*

*19 снежня былі на плошчы, дзе адразу пачала шукаць сцягі «Маладога фронту», каб даведацца што-небудзь пра сына. Ніякіх падрабязнасцяў там не пачула. Маладзёны мяне толькі супакойвалі: пасля выбараў усіх адпусцяць.*




*Цудам змагла вырвацца з плошчы Незалежнасці і пазбегнуць «хапуна». Потым некалькі гадзін сачыла па інтэрнэту за хваляй арыштаў і вобыскаў.*

*З раніцы не змагла дазваніцца ні да Паўла Севярынца, ні да лідэраў «Маладога фронту», ні да «Вясны».*

*З Настай Лойка (праваабаронца «Вясны» —* **заўвага аўтара***) атрымалася звязацца толькі вечарам. Тая прапанавала су-*

*стрэцца на наступны дзень і запэўніла, што яны неадкладна зоймуцца пошукамі адваката.*

*Не адпусцілі сына і праз дзесяць дзён, і праз дваццаць. Ніякіх абвінавачванняў пры гэтым не высоўвалася. Адвакат сказала, што ў яе практыцы (18 год) такое ўпершыню, бо звычайна абвінавачванне гучыць (так па законе) у першую дэкаду арышту.*

*Як вы ведаеце, майго сына вінавацілі ў нападзе на двух «звычайных прахожых». Потым высветлілася, што гэта былі няштатныя супрацоўнікі міліцыі. Нешта падобнае мы падазравалі з самага пачатку, бо пасля «вочнай стаўкі» адвакат адразу сказала, што яны «няпростыя людзі» і паводзяць сябе ў міліцыі даволі самаўпэўнена, калі не сказаць — нагла.*

*Праз дваццаць дзён адпусцілі Дзяніса Лазара, які таксама «праходзіў» па гэтай справе. Спадзявалася, што вызваляць і Дзіму з Эдзікам. Нават пад'ехала да Акрэсціна. Адвакат патэлефанавала следчаму і атрымала адмоўны адказ. Замест выхаду на волю ім было прад'яўлена абвінавачванне, па якому «свяціла» да 8 гадоў зняволення, хаця звычайна такія рэчы заканчваюцца банальнай «хіміяй».*

*Суд цягнуўся тры дні. Я вельмі ўдзячна шведскім, нямецкім, амерыканскім, украінскім дыпламатам, амбасадзе Вялікабрытаніі за тое, што яны ўвесь час былі ў судовай зале.*

*Сведкі абвінавачвання не прывялі ніякіх доказаў супраць майго сына і Зміцера Дашкевіча.*

*Ніхто з іх не бачыў ні воднага ўдару, ніхто не сказаў пра нейкі супраціў пры арышце. Наадварот, наручнікі надзелі на аднаго з «пацярпелых», бо ён паводзіў сябе даволі буйна.*

*На судзе «пацярпелых» ніхто акрамя суддзі не бачыў. Іх пасадзілі за сценкай, адкуль яны нешта і гаварылі. Не паказалі нават пашпарты гэтых людзей, таму да гэтага дня могуць быць сумненні наконт таго, што ў судзе былі менавіта яны.*

*Словам, увесь працэс, на мой погляд, быў падобны на нейкі камічны фарс, бо суддзя адхіліла ўсе хадайніцтвы абароны, якія наўпрост сведчылі пра невінаватасць падсудных. Мабыць, гэта было непатрэбна, бо прысуд шакаваў — чатыры гады пазбаўлення волі ўзмоцненага рэжыму.»*



## Жыццёвыя іспыты — 2

Час ад часу я спрабую зразумець логіку падобных дзеянняў і кожны раз пераконваюся, што ўвесь здаровы сэнс тут абмежаваны знакамітай крылоўскай цытатай «ты виноват лишь тем, что хочется мне кушать», бо толькі ў такіх выпадках можна праігнараваць сведкі пра тое, што на снезе ляжалі выключна «нападнікі», а не «пацярпелыя», а кроў (згодна з экспертызай) прыналежала Эдуарду Лобаву, якому рассеклі губу, а не яго «ахвяры», як даказвала следства.

Аднак працягнем:

*«— Кватэру яны знялі за некалькі дзён да выбараў. Спадзяваліся прыйсці на Кастрычніцкую плошчу менавіта з яе, бо былі ўпэўненыя, што ўсё астатняе жытло знаходзіцца пад пільным наглядам спецыяльных службаў і міліцыі. Але і тут памыліся. Маладосць часта бывае наіўнай, а прафесійны вопыт — цынічна-практычным.*

*Новую кватэру ўзялі пад пільны «кантроль» адразу ж. У двары з'явіліся нейкія людзі і сіні мікрааўтобус «Фальксваген» без нумароў. Было зразумела — рыхтуецца правакацыя.*

*Сын з Дашкевічам і Лазарам вырашыў паехаць да яго сябра, але за аўтобусам адразу крочыла нейкае аўто. Цягнуць туды «хвост» яны не хацелі, таму на Брылеўскай сышлі. Адразу ўбачылі, што за імі ідуць чатыры чалавека. Сталі рухацца больш хутка — праследнікі таксама. Пачалі бегчы — і тыя пабеглі. Стала відавочна, што не адарвацца. Спыніліся на вуглу нейкага дома. Эдзік пачаў даставаць новую сім-картку і ўстаўляць яе ў тэлефон, каб паведаміць пра затрыманне — не паспеў. Да іх падышлі двое з «хваста» і спыталі нейкі адрас. Пачулі «не ведаем», папрасілі цыгарэты і амаль адразу пачалі хлопцаў збіваць.*

*Сыну рассеклі губу і разам са Зміцерам Дашкевічам і маладзечанцам Дзянісам Лазарам збілі з ног. Чатыры нападніка цудоўным чынам «ператварыліся» ў двух «ахвяр».*

*Нагадаю, што было гэта 18 снежня 2010, а першы ліст я ад сына атрымала толькі ў студзені 2011 года. Адразу пасля арышту Эдзіка трымалі на Акрэсціна, дзе любыя кантакты забараняліся. На Новы год зрабілі «падарунак» — перавялі ў Жодзіна. Прычым зрабілі гэ-*





*та цалкам «у стылі» нашага часу. Першага студзеня я прынесла на Акрэсціна віншавальныя перадачы сыну, Дашкевічу і Лазару і толькі там даведалася пра перавод....*

*Кажуць, што ізалятар часовага ўтрымання ў Жодзіна крыху горшы, чым на Акрэсціна, але адно станоўчае там усё ж такі ёсць — дазваляюць ліставанне.*

*Калі я ўбачыла почырк сына, як кажуць, радасці і шчасцю майму не было межаў. Настрой у Эдзіка бадзёры, як і зараз.*

*Амаль адразу ён папрасіў прыехаць туды адваката. Аказалася, нягледзячы на яўнае (яе адсутнасць) парушэнне закона, яго штодзённа дапытвалі супрацоўнікі КДБ і пагражалі ў выпадку адсутнасці «патрэбных» паказанняў супраць кандыдатаў у прэзідэнты і «кампрамату» на «Малады фронт» забіццём у так званай «прэсхаце».*

*Калі інфармацыю пра гэта я размясціла ў інтэрнэце, пагрозы спыніліся, але допыты працягваліся. Да звычайных кэдэбэшнікаў далучыліся нават вышэйшыя афіцэры Вайсковай контрразведкі. Па гэты дзень не магу зразумець, якое ўсе яны маюць дачыненне да «звычайнай крымінальнай справы»...*

*Магчыма, за тое, што не змаглі атрымаць «патрэбных» паказанняў, і пасадзілі...*

*Звычайна пасля таго, як абвінавачаны знаёміцца са сваёй справай і тая перадаецца ў суд, следчыя дазваляюць спатканні з самымі блізкімі, але мне гэта не дазволілі. Мабыць, не спадабалася тая праўда, якую я выказала, калі забірала рэчы сына.*

*Спатканне дазволілі толькі пасля прысуду. Першы раз убачылася і змагла паразмаўляць з сынам толькі 24 сакавіка 2001 года — адна гадзіна размовы праз шкло.*

*Двойчы сустракалася з ім на «валадарцы», а потым — «Воўчыя норы». Была там тры разы. Адразу пасылала толькі лісты і адну бандэроль, а потым прыйшло запрашэнне на «Дзень адчыненых дзвярэй». Разам з сынам сядзелі на канцэрце асуджаных, а потым амаль паўтары гадзіны размаўлялі. За паўгады першы раз не «праз шкло».*

*Сын увесь час мяне супакойвае: «Не трэба хвалявацца. Я не на вайне».*

*Як і раней хоча быць вайскоўцам, але толькі ў новай Беларусі».*

## Жыццёвыя парадоксы

На жаль, бацькі Эдуарда Лобава не стала праз 13 год пасля яго нараджэння. У 2003 годзе Марына пазнаёмілася з Юрыем Якубоўскім, які неўзабаве стаў айчымам Эдуарда .

Па яго біяграфіі пры жаданні можна вывучаць найноўшую гісторыю нашай краіны. Дакладней тое, як самыя гучныя падзеі новага часу адбіліся на лёсе звычайнага чалавека.

Нарадзіўся ён ў Мядзелі. Закончыў там школу. З шаснаццаці гадоў працаваў слесарам на вытворчасці рухавікоў. Потым была вайсковая служба ў Асіповічах. Пасля звальнення ў запас год працаваў на былым месцы, а калі СССР разваліўся, што аўтаматычна азначала адсутнасць зарплат і запчастак, паехаў у вёску да сваёй бабулі. Год працаваў калгасным трактарыстам, потым на два гады паехаў на заробкі ў Маскву. Пасля вяртання ў Мядзель ажаніўся, зноў працаваў слесарам, займаўся прыватным возніцтвам. Затым быў пераезд ў Паставы, дзе неўзабаве адбыўся развод.



Там ён і сустрэўся з Марынай Лобавай, якая у той момант збіралася пераязджаць у Мінск. Пераехалі разам.

Шчыра кажучы, я не вельмі паважаю словазлучэнне «грамадзянскі муж», бо лічу гэтую фразу даволі «абстрактнай». На мой погляд, муж альбо жонка даюцца чалавеку Богам, таму эпітэт, ад якога адразу аддае пашпартным штампам, варта замяніць нечым больш высакародным і мілагучным. Тым больш, калі той з'яўляецца і духоўным аднадумцам, і палітычным...

І гэта напісана не толькі таму, што Юрый цалкам «у тэме» Эдзікавых пакут. «Пад дубінкі» (на розныя мітынгі і апазіцыйныя мерапрыемствы) яны з жонкай пачалі хадзіць, яшчэ калі Эдуард Лобаў быў цалкам «апалітычным», дакладней, вучыўся ў школе.



Падчас працы над нарысам адбыліся падзеі, якія не толькі пацвердзілі гэтую выснову, але і далі надзею на даволі хуткае вырашэнне праблемы «ў цэлым».

Пачалося ўсё 3 ліпеня 2011, калі ўлады «святкавалі» Дзень Незалежнасці. Двукоссе тут ужытае невыпадкова, бо нават самы апантаны прыхільнік Лукашэнкі разумее, наколькі «шчырым» было гэта свята. Як вядома, скончылася яно вельмі брутальным «хапуном» і «пярцовым газам» на подступах к Чыгуначнаму вакзалу беларускай сталіцы. Былі там і Юрый Якабоўскі з Марынай Лобавай, якая ішла побач са сваім малодшым сынам Уладзіславам.

Мабыць, многія бачылі «хапун», які адбыўся на прыпынку грамадскага транспарту па вуліцы Кірава, бо тады ён стаў амаль «хітом» усіх неафіцыйных навін. Менавіта там і папалі «пад раздачу» героі нарыса.

Пачалося ўсё з таго, што нейкі «лысы амбал» накінуўся на непаўналетняга сына Марыны Лобавай. Тая пачала гучна пратэставаць, атрымала ўдар па галаве і імгненна аказалася ў «аўтазаку». Юрыю Якубоўскаму, які спрабаваў абараніць жонку, «прыснулі» ў вочы газам, і ён перастаў што-небудзь бачыць увогуле.

Марына пазваніла Юрыю з «аўтазака». Думала, яго таксама забралі. Высветлілася — не. Нехта з прахожых завёў яго ў першую ж кватэру, дзе Якубоўскаму гаспадыня дазволіла прайсці ў ванную і памыць вочы.

Пасля «вандровак» у розныя РУУС «аўтазак» з Марынай Лобавай спыніўся каля Маскоўскага. Затрыманых на «маўклівай акцыі» было каля 50-ці чалавек, але, калі Юрый спытаў пра сваю жонку, яму адказалі, што такой у іх няма.

Далейшае нагадвала вельмі танны дэтэктыў. Па тэлефоне Марына казала, што яна знаходзіцца менавіта ў Маскоўскім РУУС, а ў «дзяжурцы» бубнілі — няма. Самае цікавае, што размовы праходзілі прама на вачах саміх міліцыянтаў, але нікога гэта не засмуціла. Напэўна, апошнім часам любая вадкасць здаецца для іх «божай расой»...

Якубоўскага «выкінулі» з РУСС, а потым запрасілі туды зноў, дзе «далучылі» да жонкі, абвінавацілі ў «незаконном проникновении в поме-

щение РУВД и оказании сопротивления выполняющему служебные обязанности милиционеру» і амаль у поўнач адпусцілі.

Марыне Лобавай пашанцавала менш. На яе (як і на іншых) склалі пратакол за «лаянку матам» і «адсутнасць рэакцыі на шматлікія заўвагі міліцыянтаў». Начаваць павезлі на Акрэсціна.

З раніцы «далі» «20 базавых велічынь», бо па законе не маюць права (непаўналетні сын) пазбаўляць волі за адміністрацыйнае парушэнне.

А Юрыя «судзілі двойчы». 25 ліпеня справу «перанеслі» на 22 жніўня, а 22 жніўня цалкам апраўдалі.

Чым абумоўлена такая літасць, цяжка сказаць. Магчыма, да суддзяў дайшлі чуткі пра 4—5 мільёнаў амапаўскай зарплаты, і тыя (для самапавагі) патрабуюць цяпер больш якасных «белых нітак». Шчыра хачу абвергнуць «плёткі» і надрукаваць ведамасці зарплат тых, хто пачаў «травіць газам».

Як бы там ні было, аднак апошнім часам падобныя прэцэдэнты назіраюцца ўсё часцей і часцей. Як казаў Сенека, «адна ластаўка яшчэ не робіць вясны». Да і «ластаўкамі» іх назваць пакуль вельмі цяжка. Зусім не хачу выдаваць пажаданае за рэчаіснае. Адназначна толькі тое, што прэцэдэнты з'явіліся, а гэта азначае хуткі канец клубку з «белымі ніткамі», бо «колькі вяровачцы ні віцца»...

*26.08.11*

# ДРОЗД З ВЁСКІ «ДРАЗДЫ»



**Даведка:** Дзмітрый Дрозд нарадзіўся 26 сакавіка 1973 года ў вёсцы Драздны. У 1978 годзе вёска ўвайшла ў склад горада Мінска. Зараз там рэзідэнцыя прэзідэнта. У 1992 годзе скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці «фотатэхніка», у 2005 годзе — гістарычны факультэт БДУ (спецыяльнасць «музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны». У 2010 годзе выйшла яго вялікая праца — кніга «Землеўладальнікі Мінскай губерні 1861-1900 гг.»У часе выбарчай кампаніі 2010 года быў сябрам ініцыятыўнай групы Андрэя Саннікава. За ўдзел у Плошчы-2010 адбыў 10-сутачны арышт. 1 лютага 2011 года быў узяты пад варту на 3 сутак як падазраваны па чч. 1 і 2 арт. 293 КК. Прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках. 5 траўня асуджаны на 3 гады зняволення.

Напісаць пра гэтага чалавека я вырашыў задоўга да таго, як адбылося «памілаванне», і вельмі хваляваўся, каб не пачуць пра «пасыпанне попелам галавы». На шчасце, «прызнання віны» не было нават і блізка. **І не магло быць, бо той, хто апынуўся тады за кратамі, пайшоў на «турэмны тэрмін» свядома (прабачце, пафас), згодна з асабістым сумленнем і гонарам.**

І яшчэ. Звяртаю ўвагу ўсіх чытачоў на тое, што ніхто з тых, хто апынуўся за кратамі, з гэтай нагоды асабіста ніякіх пачуццяў акрамя шчырай радасці не выказаў. «Маралізаваць» праблему пачалі толькі тыя, хто мае на гэты конт выключна ўмоўны досвед. Большасць з іх вельмі добра «ўпакавана» і жыве за межамі Беларусі.

Разважаць адтуль лягчэй за ўсё і, галоўнае, бяспечна...

## «Фамільная» назва

Шэсць гадоў таму Зміцер Дрозд пачаў вывучаць свой радавод і высветліў, што раней родная вёска яго бацькі называлася Дуды. Там ў 1892—1893 гадах набыў 53 дзесяціны зямлі Павел Дрозд. Імя яго бацькі было Алесь, і рускія чыноўнікі выкарыстоўвалі то Аляксандравіч, то Аляксеевіч. Такія ж «люфты» і з прозвішчам. Час ад часу Дрозд становіцца Драздоўскім.

У Паўла было тры сыны — Васіль, Раман і Рыгор і дачка Варвара. У кожнага з іх быў асобны дом і, як кажуць сёння, бізнес — лецішчы для мінчан. З часам Дуды ператварыліся ў Дразды, бо там жылі людзі выключна з такім прозвішчам. На мапах трыццатых гадоў XX стагоддзя назва вёскі ўжо была новай.

У 1930-ым годзе ўсіх траіх братоў Драздоў, якім было ўжо за 60 год (і жонкам таксама), «раскулачылі» і саслалі ў Архангельскую вобласць Расіі. Варвару « раскулачылі» «без высылкі» Усяго за паўгады (у 1931-ым) ад нязносных умоў памерлі Рыгор, Васіль і жонка Рамана. Толькі некаторыя з тых Драздоў вярнуліся паміраць на бацькаўшчыну. Сын Рыгора Раман, што збег з ссылкі на радзіму, у 1938 годзе быў расстраляны, як польскі шпіён.





«Галіне» Зміцера Дразда пашанцавала. Яго прадзед Канстанцін да 1930-га года ўжо ажаніўся на беднай дзяўчыне і жыў асобна. Савецкая ўлада яго чапаць не стала, але ўсё астатняе жыццё яго і дзяцей «гнабіла» за тое, што яны сваякі «ворагаў народа». Калі падчас Другой сусветнай вайны прыйшлі немцы, яны нават пачалі вяртаць частку маёмасці, бо лічылі Драздоў пацярпелымі ад бальшавікоў. І хаця ніякага калабаранства пры гэтым не было, саветы зноў іх судзілі. Зрабіць здраднікамі не маглі (ніякіх доказаў не было), таму высылалі як «сацыяльна-чуждых элементаў».

Цікава, што, калі Канстанцін Рыгоравіч памёр, Машэраў, які ўзначальваў тады КПБ і жыў у Драздах, прыслаў вянок, бо яны былі добра знаёмымі суседзямі. Машэраў быў простым чалавекам. З ім можна было без праблем загаварыць альбо схадзіць разам на рыбалку. Наконт новага жыхара Драздоў нешта падобнае нават уявіць немагчыма...

Зміцер Дрозд нарадзіўся ў 1973 годзе і больш за год паспеў пажыць у старой хаце на зямлі продкаў, а потым іх сям'я пераехала ў Мінск. У 1978 годзе з Драздоў выселілі і апошняга потомка Паўла Дразда.

Маці Зміцера Зоя Дзмітрыеўна родам з вёскі Весялоўка, якая яшчэ не так даўно месцілася на Камсамольскім возеры. Некалькі апошніх дамоў вёскі знеслі падчас знаёмага ўсім «благоустройства», а раней на тым месцы быў даволі моцны і вялікі калгас.

Хаця будучыя бацькі Зміцера і жылі недалёка адзін ад аднаго, пазнаёміліся на вядомых тады танцах у Чыжоўцы — на карчах.

Весялоўку пачалі зносіць раней Драздоў, і маладой сям'і далі кватэру ў Мінску.

А добраўпарадкаванне саміх Драздоў пачалося ў сярэдзіне семідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, калі там пачалі рабіць адпаведнае вадасховішча. Цікава, што «раскулачвалі» продкаў Зміцера за тое, што зараз называецца «непрацоўнымі прыбыткамі». Бальшавікам не спадабалася, што Дразды зарабляюць неблагія грошы «на лецішчах». Усе хаты раскулачаных канфіскавалі і перавезлі ў розныя месцы. Адну — старшыні калгаса, другую аддалі пад клуб піянерскага лагера, які месціўся на зямлі высланых «кулакоў». А потым у Драздоў з'явіліся больш жахлівыя суседзі — лецішча НКУС. Многія лічаць, што там было нешта накшталт Курапат... Дарэчы, побач фашысты зрабілі першы мінскі канцлагер «Дразды».

Зараз былой вёскі няма. Большая частка яе тэрыторыі (той, што некалі належала Драздам) агароджана — рэзідэнцыя прэзідэнта. У месцы, дзе жыве яго «абслуга», некалі ў адным маленькім доміку дажываў свой век Канстанцін Рыгоравіч, шасцёра яго дзяцей з сем'ямі і ўнукі. Сярод іх і будучы бацька Зміцера Міхаіл.



Міхаіл Уладзіміравіч Дрозд, на жаль, памёр роўна дваццаць год таму (на гэтую сумную гадавіну Зміцер нават не змог схадзіць на могілкі (ужо быў на «Валадарцы»).



Працаваў на заводзе лядоўняў, на тонкасуконным камбінаце слесарам, стаяў за станком. Як кажуць, у яго былі залатыя рукі. А маці працавала на Мінскім заводзе вылічальнай тэхнікі, потым у дзіцячым садку. Звычайная рабоча-сялянская сям'я.

Ёсць у Зміцера яшчэ малодшая на год сястра Наталля, якая з'яўляецца поварам высокай кваліфікацыі. У яе двое сыноў.



У двухпакаёвай кватэры, якую Дразды атрымалі амаль сорак гадоў таму, яны жывуць і па гэты дзень. Шэсць чалавек.

Зміцер Дрозд скончыў тую ж 132-ую школу (восем класаў), што і добра вядомая Святлана Завадская, муж якой «знік» у 2000 годзе. Вучыліся ў паралельных класах.

Школа была рускамоўная, і дзеці былых «сялянскіх» беларусаў, пад смех «гарадскіх», паспяшаліся пазбавіцца свайго беларускага вымаўлення, каб перастаць быць «калгаснікамі».

## Трэці этап

Першы жыццёвы выбар ён зрабіў за кампанію. Гэта пра паступленне ў тэхналагічны тэхнікум (цяпер такія ўстановы сталі называць каледжамі). У ім Зміцер атрымаў веды прафесійнага фатографа і нават браў удзел на ўстаноўчым з'ездзе адпаведнага саюза, а ў 1998 годзе ў мінскай галерэе «NOVA» адбылася яго персанальная выстава.

У фотагаліну Дрозд трапіў амаль выпадкова. Сябар Алесь Ставер, бацька якога працаваў фотакарэспандэнтам у розных мінскіх газетах, марыў абраць менавіта такі шлях. І яшчэ адзін «плюс». Тагачаснае «першае каханне» Зміцера таксама мела намер пайсці ў тэхналагічны на «дызайн адзення».

Так атрымалася, што дзяўчына туды так і не паступіла (не прайшла па конкурсу), а Зміцер з сябрам здзівілі выкладчыкаў сваімі ведамі па матэматыцы і атрымалі моцныя пяцёркі.

Пасля трох з паловай гадоў вучобы Зміцер Дрозд доўга працаваў у фірме «Кодак», чыя праявачная сетка моцна набірала абароты на абшарах Беларусі. Як і ў многіх іншых сферах, тое, чаму вучылі ў тэхнікуме, на практыцы аказалася «мінулым стагоддзем». Рэальныя тэхналогіі аказаліся зусім іншымі.

Па характару Зміцер такі, што яму вельмі хутка надакучвае рабіць адну і тую ж справу. Таму год-другі працаваў, на паўгады сыходзіў, потым вяртаўся зноў.

У працоўнай кніжцы чатыры запісы аб звальненні з «Кодака» і чатыры запісы аб прыняцці туды на работу. Кіраўніцтва фірмы рабіла гэта заўсёды з задавальненнем, бо ведала, што Зміцер Дрозд добры спецыяліст.



У прамежках ён працаваў у любімым піянерскім лагеры важатым альбо вандраваў па свеце. «Дзікуном» (адзін — заўвага аўтара) праехаў Крым і Каўказ, а потым Егіпет з Іарданіяй, аб чым напісаў успаміны «Мумія з беларускім пашпартам».

Так было з 1996 года па 2002.

Па рэкамендацыі аднаго са сваіх начальнікаў ён паехаў у Маскву зарабляць грошы, таксама ў «Кодак», дзе спачатку працаваў аператарам, потым — фотадызайнерам.

Паралельна вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, які скончыў у 2006 годзе.

Сваю біяграфію Зміцер умоўна дзеліць на тры этапы — вершы, фота і гісторыю. Вершы ён пачаў пісаць яшчэ ў 14 гадоў у школе (марыць выдаць кнігу — **заўвага аўтара**), потым займаўся фота, а затым было захапленне гісторыяй.

Праз сем гадоў працы ў Маскве (у 2009 годзе) ён вярнуўся ў Беларусь.

Яшчэ падчас вучобы на гістфаку захапіўся вывучэннем радавода сваёй сям'і. Ведае каля сотні сваіх непасрэдных продкаў (11 пакаленняў) — ажно да 1750 года.

Дарэчы, продкі Зміцера Дразда некалі таксама жылі каля рэчкі Свіслачы, вёска Зарэчча. Зараз гэта бераг Мінскага мора.

Калі праўда, што «рэклама — рухавік гандлю», то радавод прымушае вывучаць структуры архіваў, бібліятэк і г.д. Напрыклад, знаходзіш фота якога-небудзь прадзеда, а ў яго на грудзях вісіць нейкі значок. І чалавек пачынае шукаць усё, што мае дачыненне да гэтай тэмы. Тое ж самае адносна пагонаў, адзення, рэчаў, інтэр'ераў, старых фотаздымкаў... Людзі, якія гэтым займаюцца, становяцца спецыялістамі ў самых розных галінах. Яны вывучаюць Гісторыю праз гісторыю сваёй сям'і.



Па адукацыі Зміцер Дрозд гісторык-музеязнаўца. Можа быць, менавіта па гэтай прычыне ў яго такое захапленне збіральніцтвам. Ён збірае старажытныя фота. Тыя, што былі зроблены на тэрыторыі Беларусі да 1917 года, як у мясцовых фотаатэлье, так і зробленыя немцамі.

Падчас Першай міравой вайны нашы землі вельмі доўга знаходзіліся пад акупацыяй і нямецкія салдаты тут вельмі багата фатаграфавалі, бо на іх еўрапейскі погляд шмат што тут было экзотыкай. Якасць тых здымкаў вельмі-вельмі прыстойная. Часам нават немагчыма стрымаць здзіўленне ад таго, якія рэчы рабіліся сто гадоў таму. Многія з тых фота «выкладзены» ў інтэрнэце. Там іх Зміцер і знаходзіць. У планах Дразда выдаць фотаальбом беларускіх вёсак, якія знаходзіліся пад нямецкай акупацыяй 1915—1918 гадоў, а таксама каталог усіх дарэвалюцыйных фатографаў Беларусі.

Дарэчы, адна кніга ім ўжо зроблена.

Працу над кнігай «Землеўладальнікі Мінскай губерні 1861—1900» ён пачаў яшчэ ў Маскве. Прыходзіў з работы і да поўначы набіраў тэксты. А ў Мінску з адпаведная паперай з выдавецтва адразу пайшоў у архіў. Працаваў там каля года (расійскія заробкі дазвалялі). Кожны дзень — з 9.00 да 20.00. З розных дакументаў было зроблена больш як 20 тысяч выпісак.

300 асобнікаў Зміцер выдаў за свой кошт. Яны ўжо разышліся па ўсім свеце, а сама кніга атрымала вельмі добрыя водгукі ад прафесіяналаў і стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Пагадзіцеся, для нашага часу — не самая распаўсюджаная справа.

## Асэнсаваны выбар

Сям'я Драздоў, як некалі сказала на допыце ў НКУС адна з цётак Зміцера, заўсёды была прынцыпова антысавецкай па пераканнях. І гэта не вынік катаванняў — гэта канстатацыя факту. Зміцер не стаў камсамольцам, бо яму быў нецікавы «савецкі фармалізм», а бацьку калісьці і ўвогуле выключылі з піянераў.

Гены...

Палітыку Дразды заўсёды лічылі «брудным справай», і з часоў «раскулачвання» імкнуліся пра яе не гаварыць. Можа быць, менавіта па гэ-

тай прычыне, калі амаль усе аднакласнікі Зміцера захапляліся ідэямі БНФ, ён жыў як бы ў паралельным свеце — паэтычна-фатаграфічным.

Палітыка ўзнікла паступова. Калі сам Зміцер яшчэ ў 1994 годзе зразумеў, хто прыйшоў да ўлады, то яго маці тады галасавала за «ўсенародна абранага». І не толькі за сябе, а нават і за сына. Ніхто і не запытаўся пра яго пашпарт...

Апошнім часам яна кардынальна змяніла свае погляды. Адбылося гэта яшчэ да сумных «прыгодаў» сына. На апошніх выбарах галасавала супраць дзеючай улады (ніякай сынавай агітацыі не было), таму што жыць стала значна цяжэй.

Пасля загадкавага «самазабойства» Алега Бебеніна Зміцер Дрозд зразумеў, што ў нашай краіне трэба нешта тэрмінова рабіць, нельга знаходзіцца ўбаку і жыць па прынцыпу «толькі б не было вайны».

На сайце «Хартыі-97» Дрозд прачытаў пра запіс у ініцыятыўную групу Андрэя Саннікава і напісаў туды ліст. Неўзабаве яму патэлефанавалі. А 30 верасня 2010 года на станцыі метро «Пушкінская» Зміцер атрымаў адпаведнае пасведчанне і сабраў свае першыя подпісы. З гэтага моманту і пачаўся яго шлях у палітыку.

Цікавыя ўражанні тых часоў: каля 80% тых, хто выходзіць з метро, не цікавяцца палітычнай тэматыкай цалкам, астатнія 20 адсоткаў складаюць прыблізна ў аднолькавых прапорцыях апаненты беларускага рэжыму і тыя, хто яго пакуль падтрымлівае. Пры гэтым актыўнасць апошніх сёння ўжо не тая, якая была, скажам, пяць год таму.

Каля пікета Андрэя Саннікава часам стаялі чэргі з тых, хто хацеў падпісацца. Людзі прыязджалі нават з іншых гарадоў. Пра дзеючага кіраўніка краіны нічога падобнага не скажаш: каля яго пікета спынялася самае большае пяць-сем чалавек за дзень.

Акрамя гэтага Зміцеру Дразду было прыемна, што пра яго кандыдата ў прэзідэнты гучала так многа добрых слоў. Мінск невыпадкова называюць вялікай вёскай: нехта быў знаёмы з бацькамі Саннікава, нехта ведае блізкіх яго жонкі і г.д.

Таму цалкам зразумела, што лічбы чарговай «элегантнай перамогі», агучаныя 19 снежня 2010 года на плошчы Незалежнасці, мякка кажучы, абурылі Зміцера Дразда. Ён дакладна ведаў, што ўсё не так.

Гэта і стала прычынай эмацыйнага парыву. Дарэчы, шкло ў Доме ўрада, як паказаў відэазапіс, ён не разбіваў (яно ўжо было кімсьці пабітае) і ніякі «ўрон дзяржаве» нанесці не імкнуўся. Біў па нейкай дошцы, якая ад гэтага не толькі не пацярпела, але нават не была падрапанай. І тым не менш — «тры гады», плюс традыцыйныя «суткі».





Першы раз яго арыштавалі на плошчы Незалежнасці, калі амапаўцы пачалі сваю сумна вядомую «зачыстку». Пачуўшы грозны грукат гумовых дручкаў аб шчыты, Зміцер прынцыпова не стаў нікуды бегчы. І апынуўся ... на Акрэсціна.

З двух бакоў доўгага калідора тварам да сцяны стаялі людзі. «Набралі» так шмат, што не маглі ўсіх «размясціць». Некаторыя па 3—4 гадзіны сядзелі на марозе ў аўтазаках.

Раніцай павезлі ў суд. Там высветлілася, што Зміцера Дразда затрымлівалі тры міліцыянты. Абсурд сітуацыі заключаўся ў адсутнасці такога факта ўвогуле. Ніякага затрымання тады не было. Людзей банальна (як быдла — **заўвага аўтара**) заганялі гумовымі дручкамі ў аўтазакі.

Нікога ў судзе гэтыя абставіны не засмуцілі. Хто пагаджаўся з тым, што на мітынг прыйшоў асэнсавана, атрымліваў 10 сутак. А тым, хто казаў пра тое, што апынуўся там выпадкова, — 15. У тым ліку і тым, хто выпадкова ў гэтым раёне «піў піва». Як кажуць, і смех і грэх...

Зміцер Дрозд быў у першай катэгорыі.

## Вымушанае «памілаванне»

Праз дзесяць сутак жодзінскага СІЗА Зміцер выйшаў на волю, але «прыгоды» на гэтым не скончыліся. 1-га лютага 2011 года за ім «прыехалі». Следчы паказаў відэа, дзе чалавек, падобны да яго, два разы

адмахнуўся ад назойлівага аператара ў цывільным, які падышоў да яго зусім блізка. Ідэнтыфікаваць гэтага чалавека, як сябе, Дрозд адмовіўся. Маўляў, «вельмі падобны, але не я». У «глухім адказе» ён быў да 27 красавіка, калі пачаўся суд.

Не буду пераказваць усе падрабязнасці хады «самага гуманнага і справядлівага», адзначу толькі, што амаль за тры месяцы, якія прайшлі пасля арышту, нічога новага следчыя (нягледзячы на вобыск у кватэры) «не нарылі».

Да «справы» следчыя прыклалі скрыню ад мегафона. Ніхто пры гэтым не звярнуў увагу, што яна зусім іншай канструкцыі і значна менш той, што зафіксавала відэа...

Канфіскавалі і каля чатырох сотняў абсалютна легальных агітацыйных брашур Андрэя Саннікава. На адной Зміцер Дрозд стаіць побач з кандыдатам у прэзідэнты. Мабыць, нехта хацеў тут «убачыць» нейкую «падпольную сувязь». Не атрымалася.

Здарыўся сапраўдны казус. На судзе хацелі паказаць той жа самы відэаролік, які быў на першым допыце, бо іншага не знайшлі, але ён, як кажуць камп'ютаршчыкі, не адкрыўся. Магчыма, беларускай Фемідзе дапамагае цэлы натоўп казачных гары потэраў, аднак у прысудзе напісана, што пашкоджаны файл прагледзелі і ён сведчыць пра віну Зміцера...

«Том» яго справы складаецца з 37 старонак. Пра Зміцера Дразда там толькі тры радкі. Атрымліваецца, за кожны з іх «далі» па году.

На судзе яму нават было няёмка за тых, хто сведчыў супраць. Асабліва наконт «фізічных пашкоджанняў» двухметровых бамбіз, якія зводзіліся альбо да «траўмы ягадзіцы», альбо да параненага пальца. Дарэчы, апошняя — самая распаўсюджаная траўма. Калі «касманаўты» малоцяць натоўп, яны даволі часта пападаюць гумовымі дручкамі па руках адзін аднаму. Адсюль — «удар тупым прадметам».

Пасля вынясення прысуду Зміцеру Дразду дазволілі першае спатканне з маці — паўгадзіны тэлефоннай размовы «праз шкло». Другое адбылося ў Бабруйскай калоніі, якая пачалася з месячнага каранціну. Дарэчы, менавіта там Зміцер пазнаёміўся з другім «палітычным» — Сяргеем Казаковым.

На работу Зміцера Дразда накіравалі літаральна праз тры дні пасля сканчэння каранціну (у іншых такі тэрмін значна даўжэйшы). Спачатку



ён быў грузчыкам (дакладней, сартыроўшчыкам, які пераносіў масіўныя бярвенні), а потым збіваў драўляныя паддоны.

Дзённая норма складае дзесяць адзінак. На першы погляд гэта няшмат, але, каб зрабіць адзін, трэба не толькі адстаяць шматчасовую чаргу за дошкамі, але і забіць каля пяцідзесяці цвікоў. Малаток, які яму выдалі, важыў кілаграм. Пад канец змены рука «гуляла», як хацела, таму чалавек, які чакаў чарговы паддон, гледзячы на пакуты новага цесляра, прапанаваў сваю дапамогу: давай я заб'ю... Без адпаведнай звычкі — цяжка.

За кратамі «сядзяць» розныя людзі, але адзін з іх заслугоўвае асобнага аповеду, бо вельмі красамоўна «дэманструе» беларускую рэчаіснасць. Звычайны іранец паверыў «казкам» пра «беларускі рай», «роўныя ўмовы» і прыехаў паступаць у Мінскі медыцынскі інстытут, які пазней стаў універсітэтам. Паступіць на «бюджэт» не змог, таму што ўсе месцы там былі ўжо занятыя «блатнымі».

Па прычыне таго, што ён не быў сваяком персідскіх шэйхаў, прыйшлося два гады працаваць. Гэта дазволіла пайсці «на платнае», праўда, ужо не ў Мінск, а ў Гародню.

Пасля вучобы 10 год працаваў у звычайнай паліклініцы хірургам, стаў загадчыкам аддзялення.У 2008—2009 гадах яго прызналі лепшым хірургам беларускай сталіцы...

Усё сваё жыццё чалавек жыў у інтэрнаце, атрымліваў мізэрныя заробкі. За ім сачылі, праслухоўвалі тэлефон паўгады, самі з трэцяй спробы справакавалі хабар і налічылі аж на мільён «шкоды дзяржаве»... Не, не даляраў, а беларускіх рублёў. Нягледзячы на тое што гэта сума была вернутая дзяржаве падчас суда — тры гады.

Спецыяліста з залатымі рукамі, да якога прыязджалі хворыя з усяго свету, у калоніі паставілі... збіваць скрыні. І нікога не засмуціла тое, што гэта можа цалкам загубіць прафесіяналізм.

У турэмнай санчасці для спецыяліста сусветнага ўзроўню месца не знайшлося...

«Кантынгент» калоніі складаецца з розных груповак: людзі аб'ядноўваюцца па брыгадах, інтарэсах, узросту, месцу жыхарства, нацыяльнасцям, крымінальным артыкулам і г.д. Аднаму выжыць вельмі цяжка. Шмат тых, хто «сядзіць» за «эканамічныя» злачынствы, але самая значная — «малалеткі», якія спрабуюць «касіць» пад бывалых «зэ-

каў». Фізічная моц — адзінае, да чаго яны прыслухоўваюцца. Калі ты можаш за сябе пастаяць, усё будзе нармальна. Калі не...

За месяц максімальна можна зарабіць пяць тысяч, але і яны, бывае, «ператвараюцца» ў дзве. За такія «грошы» можна купіць адну пачку сігарэт, а каб адправіць «касатку», то бок касацыйную скаргу, трэба 35 тысяч. Некаторыя (нават невінаватыя) менавіта па гэтай прычыне «сядзяць» «ад званка да званка». На такія грошы немагчыма купіць нават туалетную паперу альбо мыла, не кажучы пра такі роскаш, як зубная паста.

Прапанова наконт «памілавання» была абсалютна нечаканай, таму што ў судзе Дрозд не прызнаў сваёй віны.

У адну з субот Зміцера Дразда выклікалі ў штаб, дзе з ім сталі размаўляць «па душам». Маёр з «зоны» і нейкі «цывільны» пачалі расказваць, як цудоўна жыць у нашай краіне. Дрозд прытрымліваўся супрацьлеглай думкі. Некалькі гадзін пайшло на безвыніковыя пошукі агульнага «назоўніка», пасля чаго «цывільны» нечакана загаварыў пра магчымасць убачыць хворую маці і вярнуцца да творчасці. Ён і прапанаваў нешта «напісаць». Улічваючы тое, што Зміцер сваёй віны не прызнаў, нашлі кампраміс, які абмежаваўся абстрактным «пакаяннем». Звычайна на такія рэчы ідуць цэлыя месяцы, а тут хваціла некалькіх дзён. Мабыць, моцна спяшаліся.

11 жніўня 2011 года беларускае тэлебачанне паведаміла пра «прэзідэнцкую літасць».

*14.09.11*

# АРХЕАЛОГІЯ СУМЛЕННЯ



**Даведка:** Алесь Кіркевіч быў затрыманы за ўдзел у акцыі салідарнасці з палітвязнямі 24 снежня пад сценамі ізалятара на Акрэсціна. Асуджаны на 10 сутак. На волю выйшаў 3 студзеня, праз 3 дні быў асуджаны на штраф за арганізацыю перадвыбарчай сустрэчы кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча. Арыштаваны 28 студзеня пасляператрусу ў яго на кватэры і допыту ў Гродзенскім КДБ па справе аб масавых беспарадках. Адвезены ў Мінск і змешчаны ў СІЗА КДБ. Было прад'яўлена абвінавачванне паводле ч.2 арт.293 Крымінальнага кодэкса — актыўны ўдзел у масавых беспарадках. Асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі.

Люблю, калі маю работу выконваюць іншыя. Асабліва, якасна. Так, як у гэты раз. Мне нават не прыйшлося, як кажуць у падобных выпадках, «расстаўляць абзацы», бо аўтар сам гэта зрабіў амаль бездакорна. І ўвогуле, чарговы раз пераконваюся, што існуючай уладзе, мабыць, не патрэбны разумныя людзі...

## Шлях у жыццё

*Нарадзіўся я ў Горадні светлым восеньскім днём 9 лістапада 1989 года, акурат у дзень падзення Берлінскай Сцяны. А з радзільнага дома крыху пазней мяне першы раз у жыцці забіраў міліцэйскі ўазік: мой дзядзька тады быў падпалкоўнікам і працаваў ва УУС. Скажыце пасля гэтага, што жыццё не перапоўнена сімваламі.*

*Маці мая — выкладчыца. Тады яшчэ ў хіміка-тэхналагічным тэхнікуме выкладала і гісторыю, і эканоміку, і філасофію — увесь спектр*



*грамадскіх дысцыплінаў, карацей. Вельмі цікава час-почас сустракаць сярод апазіцыянераў Горадні і Мінска яе былых вучняў; значыць, семя ўсё ж такі прарасло.*

*З дзяцінства памятаю нумары «Народнай волі», якія заўжды ляжалі на кухні і ў якія я перыядычна заглядваў: з іх гучалі прозвішчы Пазняка, Ганчарыка, Домаша, Ганчара і Захаранкі...*

*Усё гэта адкладалася, і разам з шыкоўнай дзедаўскай бібліятэкай паўплывала на погляды, на станаўленне арыенціраў у жыцці.*

*Наогул дзедаўская бібліятэка, як і сам дзед, у гонар якога мяне назвалі, сыгралі немалую ролю ў маім жыцці. Дзеда я не магу памятаць, бо памёр ён за дзесяць год да майго нараджэння, але вобраз дзеда-журналіста, краязнаўца, намесніка дырэктара гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея, як кажуць, «жыў у вяках».*

*Дзед і стаўся пэўнай планкай, ніжэй якой нельга было нагнуцца, пра якую мне не давалі забыцца ні ў ліцэі, ні ва ўніверсітэце, ні, канешне, у сямейным коле. Сам ён калісьці пайшоў на фронт дабравольцам, хоць меў «бронь» па зроку, служыў у авіяцыі, пасля працаваў у франтавых газетах.*

*Аляксандр Іванавіч паходзіў з сям'і святара, які памёр яшчэ да вайны. Старэйшых ягоных братоў лёс не пашкадаваў: адзін быў рэпрэсаваны ў 1937-м, другі змагаўся з савецкімі партызанамі на Украіне і загінуў у 1944-м. Калі вярнуўся з фронту, дзед пераехаў у Горадню, дзе і сустрэў сваё каханне — былую партызанку Ніну з Вушаччыны, якая сталася маёй бабуляй. Вось такая гісторыя краіны ў асобна ўзятай сям'і.*



*Археолагам я марыў стаць з самага дзяцінства, калі мы з хлопцамі ў двары арганізоўвалі некалькі «раскопаў», якія пасля давялося закідваць раз'юшаным мясцовым бабулькам. Яшчэ да паступлення ў ліцэй я пачаў хадзіць у гурток да Алеся Пятровіча Госцева, разам з якім мы арганізоўвалі музей, хадзілі ў экспедыцыі, выцягвалі з-пад каўша экскаватараў гістарычныя каштоўнасці падчас незаконных земляных працаў у цэнтры горада.*

*Наогул першы ліцэй, які ў свой час ствараўся не без удзелу Мілінкевіча, заўжды лічыўся ў Горадні апірышчам вольнадумства і любой моладзевай актыўнасці. Падчас выбараў-2006 на плошчу Леніна ў Горадні стала выходзілі менавіта ліцэісты...*

*Наступным маім прыпынкам стаў гарадзенскі гістфак, куды я паступіў у 2007 годзе. Першы год хадзіў з шырока адкрытымі вачыма:*



*усё падавалася цікавым, займальным, але ўжо тады адчувалася пэўная атмасфера няшчырасці. Насамрэч, усё гэта было непатрэбна большай часткі як выкладчыкаў, так і студэнтаў.*

*Канешне, прыемна ўзгадваць і розныя прышпілы, і археалагічную практыку, і няўмелае каханне, але абсурднасць самой сістэмы і канкрэтнай яе ўстановы прымусіла пакінуць сцены Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта і вырушыць шляхам падпрацовак, гандлю антыкварыятам, паўгадавога прыпынку на чыгуначнай станцыі Аўльс, дзе давялося праводзіць позіркам адыходзячыя цягнікі...*

*Пакуль нарэшце два маіх сябра абсалютна паралельна і незалежна адзін ад аднаго не запрасілі мяне ў БХД, якая акурат дамагалася сваёй рэгістрацыі на золку 2009 года.*

*Да БХД адразу мы ставіліся з пэўнай доляй гумару, падсмейваючыся з пэўных функцыянераў і шляхоў дасягнення вялікай мэты, якую*

*мы аднагалосна ўпадабалі — Хрысціянская Нацыянальная Беларусь. Упэўнены, што ў гарадзенцаў ёсць вядомы адсотак «сепаратызму» ў крыві, таму з самага пачатку мы вырашылі трошкі адасобіцца і гнуць сваю лінію ў партыі з дапамогай ініцыятывы «Хрысціянская Абарона».*

*Былі тут і расцяжкі са шпалераў на радзільным доме, і ўлёткі супраць «тэлезамбавання» насельніцтва і эканамічнага крызісу, і свая аднайменная газета, і першыя затрыманні, і першы пікет з мэтай сарваць канцэрт Барыса Маісеева...*

*Тады я ўпершыню апынуўся 25-га сакавіка ў Мінску, дзе ўбачыў не «кулуарнага», а «вулічнага» Паўла Севярынца, які разрываўся паміж хрысціянскімі дэмакратамі і маладафронтаўцамі.*

*У хуткім часе мяне абралі старшынёй гарадзенскага аддзялення БХД, але пасада была безумоўна «не мая»: 19-гадоваму хлапчуку цяжка кіраваць сталымі дзядзькамі і сямейнымі жанчынамі. Патрэбная была менавіта МОЛАДЗЬ.*

*Вось і паслаў лёс Зміцера Дашкевіча, з якім упершыню сустрэліся на вакзале ў Горадні. Спачатку шмат спрачаліся, але ўсё ж такі знайшлі паразуменне і агульныя інтарэсы — перш за ўсё хрысціянскія.*

*На пачатку 2010 года я прэзентаваў у Мінску гарадзенскі аддзел Маладога Фронту, а вясной быў абраны намеснікам старшыні МФ. Тут адразу закруцілася: улёткі, сцягі, графіці, сайт dzida.org, вечарыны з дакладамі і нязменнай гітарай, выезд на мінскія акцыі, начныя агітрэйды па раённых цэнтрах.*

*Памятаю сваю першую «адміністратыўку»: быў у нас такі губернатар Саўчанка, які, пэўна, бачыў у сабе рэінкарнацыю Нерона, бо ўвесь час імкнуўся знішчыць старую Горадню, пабудаваўшы нанова (канешне ж, на манер аграгарадка); дык вось, ён стаў зоркай чарговага нумара нашай газеты, які падчас распаўсюджання на Савецкай вуліцы трапіў у рукі кіраўніку ідэалагічнага аддзелу аблвыканкаму — той вядома выклікаў міліцыю, уазік, аўтаматы, пратакол... але выява карыкатурнага Саўчанкі, які на балонах ляціць над горадам, хутка абыйшла ўвесь інтэрнэт.*

*Ніколі не забуду самаадданых дзяўчат, якія цэлымі днямі выстойвалі на цэнтральнай вуліцы, дамагаючыся ад мінакоў (нават у грамадзян Конга) подпісу ў падтрымку беларускай мовы. Не забуду так-*



*сама начнога зімовага расклейвання ўлётак і графіці-рэйдаў, калі «замярзалі» балончыкі, а клей ПВА ператвараўся ў іней, закрываючы профіль палітвязня Арцёма Дубскага.*

*Знаходзячыся троху на ўзбочыне палітычнага жыцця, Горадня ўсё ж такі мела багата плюсаў. Пакуль менчукі збіваліся ў блокі і кааліцыі, каб пасля віртуозна разваліцца, абвінавацціўшы ў «гэбізме», крадзяжы ці празмернай амбіцыйнасці адзін аднаго, мы рабілі сваю справу, не даючы камітэту ды ментам забыцца пра нашае існаванне.*

*Калі кампанія «Гавары праўду!» збірала подпісы за наданне вуліцы Парыжскай камуны імя Быкава, у чаканні, вядома, адмовы з гарвыканкаму мы на дзень нараджэння пісьменніка наўпрост перайменавалі ўсе дамы на вуліцы з дапамогай балончыкаў з фарбай і трафарэтаў. Раніцай вуліца прачнулася ўжо пад іншым назовам.*

*Калі можна перайменаваць вуліцу, дык чаму нельга перайменаваць помнік? Так у Горадні з'явіўся помнік Станіславу Булак-Балаховічу, ён жа помнік Чапаеву Васілю Іванавічу. Шыльдачка з залатымі літарамі правісела некалькі дзён, пэўна, правісела б і больш, каб не «Наша Ніва» і рэшта апазіцыйных сайтаў...*

*Прагучалі тады нават галасы аб непавазе, «вандалізме», але мы выходзілі і выходзім з той пазіцыі, што ўсім мілы не будзеш, а ў сваёй Заходняй Беларусі мы ўжо неяк самі, без менчукоў разбярэмся.*

*Наогул я вельмі цаню свой рэгіён і тую свабоду, якая была ў тыя часы і, дзякуй Богу, ёсць зараз: свабоду ад грантаў, дыктату спонсараў, унутраных спрэчак і валтузні, свабоду простых чалавечых адносінаў, калі камусьці нешта трэба, ён прыходзіць і бярэ, калі мне кудысьці трэба, я тэлефаную і кажу: «Паехалі!»*

## Палітычная дамінанта

*Канешне, родныя не былі ў захапленні ад рашэння «адкласці археалогію», таму прыходзілася доўга тлумачыцца, карацей, трымаць аблогу. Разважаючы з пазіцыяў сённяшняга дня, канкрэтна аб рашэнні пакінуць вучобу не шкадую: так ці інакш, але хутчэй за ўсё са скандалам з гістфаку я ўсё ж такі вылецеў бы. А тады ў 2008-м усё яшчэ было па-іншаму: дэкан угаворваў застацца, абяцаў заплюшчыць вочы на пропускі і г.д.*

*А чаму ўсё ж такі «палітыка»? Пэўна таму, што яна ўтрымлівае ў сабе як творчы і трохі авантурны складнік, так і момант маралі, бо ўсім як заўжды ўсё зразумела са становішчам у краіне, толькі ахвочых нешта з гэтым зрабіць неяк не вельмі багата. Дык нехта ж павінен гэтым займацца! Таму «навуку» я лічыў чымсьці не зусім своечасовым, вось пераможам — тады і разбярэмся. Наколькі я памятаю, пакаленне КПЗБоўцаў, якія пасля адсідак у польскіх турмах паспелі яшчэ і паваяваць, часам пачыналі атрымліваць адукацыю, калі мелі ўжо за трыццатнік. І гэтак бывае.*

## Жонка

*З Надзеяй мы пазнаёміліся на адным з кінапраглядаў у нейкім апазіцыйным офісе напрыканцы 2008 года. Яна была УЖО расчараваная ў апазіцыі, я быў ЯШЧЭ расчараваны...*

*Самым цікавым было тое, што нашыя дзяды добра ведалі адзін аднаго, нават сябравалі — старыя інтэлігенцкія сем'і — журналіст і прафесар, выкладчык універсітэта. Надзея жыла ў дзедаўскай кватэры з высачэзнымі, як мне падавалася, столямі, скрыпучымі палавіцамі і эркерам на вуліцу Леніна.*





*Не хацелася б канчаткова выносіць усе сямейныя сакрэты на публіку: нешта яшчэ мае застацца для расповедаў дзецям...*

*У рэшце рэшт увесну яна паступіла і з'ехала вучыцца ў Польшчу па праграме Каліноўскага (магчыма, менавіта з гэтае пары ў ва мне пасяліўся схаваны недавер да польскіх адукацыйных праграмаў).*

*Наступным разам сустрэліся мы ажно ў жніўні 2010-га. У мяне была іншая дзяўчына, Надзея ж працягвала вучыцца ў Любліне, але, пэўна, Божы провід узяў сваё і хутка мы былі зноўку разам, услых падумваючы аб вяселлі.*

*«Кіркевіч, калі ты сапсуеш мне калядныя вакацыі, будзеш мыць посуд усё жыццё!» — казала яна. І так у рэшце рэшт мусіла стацца (посуд пакуль нязменна мыю я): Плошча, разгон, яе суткі, мае суткі (якія схапіў ужо пасля Плошчы), чарговы мой суд у Горадні (за перадвыбарчы марш Статкевіча), яе допыт у КДБ, і... па дарозе з допыту да хаты мы рашыліся зайсці у ЗАГС і за пару хвілін да закрыцця напісаць заяву на роспіс — на 22 студзеня (напярэдадні была пастаўлена ўмова: калі за марш Статкевіча мне не дадуць суткі, адразу ідзем падаваць заяўку ў ЗАГС). І вось, значыцца, правёў я Надзею дахаты, вяртаюся да сябе... а перад вачыма праязджаюць два аўтазакі: жыццё такі перапоўнена сімваламі.*

*...Калі, седзячы ў «амерыканцы», я даведаўся, што маю жонку разам з сяброўкай затрымлівалі халоднай зімовай ноччу за расклейванне ўлётак «Свабоду Кіркевічу!», я ў чарговы раз пераканаўся, што зрабіў адзіны правільны выбар. Наогул, рашэнне аб шлюбе, якое камусьці падалося занадта паспешлівым, было ўсё ж такі прадыктаванае пэўным прадчуваннем «неспакойных часоў», перад якімі лепш залатвіць усе свае справы, ну і, канешне ж, элементарнай хрысціянскай прагай жыцця ў законных адносінах. Як вядома, у «амерыканку» палітычным прыходзілі лісты выключна ад бліжэйшых родных. Як жа прыемна было атрымліваць адразу па пяць лістоў акурат з дома з эркерам і скрыпучымі палавіцамі і ключавым словам «Надзея» на капэрце.*

*«Амерыканка» дужа цікавае і незвычайнае месца, яшчэ больш «дзіўным» яно стала падчас знаходжання там палітычных зняволеных. Гэта ўсяго 18 камераў у цэнтры Мінска, дзе кожны твой крок фіксуе відэакамера; гэта кантралёры, якім у калідоры забаронена*

*называць нават тваё прозвішча, каб раптам не пачуў хто з суседняй камеры; гэта жорсткі кантроль ліставання і афіцыйныя газеты, якія час-почас прыходзяць з выразанымі старонкамі; гэта прыбіральня з двума дзіркамі, куды ўсю камеру (3—6 чалавек) водзяць два разы на дзень і могуць для забавы даць... 2 хвіліны на «ўсё пра ўсё»...*

*Пра нашых «сяброў» у масках, якіх, мажліва, справядліва вязні адзінагалосна называлі «гоблінамі», і іх дзеянні дастаткова распавёў у свой час Міхалевіч ды і рэшта экс-вязняў СІЗА КДБ, таму засяроджвацца на гэтым не буду. Спадзяюся, што зараз ужо нешта змянілася, а прысутнасць «палітычных» так і засталася своеасаблівым пошугам маланкі на небасхіле жыцця тых, хто затрымаўся ў тых мурах даўжэй, чым мы.*

*У параўнанні з «амерыканкай», «Валадарка» канешне падалася курортам: там твая асоба нікога не цікавіла, адзін кантралёр-»дахадзяга» мог без лішняй боязі весці па калідорах дваццаць чалавек у лазню, а пра «рукі за спіну!» можна было наогул забыцца...*

*Але ўсё ж такі галоўным чыннікам і ў СІЗА КДБ, і на Валадарцы, і ў лагеры заставаліся ЛЮДЗІ, тыя, з кім табе праводзіць 24 гадзіны ў суткі, ламаць хлеб, разам радавацца і часам пакутаваць. Так, у «амерыканцы» быў прэсінг, але людзі былі цудоўнымі — інвестары, палкоўнікі, інтэлігенцыя (колер грамадства, быццам у сталінскія часы). Большасць з іх так ці інакш у пэўны час перакрочыла дарогу Камітэту, што ўжо было прыемна. Там усе мы «былі спіной да спіны» — цяжкасці гуртавалі.*

*На Валадарцы апроч камерсантаў сядзела багата наркаманаў, крадуноў, «казла-бандытаў» з правінцыі. Там кожны быў сам за сябе. На зоне ўсе былі супраць усіх...*

*Паняцці, якія калісьці былі створаны як супрацьвага навязанаму адміністрацыяй рэгламенту і мусілі сцерагчы справядлівасць і элементарны чалавечы парадак, вельмі часта прафанаваліся, размываліся, перакручваліся зэкамі роўна так жа, як дзяржава перакручвала Канстытуцыю і Крымінальны кодэкс.*

*Наваполацкая зона, «дзясятка» (ПК №10), наогул лічыцца адной з самых «чырвоных» на Беларусі, то бок усімі справамі кіравала адміністрацыя, у тым ліку праз сваіх «шасцёрак», як бы яны сябе не пазіцыянавалі. Лічыцца, што «чорных» зонаў, дзе б кіравала «братва», на Беларусі ўжо не засталося, бліжэйшыя — у Расеі. Што ж, гэта таксама паказчык: нават «на зоне» ў Беларусі «ментаўская ідэя» перамагла чалавечую самаарганізацыю і шырокі супраціў... Вельмі сімвалічна, на мой погляд.*



*«У турмах і на зонах насамрэч знаходзяцца тыя самыя людзі, што і на волі. Наўпрост там бачна, хто ёсць хто, а на волі ты можаш жыць і не заўважаць гэтага,» — так мне сказаў адзін бывалы зэк яшчэ пару год таму. Там я пераканаўся ў абсалютнай слушнасці гэтай думкі. З той папраўкай толькі, што крытычныя абставіны маюць асаблівасць стымуляваць як лепшае, так і горшае ў людзях... Нягледзячы на канфлікты і непаразуменні, я дзякую Богу за тое, што на гэтым шляху давялося сустрэць і вельмі файных людзей, якіх наўрад ці калісьці забуду (хай некаторыя з іх пражылі большую частку жыцця згодна «вараўской ідэі»).*

*Трымацца і не скатвацца ў дэпрэсію дапамагаў, безумоўна, Госпад, Біблія, жывая малітва штодня. Заўважыў, што тыя, хто там таксама маліўся і верыў, часцей за ўсё трымаліся значна лепш за рэшту. Дапамагалі ідэя і вера ў слушнасць нашай справы, вера ў перамогу, узгадкі пра вопыт адсідак іншых нацыяналістаў — Зміцера Дашкевіча, Славаміра Адамовіча, Вадзіма Кабанчука. Дапамагалі лісты ад двух самых любімых жанчынаў, якія могуць быць у кожнага мужчыны: ад жонкі і маці; а ў іх магло быць усяго толькі два неабходныя словы — «любім» і «чакаем».*

*Ад першай прапановы памілавання я наадрэз адмовіўся. Напісаў адмову ў пісьмовай форме на імя кіраўніка ДВП па Віцебскай вобласці. З гэтай паперкай мажны дзядзька, які гэтае памілаванне прапанаваў, і паехаў зваротна ў Мінск.*

*Пачалася гульня з рознымі варыянтамі. Сярод іх былі даволі экзатычныя. Напрыклад, я пішу на памілаванне, аб гэтым ніхто не ведае, мяне адпускаюць з тым, каб я тэрмінова выехаў за мяжу. Такім чынам для публікі я «захоўваў годнасць», але з'язджаў і быў за гульнёй у самой Беларусі.*

*У рэшце рэшт, узважыўшы сітуацыю, я пагадзіўся напісаць прашэнне. Рашэнне гэтае было няпростым, але, як мне тады падавалася, слушным у дачыненні да арганізацыі, якая была фактычна абяскроўленая рэпрэсіямі, і сітуацыі ў цэлым. Сам факт знаходжан-*

ня палітзняволеных за кратамі не паспрыяў абуджэнню нацыянальнага руху, а міжнароднымі структурамі выкарыстоўваўся ўсё адно ў пэўных межах (усё, што Еўропа магла зрабіць, яна ўжо зрабіла): такім чынам «халодная вайна» магла цягнуцца яшчэ бясконца доўга...

Наўрад ці я сёння зрабіў бы нешта інакш, бо ў прынцыпе ў жыцці стараюся не мысліць падобнымі катэгорыямі датычна ўжо нязменных падзеяў. Калі ты ведаеш з дакладнасцю, як пражывеш заўтрашні дзень, ён наўпрост перастае быць цікавым, ці не так? Як кажуць мусульмане, «усё, што сталася, мелася стацца, усё, чаго не сталася, і не магло адбыцца...» За ўсё дзякую Богу!

## Погляд у будучыню

Пытанне «свабоды» занадта глыбока сягае філасофскіх нетраў (а мажліва, занадта высока — як каму падабаецца), каб выліваць яго зараз на старонкі майго сціплага расповеду. У любым выпадку гэта катэгорыя нематэрыяльная, таму не вымяраецца «рэжымамі», «кантролямі», загадамі Прэзідэнта, дзяржаўнымі межамі ці калючым дротам на турэмных сценах. Калі верыш у Бога-збаўцу, а смерць вучышся ўспрымаць як «вяртанне», цяжка сказаць пра сябе, што я «несвабодны чалавек». Я сябе такім асабіста не лічу. Наогул, гэта паняцце вельмі асабістае: сваю свабоду ці несвабоду чалавек носіць у сэрцы, чалавек яе гартуе, заслугоўвае.

Таму і змагацца лічу зараз вартым у першую чаргу за свабоду ў сэрцах людзей, якія паламалі свой страх, зрабілі крок наперад, пераступілі праз «стадны інстынкт» — адзіная мажлівая рэвалюцыя робіцца менавіта там, у сэрцы. «Вуліца» можа быць толькі вынікам, а прыгожая змена сцяга, герба і прэзідэнта разам з імі сама па сабе нічога не каштуе.

Упэўнены, што беларусам Лукашэнка пасланы Богам як выпрабаванне, як выбар: змагайся альбо прыслужвай яму — мый кубак пасля гарбаты, палашчы бялізну, сцялі ложак... Але як нас назваць, калі мы абярэм іншае? Таму Беларусь і не ўратуе снайпер — лёсавызначальная куля мае патрапіць не ў адно, а ў дзесяць мільёнаў сэрцаў, запаліць іх, каб сітуацыя ў рэшце рэшт змянілася.





Цяжка нешта раіць апазіцыі, бо ўпэўнены, што справа гэта марная — кожны ўсё адно зробіць па-свойму: нехта заробіць грошы, нехта сядзе ў турму, нехта расчаруецца ва ўсім і з'едзе ў Швецыю... Таму лепш рабіць усё самому для свайго рэгіёна, свайго горада. «Сепаратысцкія» праекты, на мой погляд, пакуль паказваюць сябе лепш за якія іншыя. Глабальныя пафасныя планы і кампаніі, мажліва, застануцца ў гісторыі (у якасці пары ўлётак у архіве КДБ), кропкавае змаганне, прынамсі, мае шанец застацца ў памяці людзей.

На ўсялякі выпадак некалькі парадаў усё ж такі выкажу:

1. Зразумець, што усе свае праблемы вырашым толькі мы самі, а не Брусэль ці Вашынгтон. Камічна выглядаюць палітыкі, якія больш спадзяюцца на польскі ці нямецкі народ, чым на беларусаў, якімі б яны ні былі. Гэта тычыцца як грашовых пытанняў, так і палітычных праграмаў.

2. Вярнуцца «ў масы» — працаваць «па гарызанталі» больш, чым «па вертыкалі» — вяртаць людзям заробкі, адбіваць будынкі, якія дзяржава хоча знесці, аказваць юрыдычную дапамогу студэнтам, пенсіянерам, інвалідам. Гэта нашмат больш варта, чым рэйтынгі пазнавальнасці, брэндынг ці колькасць узгадванняў у СМІ, якія толькі мы самі пасля і чытаем.

3. Меркаваць аб канкрэтных палітыках па іх учынках, а не па наяўнасці быццам «расейскіх грошай», плямах у біяграфіі, варожых паклёпах. Калі чалавек стабільна ходзіць на суды да маіх хлопцаў, дае

*грошы на мерапрыемствы ці на падтрымку сем'яў пацярпелых са сваёй кішэні, дамаўляецца са СМІ, калі чыюсьці кватэру абклалі «людзі ў штацкім», у гэтым выпадку мяне не цікавіць, на якой машыне ён ездзіць ці на якой мове размаўляюць ягоныя сябры. Не трэба кідаць адзін аднаго — вось і ўсё. Як толькі мы навучымся гэтаму, дык атрымаем ужо зусім іншую краіну.*

*4. Кожную справу трэба пачынаць з Богам і малітвай.*

*Усю сваю асабістую будучыню я аддаю на літасць Божую. Дзе б я ні быў, чым бы я ні займаўся, хацелася б быць хоць троху карысным Яму, а заадно Ягонай Царкве і гэтаму Народу.*

*17.10.11*

# «БУРАК» СВАБОДЫ



**Даведка:** Алег Корбан нарадзіўся 4 лютага 1985 года. Сябра Нацыянальнага камітэта Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП). Намеснік старшыні Мінскай гарадской арганізацыі АГП. Старшыня арганізацыі «Маладыя дэмакраты» — моладзевага крыла АГП. Затрыманы ў ноч з 19 на 20 снежня 2010 г. пасля акцыі пратэсту ў цэнтры Мінска. Абвінавачаны па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). Утрымліваўся ў следчым ізалятары КДБ. 7 студзеня вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе. 31 студзеня на вуліцы ў Мінску быў затрыманы паўторна, але адпушчаны праз 2 гадзіны пасля допыту ў КДБ.

Гэтая гісторыя стала самай галоўнай байкай «амерыканкі». Дакладней не байкай, а быллю, таму што адбывалася на самой справе. Калі Алега Корбана вызвалялі, прынеслі «пайку», таму выйшаў ён толькі пасля таго, як даеў свой бурак.

Многія «сядзельцы» перш за ўсё ўбачылі ў гэтым нешта неардынарна-смешнае. На мой жа погляд, не спяшацца на волю можа толькі той, хто ўпэўнены ў тым, што за кратамі апынуўся цалкам без віны.

## Крок ў жыццё

Бацькі Алега Корбана родам з Віцебшчыны, а сам ён нарадзіўся ў Мінску, куды сям'я пераехала ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Міхаіл Васільевіч і Кацярына Вячаславаўна пазнаёміліся на вяселлі агульных знаёмых, а хутка і самі пачалі жыць разам. Спачатку працавалі на фабрыцы ў Чашніках, потым на сталічным «Гарызонце».

Пасля пераезду Корбаны жылі ў вялікім драўляным доме прыватнага сектара. Яго знеслі, а ўсім, хто там жыў, далі асобныя кватэры ў

«Серабранцы». Зараз на тым месцы стаіць прэстыжны «Дом над Свіслаччу», у якім месціцца не менш прэстыжная «Панарама».

У «Серабранцы» Алег Корбан і нарадзіўся. Быў у яго і старэйшы (на тры гады) брат Васіль, які, на жаль, трагічна памёр каля года таму.

Праз некалькі год сям'я Корбанаў атрымала трохпакаёвую кватэру (побач з Трактарным заводам), дзе яны жывуць і па гэты дзень. Нягледзячы на салідную адлегласць, ездзіць (кожны дзень на трамваі) прыйшлося ў дзіцячы садок, які знаходзіцца недалёк ад «Гарызонту».

З тым перыядам і звязаны яго першыя ўспаміны. Галоўным у іх было тое, што дзяцей выхоўвалі цалкам на савецкай ідэалогіі, дзе дамінавала ўсё рускае. І толькі ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў свядомасць хлапчука пачало ўваходзіць нешта роднае — беларускія фразы, песні, вершы.



22-я сярэдняя школа была самай звычайнай, то бок, без якіх-небудзь «ухілаў». Першыя чатыры гады хлопец вучыўся ў беларускамоўным класе. Зразумела, што цікавіцца палітыкай у такім узросце не выпадае. Яна сама пачынае цікавіцца намі.

Перад тым як школьнікі пайшлі ў пяты клас, бацькам сказалі: у нас палітыка з'мяняецца, таму пажадана, каб вашы дзеці вучыліся далей на рускай мове, інакш у іх будуць складанасці з навучаннем. Маўляў, новыя падручнікі выдаюцца выключна па-руску. Практычна ўсе аднакласнікі Алега Корбана прынеслі адпаведныя заявы.

Першая цікавасць да падзей, якія адбываюцца ў роднай Беларусі, з'явілася ў восьмым класе, бо менавіта ў 1999 годзе прайшоў першы «Марш свабоды». Алег пачаў цікавіцца гуманітарнымі навукамі, гісторыяй сваёй краіны і нават прымаць удзел у адпаведных алімпіядах.

Пасля сканчэння дзявятага класа стала відавочна, што хлопец ператварыўся ў чалавека з канкрэтнай грамадзянскай пазіцыяй, таму ўступленне ў «Малады фронт» было цалкам лагічным. Адбылося ўсё ў 2000 годзе.



Дарэчы, кіраваў арганізацыяй тады Павел Севярынец. Менавіта з ім лёс звядзе Алега Корбана пасля падзей 19 снежня 2010 года ў адной камеры следчага ізалятара КДБ. Сустрэчу праз дзесяць год можна патлумачыць толькі наканаванасцю чалавечага лёсу...

## Крок у палітыку

Менавіта тады ў самым разгары была кампанія па байкоту чарговых парламенцкіх выбараў, таму ўвесь вольны час пачаў праходзіць у офісе «Маладога фронту» і менавіта на гэты час прыходзіцца першае затрыманне Алега Корбана.

Забралі яго за распаўсюд улётак акцыі «Пераменаў». Разам з іншым актывістам затрымалі супрацоўнікі міліцыі, збілі і склалі пратакол. Зразумела, што школьнаму кіраўніцтву гэта, мякка кажучы, не спадабалася. Пачаліся праблемы, юнак зразумеў: вучыцца далей у той жа самай школе будзе вельмі складана. І пайшоў у ліцэй № 3 машынабудаўніцтва, які раней называўся — ПТВ №133. Стаў вучыцца на спецыяльнасці «аператар станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем».

Свае першыя «суткі» ён атрымаў у 2003 годзе. Як заўсёды, святкавалі Дзень волі. На сталічную плошчу Якуба Коласа Алег Корбан прыйшоў да пачатку акцыі, бо хацеў там сустрэцца з сябрамі і нешта важнае з імі абмеркаваць. Аднак у міліцыянтаў былі іншыя планы. Людзі ў цывільным затрымалі юнака амаль адразу ж, адвезлі ў Савецкае РУУС, а на наступны дзень — у суд. За «нецэнзурную брань» «далі» пяць сутак арышту.

Так на асабістым прыкладзе Корбан зразумеў сутнасць беларускай судовай сістэмы, адсутнасць справядлівасці і неабходнасць усё змяніць.

Было гэта на апошнім курсе вучобы ў ліцэі і магло каштаваць дарага. Выратавала тое, што Алег прымаў актыўны ўдзел у мерапрыемствах вучэбнай установы (КВЗ, розныя святы, конкурсы і г.д.), да таго ж вучыўся няблага. Усё гэта і дало магчымасць атрымаць дыплом.

Па размеркаванню Корбан пачаў працаваць на Трактарным заводзе.

21 ліпеня 2004 года адбылася акцыя наконт 10-годдзя кіравання краінай А.Г.Лукашэнкам. Для Алега яна скончылася чарговымі «суткамі», але іх колькасць на гэты раз узрасла да дзесяці. Як заўсёды, пачалі-

ся «праблемы» на рабоце. У двукоссе я ўзяў гэтае слова невыпадкова, бо гаворка тут ідзе выключна пра «мелкія пакасці», якія апошнім часам сталі візітоўкай правячага ў Беларусі рэжыму. Такое ўражанне, што яны зараз з'яўляюцца часткай натуры кіраўнікоў. «Западло» цалкам складаецца з нейкіх дробязей, часам агідных і вельмі прымітыўных, накшталт падкладання кнопкі на стул настаўніка. На нешта больш арыгінальнае ў іх банальна не хапае мазгоў...

Пералічваць «мелкія пакасці» няма сэнсу, бо яны сёння добра вядомы. Напрыклад, Алега Корбана маглі пазбавіць прэміі за тое, на што для ўсіх астатніх заплюшчваюць вочы.

У гэты ж перыяд жыцця ён паступіў завочна вучыцца ў прыватны Міжнародны гуманітарна-эканамічны ўніверсітэт, дзе вучыўся «на юрыста». Скончыць яго не далі — выключылі. І зрабілі гэта даволі подла.




Як і многім іншым, Алегу Корбану прыйшлося працягваць вучобу за мяжой.

Неаднойчы даводзілася чуць крытыку такіх праграмаў. Маўляў, пасля іх большасць моладзі з'язджае з Беларусі. Прыклад Корбана сведчыць аб тым, што гэта далёка не так.

Нагадаю, той час быў вельмі насычаны падзеямі, якія праходзілі пад знакам прэзідэнцкіх выбараў 2006 года. Цалкам лагічна., што Алег знаходзіўся ў іх эпіцэнтры. Невыпадкова і тое, што 16 лютага 2006 года за чарговую акцыю салідарнасці (на мой погляд, у самым пачатку яна была адной з самых крэатыўных ідэй беларускай апазіцыі) яго зноў затрымалі міліцыянты.

Пасля вызвалення актыўна ўключыўся ў падрыхтоўку Плошчы, якая пачалася 19 сакавіка. Раніцай у дзень прэзідэнцкіх выбараў метадам брутальнага ламання дзвярэй яго зноў затрымалі і зноў за «нецэнзурную брань» «закрылі» на пяць сутак.



24 сакавіка Алег Корбан у чарговы раз выйшаў на свабоду і адразу ж даведаўся пра начны разгром «намётавага гарадка». «Госці» з КДБ прыйшлі праз некалькі дзён. Ад іх Алег даведаўся, што пачаў дзейнічаць новы артыкул нумар 193 Крымінальнага кодэкса, які забараняў дзейнічаць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

Першым пад «жарнавы» беларускай Феміды трапіў «Малады фронт».

Працягваць аповед пра чарговыя «зачысткі» іншадумцаў няма сэнсу па той прычыне, што, як заўсёды, «пакасці» не адрозніваліся арыгінальнасцю. Але на адной трэба спыніцца асобна па прычыне найбольш яскравага цынізму сённяшніх беларускіх уладаў.

4 лютага 2007 года Алег Корбан з сябрамі святкаваў свой дзень нараджэння. Каля дзесяці гадзін вечара ў яго кватэры адбыліся «маскі-шоў» з вобыскам і трохдзённым затрыманнем КДБ. Сумненняў у тым, што гэта быў «падарунак», не існавала ніколі.

Тады яго адпусцілі. Мабыць, нехта «адклаў» доўгатэрміновыя краты на 2010 год...

## Крок на Плошчу

Тлумачыць пераход з «Маладога Фронту» ў Аб'яднаную грамадзянскую партыю немэтазгодна — узрост і новыя палітычныя прыярытэты. Двойчы Корбан рабіў спробы трапіць у дэпутацкія шэрагі, двойчы гэтаму перашкаджала ўлада. А калі ад АГП на прэзідэнцкія выбары 2010 года «дэлегавалі» Яраслава Раманчука, Алег Корбан у яго штабе стаў «курыраваць» сталіцу.

Шлях на Кастрычніцкую плошчу не быў для яго вынікам выпадковасці альбо нейкага эмацыйнага ўсплёску. Крок быў абумоўлены ўсім папярэднім жыццём, дакладней, палітычным складальнікам гэтага жыцця. Маршрут з адной плошчы на другую (Кастрычніцкая—Незалежнасці) прайшлі тады дзясяткі тысяч людзей, і кожны з іх бачыў яго сваімі вачамі, як і тое, што адбывалася далей:

*«— Калі мы пачалі рух да плошчы Незалежнасці, стала відавочна, што ў акцыі пратэсту прымаюць удзел дзясяткі тысяч людзей. Нех-*

*та кажа пра трыццаць тысяч, нехта — пра семдзесят, але галоўнае не гэта. Вельмі парадавала тая атмасфера, якая панавала сярод людзей — шчырыя радасныя твары. Было відавочна, што яны не жадаюць праз гадзіну-другую разысціся, а настроены на кардынальна пазітыўныя перамены ў беларускім грамадстве.*

*Агульнавядомы факт — да плошчы Незалежнасці мы дайшлі без якіх-небудзь правакацый. Кіраўнікі акцыі пачалі гуртавацца каля помніка Леніна. Былі спадзяванні на нейтралітэт міліцыі, памяркоўныя адносіны некаторых вышэйшых чыноў, станоўчую рэакцыю Расіі. Але даволі хутка стала зразумела, што ўсё гэта ілюзіі.*

*Замест пачуліся гукі разбітага шкла. З гэтага моманту ўсё і пачалося.*

*Як і многія, я лічу: сярод удзельнікаў мітынгу панавала неразбярыха. З аднаго боку, частка кіраўнікоў апазіцыі і былых кандыдатаў у прэзідэнты казала, што трэба ісці на перамовы, якія павінны адбыцца ў гэтым будынку. З другога, людзі пачалі крычаць — дзверы закрытыя. Было незразумелым, па якой прычыне: няма ключа альбо не пускаюць? Мабыць, некаторыя захацелі дапамагчы іх адкрыць, таму частка дэманстрантаў падышла бліжэй.*





*Так я аказаўся каля дзвярэй. Невядома адкуль з'явіліся людзі ў чорным з нейкімі прыладамі ў руках, справакавалі натоўп на агрэсію і невядома куды зніклі зноў. Актывісты і прыхільнікі дэмакратычнага руху засталіся каля пашкоджаных дзвярэй і пабітых вокнаў у красамоўным адзіноцтве...*

*Асабіста ў мяне ніякіх планаў (як і ў іншых прадстаўнікоў нашага штаба) на радыкальныя сцэнары не было. У нашым асяроддзі гэта нават не абмяркоўвалася.*

*На тым, што адбывалася далей, падрабязна спыняцца не буду. Кадры той беспрэцэдэнтна жорсткай «зачысткі» сёння добра знаёмы амаль кожнаму. Выкажу толькі меркаванне наконт звярынай лютасці «касманаўтаў».*

*На мой погляд, бязлітаснасць тлумачыцца тым, што большасць «цэрбераў» спецыяльна для гэтай акцыі прывезлі з розных рэгіёнаў Беларусі і правялі з імі адпаведную ідэалагічную «апрацоўку». Сярод мітынгуючых у іх не было знаёмых, пратэставалі выключна «адмарозкі». Адсюль і такі брутальны «беспредел».*

*У выніку «абароны канстытуцыйнага ладу» я апынуўся спачатку каля гатэлю Crowne Plaza, а потым каля Данькаў-клуба. Тыя, хто ведае Мінск, пацвердзіць: між імі мінімум кіламетр.*

*Там мы з сябрамі селі ў тралейбус і паехалі да бліжэйшай станцыі метро, якім аказалася «Няміга». Зайсці ўнутр не ўдалося. Як драпежнікі на ахвяру, на нас накінуліся амапаўцы, крыкамі загадалі легчы тварам уніз, а потым пагналі ў аўтобусы, якія пад'ехалі да прыпынку грамадскага транспарту. Хутка да іх «далучыўся» аўтазак. Мяне «запакавалі» ў адзін з аўтобусаў. Людзей нагналі вельмі шмат. Праз шкло было бачна, што хапалі ўсіх запар, нават абсалютна выпадковых прахожых.*

*Спачатку нас прывезлі на Акрэсціна, аднак па колькасці тых, хто быў перад намі (15—20 аўтобусаў і аўтазакаў), было зразумелым, што столькі людзей размясціць там не змогуць.*

*Дарэчы, на працягу 4—5 гадзін нікога з затрыманых (у тым ліку і жанчын) нікуды не пускалі. Нават у туалет.*

*Не ведаю, адносіцца гэта да катаванняў ці не, але было вельмі бачна, што адчуванне сваёй улады над іншымі людзьмі прыносіла ім асаблівую асалоду...*

*Неўзабаве мяне прывезлі ў Ленінскае РУУС, а адтуль (у наручніках) разам з Алесем Арэстовічам у « амерыканку».*

*Першы допыт адбыўся раніцай 20 снежня. Там я даведаўся пра тое, што за «арганізацыю масавых беспарадкаў» мне «свеціць» да 15-ці гадоў пазбаўлення волі. Гэта было шокам, але яшчэ большым шокам стаў выступ Яраслава Раманчука па Беларускаму тэлебачанню і тое, як ён цісную прэзідэнцкую руку. Такога я не чакаў.*

*Сярод першых сукамернікаў быў анархіст Ігар Аліневіч, але на наступны дзень мяне перавялі ў іншую камеру, дзе знаходзіўся Павел Севярынец. Жыццёвае кола як бы замкнулася, бо менавіта ён быў першым, з кім я пазнаёміўся ў «Маладым фронце».*

*Мабыць, лёс у самы цяжкі момант жыцця зноў звёў мяне з гэтым чалавекам невыпадкова. Побач з такімі мужнымі людзьмі значна лягчэй пераносіць усе выпрабаванні. А яны ўзмацніліся літаральна на наступны дзень, калі да штатных ахоўнікаў далучыліся невядомыя ў масках — велізарнага целаскладу, высокага росту, злыя, вельмі агрэсіўныя. Хутчэй за ўсё галоўнай мэтай у іх было ператварэнне нашага жыцця ў сапраўднае пекла. Вельмі хутка з іх «дапамогай» следчы ізалятар КДБ ператварыўся ў канцлагер.*

*У тым ліку і наконт камунікацый. Я пісаў лісты амаль кожны дзень, аднак яны (як і ва ўсіх) нікуды не даходзілі. Рабілася гэта для таго, каб следчыя або супрацоўнікі КДБ маглі сказаць: вось бачыш, ніхто табе не піша, ніхто на волі пра вас не памятае, нікому вы больш не патрэбныя.*

*Пра тое, што гэта адна з формаў псіхалагічнага ціску, я зразумеў, калі заўважыў: у Паўла Севярынца таксама няма лістоў, а гэтага не можа быць па вызначэнню.*

*Амаль з самага пачатку катэгарычна адмовіўся ад прапаноў выступіць перад тэлекамерай Беларускага тэлебачання, а ў паказаннях даказваў сваю абсалютную невінаватасць.*

*Па гэтай прычыне першы раз у жыцці Новы год прыйшлося сустракаць у турэмнай камеры. 5 студзеня мне прапанавалі прайсці паліграф, які больш вядомы як «дэтэктар ілжы». Пагадзіўся, бо быў упэўнены ў выніках. Да і не магло яно быць інакш, бо толькі не зусім адэкватным людзям можа прыйсці ў галаву пытанне пра супрацоўніцтва іншадумцаў з замежнымі разведкамі.*



*Вызвалілі мяне 7 студзеня, а напярэдадні правялі апошні «шмон», пра які шмат расказвалі многія палітзняволеныя, у тым ліку і падчас судоў, як гэта зрабіў Андрэй Саннікаў. Паўтарацца не буду, скажу толькі, што пра больш цынічныя катаванні пішуць толькі ў благіх авантурных раманах.*

*Да таго, што я займаюся палітыкай, стаўленне бацькоў было ў розныя перыяды розным. Калі прыйшоў у «Малады фронт», у іх настроях прысутнічаў негатыў, бо яны бачылі ў сваім сыне выключна сярэднестатыстычнага працоўнага, які не мае ніякіх адносінаў да іншадумства. Асабліва, калі ўлічыць тое, што ў нашых умовах яно даволі моцна «прэсінгуецца» афіцыйнай уладай. Сімпатыі бацькоў тады схіляліся менавіта ў той бок.*

*З часам яны прызвычаіліся. Стала відавочна — гэта не ўзроставае.*

*19 снежня 2010 года вектар сімпатый змяніўся на супрацьлеглы, бо тое, што адбываецца ў краіне ўвогуле, стала праецыравацца на падзеі вакол іх дзіцяці. Зразумела, бацькі вельмі моцна перажывалі.*

*Паўплывала і тое, што я не застаўся ў адзіноцтве, сам-насам з бядой. Да іх прыходзілі праваабаронцы з «Вясны», актывісты нашай партыі, тэлефанавалі журналісты незалежных медыяў. Было відавочна: мая «тэма» знаходзіцца ў эпіцэнтры грамадскай увагі і калі-небудзь усё скончыцца. У прынцыпе, так яно і адбылося.*

*У мяне часта пытаюцца наконт асабістых адносін да Яраслава Раманчука. Аб гэтым цяжка судзіць, бо невядома, як сябе павядзе ў тых умовах любы з нас. Аднак, як кандыдат у прэзідэнты, ён павінен быць гатовы да ўсяго. Асабліва, калі ўлічыць, у якой краіне і ў які час мы жывем. Сапраўдны лідэр павінен ісці да канца і быць прыкладам для ўсіх астатніх. На жаль, у Раманчука мы гэтага не ўбачылі. А самае вялікае расчараванне было пасля прэс-канферэнцыі 20 снежня.*

*Кардынальна мае адносіны да яго не змяніліся, бо і да гэтага я пазіцыяніраваў Раманчука толькі як спецыяліста ў галіне эканомікі. Не лічу яго тым, хто можа ўзначаліць усе працэсы дэмакратычнага грамадства.*

*Дзяржаўная рэпрэсіўная машына можа зламаць амаль любога чалавека, а Яраслаў ніколі з ёй асабіста не сутыкаўся. Ніколі не за-*




*адказ я напісала, што шкадую пра «разбітую» бутэльку 12-ці гадовага віскі, якую везла спецыяльна для яго.*

*Пры сустрэчы ён падараваў мне дзевяць чырвоных ружаў. Па адной за кожны месяц нашай разлукі».*

**Шчыра кажучы, калі слухаеш такія гісторыі, вельмі цяжка пазбегнуць пафасу. Не абыдуся без яго і я. А заключацца ён будзе ў пажаданні ніколі не атрымліваць такіх падарункаў, бо за гэта па сутнасці і пакутавалі Дар'я Корсак і Аляксандр Атрошчанкаў.**

*22.11.11*

# МОЦНЫ СЛАБЫ ПОЛ



**Даведка:** Зміцер Бандарэнка нарадзіўся ў Мінску 28 верасня 1963 года. У 1984 годзе скончыў Інстытут фізічнай культуры. У 1995—1996 гг. працаваў на незалежным Радыё 101.2 FM, закрытым уладамі. Адзін з заснавальнікаў грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97», каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Падвяргаўся пераследу за сваю палітычную дзейнасць. У часе прэзідэнцкіх выбараў 2010 года быў актывістам штабу кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. Арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ. У канцы снежня яму прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). 4 красавіка абвінавачванне зменена на арт. 342 (дзеянні, што груба парушаюць грамадскі парадак). 26 красавіка асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі.

Не разумею, чаму жанчын даволі часта называюць «слабым полам». Падчас доўгай размовы з Вольгай Бандарэнка яе вочы «заблішчалі» толькі адзін раз. Па логіцы гэты момант павінен быў прыходзіцца на аповед пра пакуты мужа Зміцера, аднак на самой справе было інакш.

Эмоцыі пачалі дамінаваць падчас успамінаў пра рэферэндум 1995 года, калі Беларусь змяніла свой нацыянальны сцяг.

## Жыццёвыя метамарфозы

Напэўна, гэта было амаль самае вялікае інтэрв'ю ў маім прафесійным жыцці — 3 гадзіны 39 хвілін. І зараз я вельмі добра разумею тых, хто займаецца мантажам. «Адрэзаць» ад цікавага тэксту салідны кавалак, сапраўды, даволі цяжка. Асабліва, калі ён вельмі цікавы...

*«— Майго бацьку звалі (на жаль, як і маці, яго ўжо няма) Генадзь Пятровіч Панфілаў, але да знакамітых герояў не маю ніякага дачынення, хаця і нарадзілася ў Сібіры. Затое бацька быў стрыечным братам маршала Говарава. Вырас у дзіцячым доме, таму яго генеалагічную «ветку» я амаль не ведаю.*

*Маці Ніна Фёдараўна нарадзілася ў Вялікім Болдзіна. Назва гэтай вёскі добра вядомая па творчасці Пушкіна. Бацька маці загінуў у апошнія дні вайны. У іх сям'і было шасцёра дзяцей. Пераехалі ў Ніжні Ноўгарад, які тады зваўся Горкім. Жылі (як Гары Потэр) пад лесвіцай. Пры Сталіне маці «валіла лес» за тое, што з-за хваробы не паехала ад работы ў калгас «на бульбу». Тады ёй было толькі 16 год.*

*Як і маці, бацька мяне вельмі любіў і вазіў па ўсіх музеях, у заапарк. Бывала, мы з ім проста садзіліся на трамвай і ехалі да канцавога прыпынку. Калі хто ведае Горкі, то знае, што гэта вельмі доўгі горад. Падчас працяглай паездкі я праз акно лічыла дамы (так засвоіла навуку арыфметыку), а бацька чытаў кніжкі. Чытаць да школы навучылася і я. Зараз гэта звычайная рэч, а раней — рэдкасць.*





*Заўсёды, калі ён мяне забіраў з дзіцячага садка, засоўвала руку ў яго кішэню і знаходзіла там цукерку.*

*Спачатку (да пятага класса) я вучылася ў 25 школе, а потым (атрымалі кватэру) у 123-й. Паўсюды была выдатніцай.*

*Новая кватэра была ў «працоўным» раёне. То бок у атачэнні заводаў. Зразумела, з экалогіяй там было вельмі кепска. Бацька і маці памерлі ад раку, як і большасць нашых суседзяў.*

*Пасле восьмага класа пайшла ў прэстыжны прамыслова-эканамічны тэхнікум на праграмаванне. Звычайна, выдатніцы не паступаюць падобным чынам. Нават не ведаю, чаму зрабіла менавіта так. Напэўна, хацелася быць самастойнай.*

*Вучыцца вельмі падабалася. Люблю матэматыку. Гэта склад розуму.*

*Скончыла тэхнікум з чырвоным дыпломам і збіралася паступіць на факультэт прыкладной матэматыкі і кібернетыкі мясцовага ўніверсітэта.*

*Менавіта на 1979 год прыходзіцца мой першы шлюб.*

*За плячыма было толькі васемнаццаць з паловай год. Леанід Савіцкі быў беларускім футбалістам, а я калісьці займалася спартовай гімнастыкай, крыху валейболам. Словам, нейкія «перакрыжаванні» ў нас былі.*

*Ён прыехаў у Горкі да свайго дзядзі. Сагітаваў паступаць у Мінскі інстытут фізічнай культуры. Я паехала толькі таму, што на рабоце з гэтай нагоды давалі адпачынак. Была ўпэўнена, што потым вярнуся ў «матэматыку». Выйшла інакш.*

*Мінск вельмі спадабаўся. Тут чысцей, але ў нас лепшая архітэктура. Я была ўпэўнена, што не паступлю. Як выдатніцы, мне трэба было здаваць адзін экзамен — фізічную падрыхтоўку. Там сярод іншага было плаванне, а я, хаця вырасла на Волзе і Аке, плаваць не ўмела зусім.*

*Лёс. Адзінае выключэнне за ўсю гісторыю інстытута адбылося менавіта ў гэты момант. Плаванне замянілі гімнастыкай, і я стала*

*студэнткай. Раней нават не ведала, што такія інстытуты існуюць ўвогуле...*

*У 1983 годзе скончыла яго зноў з чырвоным дыпломам і атрымала размеркаванне на працу на завод імя Леніна інструктарам па спорту.*

*Зараз, напэўна, многае таксама вярнулася, але ў савецкія часы мая працоўная дзейнасць існавала ў асноўным на паперы. Час ад часу я, канешне, праводзіла нейкія спаборніцтвы, але большасць энергіі ішла на «папяровую творчасць». Напрыклад, для розных праверак у нас «працавала» амаль 15-ць розных секцый. «Ліпа». На самой справе ўсё гэта было толькі на паперы.*

*Адзінае, што пазней стала модным — заняткі па рытмічнай гімнастыцы. Вось тут ужо ніякіх «фікцый» не было.*

*Дарэчы, гэтым я займаюся і сёння.»*

У 1988 годзе адбыліся «чаромхавыя» Дзяды, бо менавіта гэты газ выкарыстоўвалі міліцыянты, каб разагнаць мірны натоўп. Вольга вельмі хацела там быць, але не змагла, бо яе дачцэ Юлі тады быў толькі год. На дэманстрацыі былі яе сябры мастакі і шмат расказвалі пра тое, што там адбылося. А праз некалі дзён супрацоўнікаў завода імя Леніна «сагналі» ў актавую залу, дзе нейкі палкоўнік міліцыі выкладаў версію пра «адмарозкаў».

Прама як зараз...

Вольга падышла да мікрафона, спыталася наконт «газу» і пачула ў адказ: «Гэта ўсё хлусня, якая можа цікавіць толькі такіх падвыпіўшых дзевак, як вы!» Таксама, як зараз...

Падобных абраз у сваім жыцці яна не чула ніколі, таму можна толькі ўявіць, які шок перажывала ў той момант.

Пасля «мерапрыемства» падышлі два хлопцы з «Талакі». Неўзабаве Вольга ўжо дапамагала ім рабіць улёткі і пазнаёміла са сваім мужам. Пачалася «беларусізацыя» канкрэтнай сям'і.

## Асабістыя метамарфозы

Тое, што Зміцер Бандарэнка стаў беларускамоўным, цалкам лагічна, а вось пераход на беларускую мову патомнай расіянкі патрабуе



пэўнага тлумачэння. Тым больш, што яна зрабіла гэта крыху раней за свайго мужа.

Справа ў тым...

Аднак вернемся да ўспамінаў.

*« — Я пазнаёмілася з Дзімам летам 1981 года, калі ўжо падала на развод.*

*Як вядома, студэнтаў ахвотна выкарыстоўваюць на сельгасработах. Нас адправілі «на лён».*

*Аднойчы разам з Дзімам мы дзяжурылі на кухні. Ён паступіў у 17 год, па сутнасці дзіця. Я дарослая жанчына, якая прыбывае ў стадыі разводу. Я рыхтую — ён дапамагае. Вельмі хутка стала зразумелым, што мы з ім вельмі падобныя па поглядах на жыццё. Ва ўсім!*

*З часам сталі самымі блізкім сябрамі. Падкрэсліваю — **сябрамі**. Магчымасць стаць жонкай і мужам не разглядалася па вызначэнню.*

*Дзіму размеркавалі ў нейкі раённы цэнтр, але ён хутка «открепился» і стаў працаваць на серабранскім фізычна-аздараўляльным комплексе (ФАК), а потым у розных дзіцячых садках».*

На тым, як яны прышлі да шлюбу, падрабязна спыняцца не буду, бо гэта займе шмат часу. Скажу коратка — лёс.

Як вядома, шлюбы ўзнікаюць на нябёсах і толькі так можна патлумачыць тое, што гэтыя людзі сустрэлі адзін аднаго — дзяўчына з расійскага Прыволжа і беларускі юнак. Абодва выдатнікі, абодва спачатку не бачылі сябе на спартыўным шляху.

Лёс...

Вяселле згулялі 4 кастрычніка 1984 года ў адным са сталічных кафэ, а праз два тыдні Зміцера прызвалі служыць, бо ў іх навучальнай установе не было ваеннай кафедры.

А зараз зноў да тэмы беларускай мовы.

*«— Мая «беларусізацыя» пачалася, калі трапіла ў Купалаўскі тэатр на дудараўскія спектаклі «Парог» і «Вечар». Я была літаральна зачаравана беларускай мовай, бо ўзровень таго, што чула па радыё, не задавальняў, не кажучы ўжо пра «трасянку».*

## Накаваныя пакуты

Пасля вайсковай службы Зміцер Бандарэнка пэўны час працаваў у адной прыватнай фірме на тэлебачанні і дырэктарам па сувязях з грамадскасцю знакамітай «Дайновы». Потым была работа на першым беларускамоўным радыё 101,2 FM, а пасля таго, як радыёстанцыю закрылі, цалкам стаў займацца палітыкай.

У 1997 годзе была створана «'Хартыя-97». Адным з заснавальнікаў гэтай структуры быў Зміцер Бандарэнка, таму вектар яго палітычнай дзейнасці з гэтага часу не толькі стаў вядомым усёй грамадскасці, але і высветліў ярка выражаны апазіцыйны напрамак. У нашых умовах гэта даволі небяспечна.

Тое, што адбылося 19 снежня 2010 года, стала лагічным працягам абранага тады. А пакуты, праз якія ён праходзіць сёння, былі лагічным працягам таго, што стала галоўным 14 гадоў таму.



*«— Да Плошчы мы з дачкой рыхтаваліся, як след. Па знаёмым шукалі цёплыя рэчы, на два памеры большы абутак. Перад тым, як туды ісці, разам (Зміцер, я і Юля) памаліліся. На гэтым усе мае светлыя ўспаміны канчаюцца.*

*Пераказваць падрабязнасці добра вядомых падзей яшчэ раз не буду. Скажу толькі, што ніхто біць шкло і змагацца з міліцыянтамі не збіраўся...*

*Мужа арыштавалі раніцай наступнага дня.*

*Першы час была абсалютная разгубленасць.*

*Што робіцца ў краіне?*

*Як быць? За што жыць, калі мяне зволяць з работы? А зай-*





*малася ў асноўным дапамогай іншым. Напрыклад, жонцы ахоўніка Андрэя Саннікава. Акрамя гэтага, трэба было з усім разабрацца і вызначыць, у якім свеце мы знаходзімся.*

*Неўзабаве стала зразумела, што жонкам і маці зняволенных трэба аб'яднацца. Я прапанавала гэта іншым. Ідэю падтрымалі ўсе без выключэння, і 30 снежня быў створаны камітэт «Вызваленне». Ведаю, што ўлады гэта моцна раздражняла.*

*Спачатку можна было перадаваць шмат чаго, а 31 снежня раптам амаль усё забаранілі.*

*І зрабілі гэта, на мой погляд, наўмысна, каб тыя, хто знаходзіцца за кратамі, цалкам не адчулі свята.*

*Адзінае, на што спачатку не было ніякіх абмежаванняў, паштоўкі. Сёння гэтых «прышпілаў» прадаецца даволі багата. Пісаць на іх было нельга, але і тое, што там ёсць, было вельмі сімвалічным. Напрыклад, «Лепшаму мужу на свеце».*



*Потым забаранілі і іх. Надта вялікае маральная падтрымка...*

*У «амерыканку» мы хадзілі (як на работу) тры разы на тыдзень — панядзелак, серада, пятніца. Ніякіх камунікацый з вязнямі не было, таму, калі да Кобеца схадзіў яго адвакат, спіс рэчаў, патрэбных у няволі, кожная з нас чытала вельмі ўважліва.*

*Памятаю, калі і я ўбачыла гэты доўгі пералік, сказала: «Напэўна, Кобец там хоча застацца назаўсёды...» Чаго ў тым пераліку толькі не было!*

*Адразу адчуваецца — геолаг, які не раз хадзіў у паходы. Мы доўга не маглі зразумець, што такое «кручкі» і для чаго яны патрэбны ў камеры. Пакуль не здагадаліся, што ён будзе на іх вешаць розныя рэчы...*

*Альбо тазік...*

*Дарэчы, больш, чым за Дзіму, хвалявалася за Андрэя Саннікава. За кратамі знаходзілася яго жонка Іра Халіп, а вакол іх сына разгараліся вядомыя «страсці-мардасці». Ён мне нават сніўся.*

*Калі з СІЗА КДБ выйшла Наталля Радзіна, то перад тым як ехаць у родны Кобрын, начавала ў мяне і расказала пра «гарыл» у масках, бо жорсткія катаванні тычылася выключна мужчын. Уявіўшы свайго хворага мужа ў такіх абставінах, я ўпершыню пачала хвалявацца.*



*А публічны расказ Алеся Міхалевіча быў сапраўдным шокам. Стала жудасна.*

*Як пазней высветлілася, так усё было і з маім мужам. Больш за тое Дзіму (адзінага) нават на прагулкі выводзілі (дваццаціградусны мароз!!!) у кайданках. А калі «адкрылася» язва, за спробу атрымаць медыцынскую дапамогу яго на дзесяць сутак кінулі ў карцэр, дзе першыя часы прыкавалі цэпам.*

*Калі пачаўся грып, нягледзячы на 40 градусаў тэмпературы, раздзявалі дагала і ставілі «на растяжку».*

*Думаю, з яго выхадам на волю я даведаюся і пра шмат чаго яшчэ...*

*Была ад КДБ прапанова (безвыніковая) «паўплываць» на мужа. Маўляў, калі дасць «патрэбныя» паказанні, будзе дома святкаваць праваслаўнае Раство. Блага працуюць, бо нават не ведаюць пра тое, што мы каталікі...*

*Судзіў мужа суд Першамайскага раёна Мінска, і быў ён вельмі кароткім. 26 красавіка пачаўся, 27 красавіка скончыўся. Дзіма быў адзіным, каго судзілі аднаго. І адзіным, каму далі рэальны тэрмін па 342 артыкулу — два гады. Гэта той самы «лёгкі» артыкул, па якому ўсім астатнім прысудзілі ўмоўнае пакаранне.*

*Як і ўсіх астатніх, Дзіму з «амерыканкі» перавялі на Валадарку, а калі стала вельмі блага са здароўем (міжнапазваночная грыжа), паставілі ўмову — альбо аперацыя, альбо этапіраванне ў калонію. Я была супраць, але іншага выбару не існавала.*

*Напомню, што ён двойчы з гэтымі праблемамі звяртаўся ў лякарню да арышту і павінен быў у студзені лажыцца туды яшчэ раз. Замест гэтага апынуўся ў СІЗА КДБ.*

*Магчыма, камусьці гэта падаецца спрэчным, але, калі б не апека еўрадэпутата Марэка Мігальскага, нічога б не адбылося. Гэта яго ліст прымусіў рэпрэсіўную машыну Беларусі праявіць «літасць».*

*Мужа прывезлі толькі з другой спробы, бо першы раз ім не спадабалася колькасць людзей, якія былі каля ўваходу ў 5-ю клінічную бальніцу. Аперацыя была паспяховай, і ўжо праз тры дні яны мелі намер зрабіць «этап». Па сутнасці гэта было забойствам, што многіх адразу ўсхвалявала. Каты адступілі. У бальніцы Дзіма правёў месяц. У калонію яго ўсё ж даставілі, але адвезлі туды на машыне».*

**Як і многія, я цікавіўся ў Вольгі Бандарэнка: за што яе мужу такія выпрабаванні? Яна расказала пра тое, што на пачатку мітынгу на Кастрычніцкай плошчы Андрэй Саннікаў папярхнуўся, Зміцер узяў з яго рук мегафон і працягнуў скандзіраванне: «Пара мяняць «лысую» гуму!»**

**Мабыць, нехта гэты відэазапіс убачыў...**

*25.11.11*

# ДВА ПОГЛЯДЫ НА АДНУ ПАДЗЕЮ



**Даведка:** Аляксандр Класкоўскі нарадзіўся 26 верасня 1978 года. Скончыў Мінскую сярэднюю школу №55, паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, потым атрымаў вышэйшую юрыдычную адукацыю. У 1999 годзе паступіў на службу ў ДАІ Ленінскага раёна Мінска ў якасьці інспектара ДПС. У 2005 годзе ў чыне лейтэнанта з міліцыі звольнілі. Затрыманы ў ноч на 21 снежня 2010 года ў сябе дома. Змешчаны пад варту ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па трох крымінальных артыкулах. 26 траўня ў Ленінскім судзе Мінска асуджаны да 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Няма сумніву, што фота акрываўленага падчас падзей 19 снежня 2010 года міліцыянта стаў адным з самых папулярных у тыя часы. І гэта цалкам зразумела. Здымак такі красамоўны, што сам адкажа на ўсе магчымыя пытанні.

## Погляд сына

Вядома, што адны і тыя ж падзеі рознымі людзьмі ўспрымаюцца па-рознаму, таму я і вырашыў гэты нарыс зрабіць з двух частак. А пачаць хачу з успамінаў Аляксандра Класкоўсага-малодшага:

*«— Тэрміновую службу я праходзіў у войсках КДБ і не думаў нават, што ў далейшым менавіта гэта структура так істотна паўплывае на мой лёс.*

*Дарэчы, падчас вайсковай службы пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. Ажаніліся літаральна праз паўгады пасля майго звальнен-*



*ня ў запас. Наталля падаравала мне трох дзяцей. У 1999 годзе нарадзіўся сын Аляксей, у 2003 — дачка Дар'я, у 2008 — сын Арсеній.*

*Чаму пайшоў на Плошчу і надзеў міліцэйскую форму? Напэўна, гэта самае распаўсюджанае пытанне, якое я чуў у сваім жыцці, асабліва ў «амерыканцы». Канешне, мог сказаць, што гэта цалкам выпадковая рэч, але хто б мне там паверыў...*

*А калі сур'ёзна, то ў той, без перабольшвання пераломны момант трэба было вырашаць галоўную праблему Беларусі. Адчувалася, што, калі гэта прапусціць, атрымаем тое, што маем зараз.*

*Наконт формы. Тут шмат фактараў. Падсвядома я адчуваў, што там будзе адбывацца нешта гвалтоўнае, магчыма, сутыкненні з міліцыяй. Загадзя спецыяльна спланаванай мэты не было. Гэта інтуітыўна: магчыма, нейкага змагу абараніць ці неяк паўплываць на супрацоўнікаў міліцыі. Ніхто з тых, хто туды прыйшоў па добрай волі, не ведаў, што атрымаецца менавіта так.*

*Цалкам уся мазаіка тых падзей мне стала зразумелай толькі падчас судовага следства. Яе пацвердзілі нават амапаўцы.*

*... Асабіста я знаходзіўся побач з помнікам Леніну і стаяў спіной да будынка Дома ўрада. Прозвішчы ўсіх, хто пачаў біць шкло, устаноўлены. Яны нават былі затрыманы, але потым усіх, акрамя Хамічэнкі, адпусцілі. «Дзіўна»: адпусцілі тых, хто цалкам прызнаў сваю віну...*

*Гэта пры тым, што ў той момант ужо ішлі суды і давалі рэальныя тэрміны пазбаўлення волі... Для некаторых разбіўшых шкло на*



*ват не абралі меру стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе, а абмежаваліся толькі абяцаннем прыходзіць на допыты... Неверагодная літасць...*

*Амапаўцы (у той момант сядзелі ў аўтобусах) атрымалі па рацыі загад адагнаць людзей ад прыступкаў Дома ўрада. Яны так і зрабілі, пры гэтым сведкі ў судзе адзначалі, што ніякіх агрэсіўных дзеянняў з боку натоўпу ў гэты момант не было. Аднак амапаўцы на гэтым не спыніліся. Моўчкі пачалі «малаціць» людзей. Мне дасталіся некалькі ўдараў па галаве. Нават не паспеў да іх павярнуцца. Шок!*

*Потым яны адцяснілі натоўп прыблізна на метраў 15 і спыніліся. Стаялі так хвілін дзесяць, затым атрымалі загад вярнуцца назад у аўтобусы.*

*Пазней я зразумеў, што так і было задумана: раззлавалі людзей, справакавалі іх на нейкія дзеянні, сышлі, а потым вярнуліся і пачалі рабіць «зачыстку». «Сцэнар» быў прапісаны загадзя.*

*Некалькі словаў пра відэазапіс, які паказвалі па Беларускаму тэлебачанню. Ён з'явіўся для таго, каб «легалізаваць» тую «шчырую размову», якую яны на працягу двух гадзін вялі са мной (пры схаванай відэакамеры), ведаючы, што падобнае можна рабіць толькі ў прысутнасці адваката. З яе і зрабілі даволі прымітыўны мантаж.*

*...Механізм такі, што пасля прысуду ніяк не мінаваць Валадарку, куды мяне перавялі з «амерыканкі». Там фарміруюцца ўсе турэмныя этапы.*

*Не магу зразумець, як адбылася такая «недапрацоўка», але мы з Міколам Статкевічам «на зону» ехалі адным цягнікам, толькі я ў «міліцэйскім купэ». Разам трапілі на тры тыдні ў каранцін. Нейкага асаблівага ціску там не было. Як высветлілася потым, да пэўнай «каманды».*

*Шклоўская калонія адрозніваецца ад іншых выключна цеснымі кантактамі з «вярхамі». Усе каманды, якія аддаюцца там, тут выконваюцца хуценька і «якасна». Як кажуць у такіх выпадках, «усё схвачана».*

*Шмат хто гаворыць, што ў ёй некалі працаваў Лукашэнка. Не ведаю, наколькі гэта адпавядае рэчаіснасці, але наконт «любімай установы» відавочна.*

*Адразу пасля яго візіту на Шклоўскую папяровую фабрыку пачалася «першая хваля» незвычайнай «увагі» да маёй сціплай персоны. Разам з ім прыехаў начальнік Дэпартаменту выканання пакаранняў. Пасля адзін ахоўнік мне сказаў, што ад яго і быў загад аб узмацненні ціску.*

*На той час мяне ўжо перавялі ў атрад нумар 13 і адразу пачалі чапляцца да дробязей, якія ўсім астатнім асуджаным даруюцца. Накшталт шыльдачкі з прозвішчам на майцы альбо кепскага вітання начальства...*

*Напэўна, з тлумачальных запісак, якія я напісаў у тыя дні, можна сабраць цэлую кнігу...*

*А з размоваў з кіраўніцтвам калоніі — чарговую «мыльную оперу»...*

*Наш атрад знаходзіўся на самым краі калоніі, прыблізна паўтара кіламетра ад штаба. Зразумела, пасля такой дарогі ніхто з «операў» без тлумачальнай запіскі ад мяне не вяртаўся. Яны нават не хавалі сваіх мэтаў — служба.*

*«Кантынгент» сустрэў мяне без асаблівай варожасці. Хаця я чакаў горшага, бо перад гэтым нехта распаўсюдзіў (напэўна, спецыяльна) сярод іх інфармацыю, што я былы супрацоўнік міліцыі.*

*Асабліва цяжка было першы час, калі ў дзень шмат раз прыходзілася расказваць сваю гісторыю і адказваць на пытанне: «Колькі прывёз?» (так там пытаюцца пра тэрмін зняволення).*

*Другая хваля ціску пачалася пасля вызвалення першай партыі «памілаваных». Толькі прызвычаіўся да парадкаў 13-га атрада, як мяне перавялі ў дзясяты. І падрыхтавалі да гэтага адпаведным чынам «глебу»... Мне далі самы благі (каля ўвахода) ложак, нягледзячы на цяжкую працу, пасля яе праз дзень ставілі ў нарады і г.д.*

*Смешна, але мяне «ахоўвалі» нават у калоніі, каб не было ніякіх кантактаў са Статкевічам (калі той заходзіць у сталоўку), двое кантралёраў гэтаму перашкаджалі спецыяльна. Стаялі побач. Аднак і гэта не «спрацавала».*

*Пісаць нейкія паперы пра памілаванне амаль не прапаноўвалі. Мабыць, разумелі, што гэта безсэнсоўна. Адразу аддалі «прэсаваць» зэкам.*

*Так пачалася трэцяя хваля ціску.*



*Днявальны прыбег у прамысловую зону і перадаў пра тое, што мяне выклікаюць у штаб. Пайшоў, але замест начальства на ўваходзе сустрэў зэк. Павялі ў нежылое памяшканне, дзе сабраўся «актыў зоны». То бок тыя, хто сядзіць больш за дзесяць год. Праз пэўны час я зразумеў, калі не заб'юць, то зробяць калекам, і зрабіў выгляд, што гатовы нешта падпісаць. Гэта дазволіла трапіць да «операў».*

*Там ужо не білі, пагражалі іншым — «петушынай хатай». «Размаўлялі» больш за тры гадзіны. Напрыканцы ім пачалі»дапамагаць» тры зэка, так званыя «пераседжаныя», якія там правялі амаль усё жыццё.*

*І гэта не дало патрэбнага выніка. Яны дасягнулі пэўнай мяжы і нечакана спыніліся.*

*Нягледзячы на тое што нічога не пісаў, 14 верасня мяне вызвалілі. Была такая спешка, што зэку збіралі кешэры (сумкі з асабістымі рэчамі) трое «операў...»*

## Погляд бацькі

Бацьку майго субяседніка вядомага журналіста і палітолага Аляксандра Класкоўскага ведаюць усе, хто чытае «нячэсную» прэсу. Як праціўнікі ўлады, так і яе прыхільнікі. І ўсе згодны з адзнакай, што гэта адзін з самых таленавітых і ўплывовых асобаў айчыннай журналістыкі. Не выпадкова менавіта ён узначальваў «Знамя юности» падчас яе зорнага мільённага тыражу:

*«— Каюся, калі мае старэйшыя дзеці — Саша і Волечка — былі малыя, то прысвячаў ім часу меней, чым хацелася б. Зараз шкадую, што праз спецыфіку журналісцкай прафесіі (камандзіроўкі, праца дапазна і без выхадных-прахадных), а таксама праз асабісты працагалізм не скарыстаў тыя благаславёныя часы па поўнай праграме.*

*Зрэшты, няма ліха без дабра: затое стараўся канцэнтравацца на галоўным, даваць сыну і дачцэ штуршкі да інтэлектуальнага развіцця. Цягаў па музеях, рэгулярна прыносіў дадому добрую дзіцячую літаратуру. Тады, за савецкім часам, на добрыя кнігі, як і на іншыя дэфіцыты, трэба было паляваць. І старэйшага сына, і дачку рана, задоўга да школы навучыў чытаць.*

*Увогуле стараўся заахвочваць, як цяпер кажуць, крэатыў. Саша і Вольга, яшчэ як былі малодшымі школьнікамі, сталі выпускаць хатнюю газету, ладзілі для бацькі з маткай лялечныя спектаклі, канцэрты на святы. Асабліва любілі Новы год. Праўда, Вольга заўжды кпіла з Сашы, бо ён, як толькі давалася адмашка, што можна распраўляцца са стравамі на святочным стале, наядаўся да адвалу і потым ленаваўся доўжыць канцэрт.*





*Дома было багата беларускіх кніг. Увогуле з засваеннем беларускай мовы ў Сашы, хоць рос ён у сталіцы, праблем не было. Вакацыі бавіў у вёсцы — то ў маіх, то ў матчыных бацькоў.*

*У нас было шмат кружэлак з тагачаснымі хітамі «Верасоў», «Сяброў», «Песняроў». Таму беларускую мову ён усмактаў натуральным чынам з малых гадоў. Пабеларуску трымаў слова і на судзе за Плошчу ў траўні 2011 года. Гэта кантраставала з рускамоўнымі пасажамі суддзі, пракурора, «пацярпелых» спецназаўцаў.*



*Нехта з шэрагу тых экіпіраваных да зубоў байцоў і разбіў на Плошчы галаву майму сыну; ён жа, акрываўлены, прасіў, каб не мясілі цывільны люд. На гэты выпадак і надзеў, мусіць, пад куртку міліцэйскі кіцель, што вісеў у шафе з часоў службы. Наіўна думаў, што спецназаўцы прыслухаюцца да былога міліцыянта. «Хлопцы, вы што... ідыёты?.. Ну, бі лейтэнанта... Я цябе біць не буду», — гэтыя словы зафіксавала відэа, што разляцелася потым па сеціве.*

*Хто б мог падумаць, што такімі будуць рэаліі Беларусі XXI стагоддзя?*

*На пачатку 1990-х, падчас «разгулу нацыяналістаў», як потым кваліфікуе гэта прапаганда цяперашняга рэжыму, Саша, тады ўжо падлетак, прагна чытаў дэмакратычную прэсу, быў захоплены рамантычнымі ідэямі беларускага Адраджэння.*

*Першыя бітвы нававыбранага прэзідэнта з Вярхоўным Саветам, узмацненне аўтарытарных тэндэнцый у краіне мой сын, ужо юнак з дастаткова сфармаванымі палітычнымі перакананнямі, успрыняў блізка да сэрца, хваравіта. Пры гэтым ён не збіваўся на патэтыку, а найчасцей кпіў з калгасных замашак рэжыму.*



*Увогуле ягоны стыль — гэта гумар, іронія. Потым гумар будзе іскрынкамі бліскаць нават падчас следства ў справе аб «масавых беспарадках»: «Чаму пайшоў на плошчу? Хацеў пабачыць жывую Ярмошыну, хай пры нас пералічыць бюлетэні». Гэты пасаж ахвотна цытавалі незалежныя медыі, пасля таго як ролік з допыту быў пракручаны на судзе.*

*А ўлетку 1995 года, паступаючы на журфак БДУ, сын на ўступным экзамене напісаў крамольнае сачыненне. Нагадаю палітычны кантэкст. Тады Лукашэнка толькі што працягнуў праз рэферэндум пытанне пра зварот трохі перарobленай савецкай дзяржаўнай сімволікі. Саша напісаў, што з гэткім жа поспехам маглі б прагаласаваць і за фіялетавы штандар з папугаямі. Потым знаёмы выкладчык прызнаўся мне: як правяраў гэты тэкст, доўга рагатаў, але ў выніку паставіў добрую адзнаку, бо памылак не было. Ідэалагічны прэсінг на ВНУ, як бачыце, тады яшчэ быў не такі моцны, выкладчыкі надта не баяліся.*

*Сын нармальна здаў на журфаку дзве сесіі, друкаваўся ў «Прессболе». Цалкам мог бы спакойна ісці да дыплома, але вырашыў, што гэта не зусім ягонае амплуа. Плюс, маўляў, не хачу грошы на вучобу з бацькоў браць (яму не хапіла, здаецца, паловы бала да бюджэтнай формы).*

*Пайшоў у войска шарагоўцам. Служыў у Маладзечне. Пашчасціла: прызначылі кіроўцам. А ён да аўтамабіляў з маленства няроўна дыхаў. Так што на службе дні і ночы бавіў у боксе для тэхнікі — у кайф было.*

*Ну а неўзабаве пасля войска ажаніўся. Пайшлі дзеткі адзін за адным: Лёша, Даша, Арсень. Жонка Наташа — гэта яму падарунак лёсу. Сапраўдная дзекабрыстка, як паказала жыццё пасля 19 снежня 2010 года. Не толькі ўзяла на сябе клопат пра трох дзяцей, але і перадачы мужу ў КДБ насіла, і спаткання дамаглася (гэта было цудам!), і на судзе трымалася мужна, каб не рваць яму сэрца слязьмі. Увогуле: з выгляду — матылёк, а ўнутраная моц жалезная. Я сыну напісаў: «Саша, выйдзеш на волю, мусіш сваю Наташу рэшту жыцця на руках насіць!»*

*Тады ж пасля войска ён паставіў сабе задачу на юрыста завочна вучыцца (і дамогся свайго). Ну а тым часам на жыццё зарабляць вырашыў у «сумежнай сферы»: рушыў у міліцыю — былому ж вайскоўцу зялёнае святло.*

*Праўда, у міліцыі Саша пачуваўся не надта камфортна. Трохі не з тым культурным кодам прыйшоў. Выглядаў белай варонай, калі спрабаваў складаць пратаколы па-беларуску, прыносіў на працу незалежную прэсу.*





*Разам з тым, за некалькі гадоў зрабіў у дзяржаўтаінспекцыі кар'еру ад шарагоўца да лейтэнанта. Наколькі я разумею, атрымаць афіцэрскае званне, не маючы за плячыма школы міліцыі, не так проста. Саша не выглядаў на салдафона, але афіцэрскімі пагонамі ганарыўся. Падкрэсліваў: працай заробленыя!*

*Потым пасля арышту прапаганда выльле на яго цэбар бруду: маўляў, служыў абы як, рэгулярна ганьбіў гонар ведамства... Калі так, то дзе ж былі вочы ў міліцэйскага начальства, як зорачкі на пагоны давалі? Без добрых характарыстык, я мяркую, такі нумар не прайшоў бы. Калі ж сына арыштавалі, дзеячы з адпаведнага ведамства намалявалі яму такую характарыстыку, што і ў пекла не прымуць. Памятаеце дыялог са старой савецкай кінакамедыі: «А Вы давно знаете Горбункова С.С.?» — «Десять лет». — «И что, все десять лет он пьянствовал, дебоширил?» — «Нет, он искусно маскировался под порядочного человека».*

*Саша распавядаў мне, як аднойчы пасля аўтапагоні абясшкодзіў узброенага злачынцу. Начальства паабяцала заахвоціць прэміяй, але так і замыліла яе...*

*Затое, калі міліцэйскія спаборніцтвы, адразу згадвалі пра Класкоўскага: выручай! Аднойчы заняў другое месца на нейкіх крутых спаборніцтвах па аказанні першай медычнай дапамогі. Другое, заўважце, пасля прафесійнага медыка.*

*Сышоўшы з міліцыі, ён нейкі час працаваў юрыстам у прыватнай фірме. Але ж вы ведаеце, як камфортна бізнэсу ў Беларусі... У той фірмы справы пайшлі наўскасяк, і Саша, на той час ужо дасведчаны кіроўца, перакваліфікаваўся на дальнабойшчыка.*

*Я такі выбар не ўхваляў: тыднямі ў раз'ездах, вяртаецца змучаны, часу на сям'ю не застаецца, толькі адаспаўся — зноў у дарогу. Начлег у кабіне, харчаванне сухама — здароўе ж не жалезнае, кажу. Тым*

*болей што ў дзяцінстве на гэпатыт перахварэў, печань слабая. Забягаючы наперад, зазначу, што ў «амерыканцы» на гэта, мякка кажучы, не надта зважалі ды і на зоне харчаванне аказалася кепскае — толькі пасылкі ды перадачы з дому і выратоўваюць.*

*Звыш усяго, перавозіць дарагія грузы — рэч небяспечная, асабліва калі па Расіі едзеш. Сын распавядаў, што былі сітуацыі, калі ягоную фуру атачалі тамтэйшыя «браткі», патрабавалі даніну. Але шчасціла неяк адбівацца ці ўцякаць.*

*Аднак жа і заробкі аказаліся абы што. Дакладней, гаспадары, што саджалі на дабітую тэхніку, вылічвалі з дальнабойшчыка за любую паломку, абдзіралі як ліпку. Выпісаныя за мяжой штрафы таксама даводзілася са сваёй кішэні плаціць. Там жа строга: вызначаць, прыкладам, польскія паліцыянты, што занадта доўга без адпачынку пілуеш (а куды падзецца, калі іначай за спазненне санкцыі будуць?), і выпісваюць квітанцыю. Карацей, пасля гэтых вандровак іншым разам Саша яшчэ і ў мінусе заставаўся. Я ўсё дзёўб: кідай ты гэту дурную працу! Ён нібыта і не пярэчыў, але ўсё цягнуў рызіну: ну вось яшчэ раз з'езджу, яшчэ раз...*

*Хаця палітычны рэжым Саша ўнутрана не прымаў, аднак класічным апазіцыянерам не быў. І перад выбарамі 19 снежня ў ніводную з кандыдацкіх каманд не ўваходзіў (што не перашкодзіла суду абвінаваціць яго ў папярэдняй змове з супернікамі Лукашэнкі).*

*Гадоў пяць-шэсць таму, праўда, пахадзіў нейкі час у актывістах Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Нават, здаецца, каардынаваў працу раённай суполкі. Казаў мне: на адны тэлефанаванні чорт ведае колькі грошай ідзе, і ўсё пераважна за свой кошт, бо каса партыйная, кажуць, пустая...*

*Потым ад гэтага амплуа адышоў. Не праз ідэйныя ці якія іншыя супярэчнасці з лідэрамі БСДП, а проста таму, што захліснулі працоўныя, сямейныя клопаты: калі трое малых дзяцей, а камандзіроўкі па два тыдні, на партыйную працу часу не застаецца.*

*Пра Плошчу ў яго былі, бадай, рамантычныя, трохі наіўныя ўяўленні. Ведаю, што ў той дзень, 19 снежня, ён размаўляў па тэлефоне з сястрой Вольгай, якая знаходзілася ў Стакгольме. І прыканцы паўжартам кінуў: ну, усё, малая, няма калі з табою прастарэкваць, трэба ісці рэвалюцыю рабіць!*





*Я не ведаў, што ён на Плошчы, хаця сам быў там — і як журналіст, і як грамадзянін. А каб і ўбачыў, дык смешна было б гнаць дадому — не школьнік жа...*

*Цалкам разумею матывы, што вывелі яго на тую дэманстрацыю. Прычым Саша па натуры міралюбны, спакойны. Я ўпэўнены: у ягоі галаве не было ніякіх агрэсіўных намераў. Увогуле атмасфера на Плошчы напачатку была прыўзнятая, кшталту каляднай... Пераважная большасць людзей, мяркую, не верыла, што ўлады адважацца на брутальны разгон.*

*Пасля Сашавага арышту органы запусцяць па розных каналах відэа з мэтай дыскрэдытаваць яго: во які пагромшчык! Сам жа ён толькі на судзе здолее заявіць, што «выкрывальніцкае» відэа груба зманціравана, храналогія цалкам перакручана, а прынцыповыя моманты не адлюстраваны. У прыватнасці, не паказана, як яго ні за што ні пра што ўдарылі рабром спецназаўскага шчыта, разбілі галаву.*

*На кадрах, дзе Саша стаіць перад ланцугом спецназу і спрабуе нешта даказаць, выразна бачны скрываўленая патыліца і каўнер.*

*Мяркуючы па ўсім, ударылі подла, ззаду. І што, хацелі пачуць у адказ гламурны камплімент?*

*Увогуле, аналізуючы радавод, прыходжу да высновы: Класкоўскія не аднойчы мелі праблемы праз тое, што ігнаравалі прынцып «не высоўвайся». Вылазілі наперад, калі бяспечней было «схавацца ў бульбу».*

*Так, мой прадзед, селянін Вацлаў Класкоўскі, у 1930 годзе падчас масавай калектывізацыі скрытыкаваў на вясковым сходзе калгасны лад. Неўзабаве быў асуджаны сумна вядомай «тройкай» па артыкулах «бандытызм» ды «антысавецкая агітацыя», патрапіў у ГУЛаг. Рэабілітавалі яго толькі пасля смерці Сталіна ў 1960 годзе.*

*Рэжым Лукашэнкі недалёка адышоўся ад сталінскага. Ва ўсякім разе, ментальнасць тая ж: іншадумцаў абвяшчаць бандытамі і кідаць у вязніцы. Ды толькі эпоха ўжо не тая. І я веру, што мой сын будзе рэабілітаваны не праз трыццаць гадоў, як прадзед Вацлаў, а значна раней.*

*Мне цяжка было на судзе, але і гонар быў, што мой сын ды іншыя падсудныя (а ў клетцы Ленінскага суда ў траўні 2011 года іх сядзела сямёра, старэйшы — экс-кандыдат Мікола Статкевіч) трымаліся годна. У абвінавачванні безліч разоў гучаў выраз «бесчинствующая толпа»... Дык вось, Саша, калі трымаў апошняе слова, падкрэсліў: «Гэта быў не натоўп, а нацыя, і я ганаруся, што быў там».*

***P.S.***

**Падчас размовы з Аляксандрам Класкоўскім-малодшым я дакладна зразумеў, што трэба пісаць другую частку гэтай кнігі, якая будзе называцца «Жыццё пасля кратаў». Назва сама будзе казаць пра змест...**

*27.11.11*

# ЗМЕСТ

